І. ДВАРЧАНІН

# ХРЭСТАМАТЫЯ
# НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТЭРАТУРЫ

ВЫПУСК V

М. Багдановіч, М. Гарэцкі,
К. Сваяк, Ф. Аляхновіч і інш.

Прагледжана спэцыяльнай камісіяй Беларускага
Навуковага Таварыства.

ВІЛЬНЯ — 1927

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА

І. ДВАРЧАНІН

# ХРЭСТАМАТЫЯ

## НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТЭРАТУРЫ

(ад 1905 году)

ДЛЯ СТАРЭЙШЫХ КЛЯСАЎ
БЕЛАРУСКІХ СЯРЭДНІХ ШКОЛ

ПРАГЛЕДЖАНА СПЭЦЫЯЛЬНАЙ КАМІСІЯЙ
БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА ТАВАРЫСТВА






БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА
—
1927

# Г.

# ПІСЬМЕНЬНІКІ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ.

У паняцьце — інтэлігенцыя ўкладаюць самы розны сэнс. Кажучы найкарацей, гэта найбольш асьвечаная частка грамадзянства. Гаворачы больш папулярна і прыпасоўваючы аднальковую мерку, як і да іншых грамадзянскіх угрупаваньняў, скажам, што гэта людзі, якія жывуць з працы галавы, інтэлекту. Інтэлігенцыя не складае асобнае клясы ў грамадзянстве, а, як частка яго найболей асьвечаная, аддае сваю веду іншым, больш выразна вызначаным, болей зарганізаваным клясам, якіх само жыцьцё прымушае да гэтага. Розныя абставіны: паходжаньне, выхаваньне, асабістая ўдача ў жыцьці, асабістыя здольнасьці, абставіны вонкавага характару і г. д.—робяць паасобных інтэлігентаў прыхільнікамі тае ці іншае клясы і пасьлядоўнікамі, а найболей і праваднікамі яе думак, ідэалёгіі.

Ня гледзячы на гэта, інтэлігенцыя мае і свае асаблівыя, ёй толькі зродныя залюбкі, густы і зацікаўленьні.

Інтэлігенцыя зацікаўлена ў разьвіцьці роднай мовы. Гэта пашырае яе аўдыторыю. Яна зацікаўлена ў стварэньні ўласнага гаспадарства, якое можа забясьпечыць ёй дабрабыт і зрабіць аўдыторыю больш пэўнай.

Будучы групай найболей адукаванай, яна тонка ўмее цаніць мастацтва і наагул усе праявы культурнага жыцьця. Гэта складае часьць яе душы.

Інтэлігент жыве асабістым, зачыненым ад другіх жыцьцём, жыве ў самім сабе. Часта з цікавасьці, а найболей прымушаны жыцьцёвымі абставінамі, ён ставіць перад сабою пытаньні абстрактнага характару, якія менш цікаваць другія групы грамадзянства. У інтэлігента — вечныя разважаньні, шуканьні, часта вельмі балючыя. Тут і вялікія сусьветныя проблемы, тут і пытаньні парадку псыхолёгічнага, этычнага, эстэтычнага... Пры пэўных варунках вытвараецца асобны тып інтэлігента з яго рэфлексыяй, індывідуальнымі перажываньнямі, з вечнымі г. зв. праклятымі пытаньнямі, тып чалавека ідэі, мучаніка тэорыі. Усё гэта адбіваецца і ў літэратуры.

Пісьменьнік інтэлігенцыі — гэта той пісьменьнік, які сваімі творамі передае настрой, адбівае асаблівыя мамэнты, якія інтэлігенцыя лічыць за свае, захапляе яе душу тою ці іншаю стараною сваей творчасьці.

Беларуская інтэлігенцыя амаль цалком паходзіць з працоўных гушчаў, стаіць найбліжэй да іх і зьвязвае з імі свой лёс. Але усё-ж асаблівыя раўнуючы да гэтых гушчаў—умовы жыцьця паступова надаюць і ёй асаблівы рысы ў ідэолёгіі. Гэта ўжо было часьцёва заўважана пры характарызаваньні паасобных пісьменьнікаў сялянскіх.

Пісьменьнікаў, якіх можна залічаць да чыста-інтэлігенцкіх пісьменьнікаў, няшмат. Толькі перавага інтэлігенцкіх элемэнтаў у творчасьці ніжэй паданых змушае іх вынесьці ў асобны адзел.

# Максім Багдановіч.

Найвыдатнейшым чыста-інтэлігенцкім пісьменьнікам нашаніўскае пары зьяўляецца М. Багдановіч. Паходзячы з сям'і інтэлігентаў і меўшы магчымасьць дастаць добрую адукацыю і выхаваньне, як у школах, гэтак і па-за школай, — Багдановіч выступіў на літэратурную ніву ўжо як зусім выраблены, аформлены інтэлігент з пэўнаю літэратурнаю ведаю, густам і затрабаваньнямі.

Літэратура для Багдановіча не зьяўляецца толькі сяродкам a) для выяўленьня набалеўшых на душы пытаньняў. Яна зьяўляецца для яго яшчэ і мэтай сама па сабе, як пэўная галіна мастацтва. Багдановіч — поэт „мастацтва для мастацтва". Ён служыць сьвядома хараству, культу хараства, якое знаходзіць усюды: у гуках, у прыродзе, у розных праявах яе, у творах людзкіх рук, у самым мастацтве, у поэзіі.



Максім Багдановіч.

Гэтае хараство ён хоча адбіць у сваіх творах. Ён вымагае чыстаты, пявучасьці мовы, гладкасьці верша, хоча „з сталі каваць, гартаваць гібкі верш"; хоча і ў беларускай мове ўжыць усе самыя пяшчотныя формы ў вершаваньні, якія ўжываліся ў сусьветнай літэратуры. Ён тут зьяўляецца поэтам формы.

Любоў да мастацтва сплятаецца ў Багдановіча з любоўю да бацькаўшчыны. Ён сваею поэзіяй хоча сьвядома служыць бацькаўшчыне, тэмы бярэ з роднае прыроды, гісторыі, мастацтва — наагул жыцьця. Толькі ён ставіць гэта ў сувязь з агульна-чалавечымі разуменьнямі. Нацыянальны ў зьмесьце, Багдановіч зьяўляецца панаднацыянальным у спосабе правядзеньня. Самая любоў да бацькаўшчыны ў Багдановіча не такая, як у іншых пісьменьнікаў. Ён любіць проста Беларусь, як нешта ў сабе існуючае, абстрактнае. Любіць яе гісторыю, мінуласьць, нявыразную сучаснасьць, але не перажывае мукаў імкненьня да тварэньня бацькаўшчыны ў пэўных формах.

Пры думцы аб будучыне ў яго закрадваюцца сумляваньні.

Ўсе гэтыя рысы творчасьці Багдановіча адказваюць настрою і густу чыстае інтэлігенцыі і тым самым робяць яго прадстаўнікам яе ў літэратуры.

Багдановіч пісаў вершам і прозай. Апошняе менш. Большая часьць вершаў увайшла ў асобны зборнічак: „*Вянок*", Вільня, 1913 г. Апроч таго, Багдановіч займаўся крытыкай і ня толькі на старонках беларускіх часопісаў, а таксама украінскіх і расейскіх.

---

a) Слова ўжыте замест ранейшых — срэдства, сродак.

Радзіўся 1892 г. у Менску, але хутка пераехаў у Ніжні-Ноўгарад і Яраслаўль, дзе яго бацька, родам з Горадзеншчыны, быў гімназіяльным вучыцелем. Тут-жа скончыў гімназію і паступіў у Юрыдычны Ліцэй.

Любоў да Беларусі прывіў яму бацька. Калі поэт сам дастаў беларускую кніжку, зразу загарэўся жаданьнем паслужыць свайму народу на полі літэратуры. Пачаў пісаць вершы і пасылаць у рэдакцыю „Нашае Нівы“. Там аценілі яго арыгінальную творчасьць, і ён стаў адным з чынных супрацоўнікаў часопісі. Яго самога цягнула на бацькаўшчыну. Быў два разы: 1911 г. у Вільні і 1916 г. у Менску. Апошні раз зусім хворы сухотамі. Па радзе сяброў ён паехаў у Крым, але тут 12 траўня 1917 г. у Ялце памёр. Цяпер беларусы над яго магілай паставілі помнік.

---

# Чуеш гул.

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун [а])
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, разважаючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя [б]) сосны зьвіняць.

І ці трэба казаць, чаму сьціхла рака,
Не шасьцяць у палёх каласы,
І аб чым шапаціць галасок вецярка,
Што зіяе — дрыжыць на лісьцёх лазьняка:
Кроплі сьлёз, ці халоднай расы?

---

# Зьмяіны цар.

Ў цёмным небе — хараводы [в])
Сінявэтых зорак,
Ў цёмным небе сьвеціць месяц
Залатым сярпом...

Мы ўжо выйшлі з цесных, душных,
Пад'земельных норак,
На зімовы цёмны вырай
Цягнемся — паўзём.

Ў полі, ў лесе нам усюды
Праляглі дарожкі!
Ўстужкай [г]) рушымся між пушчы,
Насамперад — я.

Зіхацяць маей кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным бліскам адлівае
Ўся луска мая.

Нам ня трэба ні ад чога
Ноччу абароны, —
А спаткаем чалавека,
Порт [д]) разьцеле ён,

Залаты ражок яму
Я ўраню [е]) з кароны,
І праз белу палатніну
Дальш мы папаўзём.

---

а) Дух лесу, даўней—лясны бог. б) Русіц.—тонкія, з тонкім камлём. в) Русіц.—карагоды. г) Істужкай, стужкай. д Палатно. е) Русіц —кіну.

## Бура.

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ўдаль марудна праплывае.
Усё сьціхла. Але вось паветра расьсякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся:
Мігае грозны меч, удары не змаўкаюць,
І ўніз халодныя бічы крыві сьцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся!

## Прывет табе.

Прывет табе, жыцьцё на волі!
Над галавой — дубоў павець [а]).
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісьцяў сець.

Лахмоцьця ценяў на палянах,
Схаваўшы золата, ляжаць;
Яго слаі з-пад дзір парваных
Аж зіхацяць.

А к ночы свой чырвоны веер [б])
У небе сонца разьвярне,
І разварушаны ім вецер
Удаль памкне.

Калі-жа пабляднее золак [в])
І цёмнай зробіцца вада,
Зазьзяе серабром іголак
Зор грамада.

І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі бліск і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І зьнікшы дзень.

## Добрай ночы, зара...

Добрай ночы, зара-заранiца!
Ужо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай [г]) усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу!
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варуша-калыша,
Міла бомы [д]) сьмяюцца у цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-заранiца!

## Сомнамбул [е]).

Месяц выплыў над змрочнай заснуўшай зямлёй
І павёў яго ў цёмную даль за сабой
І прывабіў да мглістай, халоднай вады, —
Сэрца білася рыбкай у сеці тады.

---

а) Навес, ужываецца для азначаньня будынку, яшчэ—насець, паветка, падпаветка. б) Веер — прылада для адгону мух з твару, ці асьвяжаньня твару ў гарачыню, робячы ім вецер. в) Чырвань перад усходам сонца. г) Адзежа духоўніка; тут наагул—пакрывала. д) Слова мае рознае значэньне — бразгучыя цацкі; бервяно, якім выварочваюць карчы, наагул бразгучка. е) Чалавек, які ўва сьне устае нясьведама з пасьцелі і ходзіць, ня ведаючы аб гэтым.

Але месяц правёў праз раку сьветлы шлях,
І разьвеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна — серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.

Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна;
Агарнула яго цішыня, глыбіня.

---

## Плакала лета.

Плакала лета, зямлю пакідаючы,
Ціха ліліся сьлязінкі на поле,
Але прыгожаю восеньню яснаю
Там, дзе упалі, яны выраслі
Кветкі асеньнія, кветкі ўспаёныя
Тугаю, горам, сьлязінкамі лета.
Кветкі асеньнія, родныя, бледныя!
Вырасьлі вы, каб ураз-жа і згінуць.
Можа таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае?

---

## Зімой.

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мягкі сьнег!
Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары а), белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны [19]) месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю б) раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

---

## Падыймі угару...

Падыймі угару сваё вока
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцьця.

Ціха тучу в) блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл,—
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае [13]) казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

---

а) Полён. — лятунак. б) Сярэбранаю. в) Рус. — хмару.

## Маёвая песьня.

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых, —
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песьня, —
Ціхі, ясны гімн [a]) вясьне.
Ці ня сэрца напявае,
Навявае яго мне?

Ці ня вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо' сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?

Не паняць [б]) таго ніколі,
Не разьведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, зьвіняць.

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны сьвет.
Але хто яе пачуе? —
Можа толькі сам поэт.

---

## Романс.

Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю,
Сьветлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла.

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае,
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, у расстаньні
Там з ёй зьліем мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханьне,
Глянь іншы раз на яе...

---

## Ня кувай...

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо' і скажаш, што я жыці буду —
Але лепш не гавары.

Бо ня тое сьведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае:
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.

Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

---

*а*) Урачыстая песьня. *б*) Рус. — зразумець.

# Летапісец [а]).

„Душой стаміўшыся ў жыцьцёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна летапіс другі ўжо год пішу:
Старанна літары малыя вываджу
І сьпісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрыя яго, і кепскія дзяла [б])
Апавядаю тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.
І бачанаму мной — я годны веры сьведак.
Хай тыя ведаюць, што зьявяцца па нас
Ўсю праўду пра жыцьцё у наш, пройшлы час
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў [в]) і паспольства [г]),
Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства.
Што тут чынілася у даўныя гады,
Што думалі, чаго бажалі [д]) мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Хай зьведаюць ўсё патомкі праз паперу.
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, —
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць маё няхітрае пісаньне
Пра гэтае жыцьцё, надзеі, справаваньні...

Так мора — ў Гданску, я чуваў,—прымчыць вадой
Бутэльку к берагу, аблíпшую смалой,
Ўсю ў дробных ракаўках і ў ціне. Не замала
Яна была ў вадзе і шмат чаго спаткала.
Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць
І, як трапляецца, быць мо' у ёй знайдуць
Ліста. Па звычаю марскому гэтак весьці
Нам, утапаючы, шлюць людзі. Ў моры гдзесьці
Загінулі яны, і, мажа, соткі год
З тых часаў працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё зьмянілася, і ўжо пра іх забылі.
Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!
І людзі зьведаюць аб прадзедах сваіх
Аб горы, радасьцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі“.

---

а) Той, хто пісаў летапіс, запіс па гадох. б) Лепей — справы. в) Розныя выбарныя асобы ў сераднявеччы. г) Увесь народ. д) Украін.—жадалі.

## Перапішчык.

На чыстым аркушу, прад вузенькім вакном
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; а) усякімі цьвятамі),
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданых, спляценьнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь—даволі ёсьць знароўкі в)—
Свае шматфарбныя застаўкі г) і канцоўкі,
І загалоўкі, ўсё, — няма куды сьпяшыць!
Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае ваконца
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар, гарачымі; а тут, каля вакна,
Малінаўка пяе і стукае жаўна.

І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Нияркім серабром; нячутна дзень праходзіць.
Ўжо хутка будзе ноч і першая гвязда д)
Благаславіць 4) канец прыгожага труда е)

---

## Слуцкія ткачыхі.

Ад родных ніў ж), ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцьвіла вясна,
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьзяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі,
Цямнее край зубчаты бору...

І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пэрсідзкага узору
Цьвяток радзімы васілька.

---

## Вулкі Вільні.

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць
І гараць аганьком вочы змучаных твараў!

---

а) Русіц—радок. б) Лепей—прывычкі, удачы. в) Украса уперадзе пісьма, тэксту (гл. тут у пачатку кнігі). г) Полён.—зара. д) Лепей—цяжару. е) Ніваў.

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх старасьвецкіх будынкаў;
Між каменьнямі — мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблят [а]) — пільны сьведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сьняць
Ў небе копулы, брамы, байніцы і шпіцы [б]);
Грук хады адзінокай здалёка чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра [в]) усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны, загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

---

## За дахамі места...

За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветра напоена ціха гусьцеючым мрокам;
Ўжо відна, як іскры зьлятаюць з трамвайнага [г]) дрота [д]),
Як зоркі гарацьі зрываюцца ў небе далёкам.

Музыкі стагнаньне ліецца па вулках з бульвара [е]);
Гарацьі агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;
Ўкруг тоўстага шкла яна ўецца, як лёгкая хмара.
А к сьвету прабіцца ня можа і топіцца марна.

І ўспомніў я час: срэдзь [ж]) васеньняй нахмуранай ночы
Музыка зайграла, агні ўвышыні запылалі,
Ўдыхалі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...
Мы к сьвету ўзьляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі.

---

## Завіруха.

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
І сьпеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку справіў пан Падвей [з]).
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе,
Ўскіпела сьнежнае віно
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

---

а) Ням. — на гадзіньніку пярэдні бок з цыфрамі; тут—гадзіньнік. б) Ням.—завостраныя вярхі дамоў, касьцёлаў. в) У сярэднявечча — начальнік места. г) Трамвай — вагон электрычнай дарогі. д) Дроту. е) Бульвару. ж) Старабаўг. — сярод. з) Нібы дух ветру; вецер.

## Упалі з грудзей...

Упалі з грудзей пана бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор

І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны, ясныя, бачаць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?..

---

## Краю мой родны! Як выкляты богам...

Краю мой родны! Як выкляты богам —
Столькі ты зносіш нядолі!
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сьціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат-што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынесьлі моцныя сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сьцісьнецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песьня пяе, як удовіна сына,
Янку, каханьне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.

Ў гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Хваляй шырокай разьлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацьці! Ці зможам грамадзкае гора?
Брацьці; Ці хваце [a]) нам сілы?!

---

## Рушымся, брацьця.

Рушымся, брацьці, хутчэй
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Ня стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць.—
Хвалі-ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

---

*а*) Лепей — хопіць.

## Устань, навальніца

Устань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый вецер з ёю за адно!
У віхры уляціць палова [а]),
Пакіне чыстае зярно [б]).

Удар, цыклон [в]), удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўсплясьні ваду — і пэрлаў [г]) горы
На берег выкіне яно.

## Ня блішчыць у час зьмярканьня...

Ня блішчыць у час зьмярканьня і ў глыбокай цемні ночы
Дыямант [д]) каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Бліск яго цудоўны [13]).
Бо калі на гэты камень упадзець праменьне [е]) сонца,
Ўраз ён блісьне дзіўна
І вясёлкавыя іскры рассыпаць пачне бясконца
Ярка, пераліўна.
Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і няшчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны
І засьвеціць ясна!

## Даўно ўжо целам...

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краі ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыпца
Сваей нуды.

Калі-ж у ім умру-загіну —
Ня жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Знайдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.

## Песьняру.

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цьвёрдыя быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

---

а) Рус.—мякіна. б) Рус.—зерне, зерне. в) Вялікая бура на моры. г) Пацяркаў; дарагіх каменьняў. д) Дарагі камень. е) Ужываецца болей—косы.

## Вы, панове, пазіраеце...

Вы, панове, пазіраеце далёка
Ў бліску сонца з вялізарных плеч народных,
Але сьвятло крые шмат чаго ад вока:
Днём ня бачыце вы зорак пуцяводных.

Заглянеце-жа, будзь ласка, вы у студню:
Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,
Але дно яе і ўночы і ўпалудню
У вадзе люстранай зоры адбівае.

К тым, каго жыцьцё заціснула глыбока
Ўніз, у норы пад'зямельныя пад вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка,
Заглянеце ў душы — студні са сьлязамі.

---

## Была калісь пара.

Была калісь пара: гучэла завіруха
І замяла маей мінуўшчыны сьляды.
І сьціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё ня б'юцца скрыдлы [а]) духа:
Куды цяпер ісьці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды, — пануры, чорны.
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэньня сэрца ўзрыць? —
Мо' ўзыйдуць там надзеі зёрны!... [б])
Куды-ж ісьці і што рабіць?

---

## Пэнтамэтры [в]).

Чыстыя сьлёзы з вачэй пакаціліся нізкай [г]) парванай,
Але, упаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.

* * *

Хіліцца к вечару дзень, і даўжэйшымі робяцца цені;
З болем пад захад жыцьця ўспомніш пра гэтае ты.

* * *

З нізкага берагу дно акіяна вачом недаступна, —
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзьбярыся ўгару ня вяршыну прыбрэжнай страмніны,
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль.

---

а) Полён.—крыльлі. б) Зярняты. в) Верш у пяць дактыляў. г) Радком, шнуром.

## Сонэт [a]).

Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насеньня жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясеньняй збожжа на ральлі.
Вось сымвал [б]) твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засьне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на простор прабіцца.

---

## Трыялет [в]).

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы?
Калісь глядзеў на сонца я.
Няхай усе з мяне рагочуць,—
Адповедзь [г]) вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.

---

## Рондо [д]).

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла:
Вада балот, стаўкоў, вазёр
Яго ў глыбі сваёй адбіла.
І гымн сьпявае жабаў хор
Красе, каторую зьявіла
Гразь луж; напоўніць мгла простор,
І ўстане з іх гарачы міла

Узор.

І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб ня ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла

Узор.

---

а) Лірычны верш з 14 радкоў, два вершы на чатыры радкі (quatrains) і два па тры (tercets), апошнія ў тры рыфмы. б) Знак, ужываецца яшчэ — сымболь. в) Верш з васьмёх радкоў, дзе чацьверты і сёмы паказваюць першы, а восьмы—другі. г) Полёв. — адказ. д) Франц. — верш 13—15 радкоў толькі у дзьве рыфмы.

## Октава [а]).

Як моцны рэактыў [б]), каторы выклікае
Між строк[в]) ліста, маўляў нябожчыкаў з магіл,
Рад раньш нявідных слоў, — так цемень залівае
Зялёны, быццам лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжачы срэбны пыл.
Здароў, радзімыя! Мацней, ясьней гарэце
І сэрцу аб красе прыроды гаварэце!

---

## Тэрціны [г]).

Ёсьць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць,
Пажыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным, —

Быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым поэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

І вось зьвярнуўся я к рондо, сонэтам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам,

Так вершы зьзяюць даўніх форм красой!

---

## У вёсцы.

Хвалююць сэрца нам дзявочыя пастаці,
І душы мацярэй [д]) нас могуць чараваці;
Вышэйша краса — ў іх зьлітнасьці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй,
Жадаючы зьявіць цераз свае халсьціны
Пачуцьці мацеры у вобліку дзяўчыны,
Красы тэй сымбалем, Маць-Дзева, стала Ты —
І глянулі Твае з-пад пендзаляў [е]) чарты [ж]).
З таёмным трэпетам на іх я пазіраю,
Мінулае свае прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшага жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою,
І здарэньне адно ўстае перада мною.

---

*а*) Верш з васьмёх радкоў; рыфмы чарадуюцца розна, найболей шэсьць радкоў у тры рыфмы праз адну, як тут; два апошнія радкі маюць асобную рыфму. *б*) Хімічное злучэньне, якое пры даткненьні да другое рэчы выклікае ранейшы колер. *в*) Рус.— радкоў. *г*) Верш з 10—11 радкоў, у ямбічным размеры, раздзелены па тры радкі, прычым у кожнай часьці першы радок рыфмуецца з трэцім у сваей часьці і з другім у папярэдняй. *д*) Лепей — мацяроў, мацяркоў. Але ўсе гэтыя формы ўжываюцца мала, болей ад маці (нязьменная форма) і матка. *е*) Лац.—квач. *ж*) Рус.—рысы.

* * *

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Пануraю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі шэрыя, струхлеўшыя; як латы,
Віднеліся ў сьцянах сьляпыя вокны іх,
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Ўсё руйнавалася, старэла, адмірала
І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду; мак яркія цьвяткі
Рожнакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць грушу,
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго.
І да таго-ж з людзей ня відна нікаго, —
Яны па полі ўсе; не мільканець спадніца,
Ня пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,
Ня ўгледзіш белую магерку [а]) мужыка,
Ў паветры не памкне іржаньне жарабка,
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што-ж дзіўнага, калі, раптоўна крык дзяцёнка [б])
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на ручках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сьцяжынкі,
Да нянькі траплячы — так год васьмі дзяўчынкі.
І вось, дабраўшыся, ў падолак разам з ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй
І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач — зусім, як быццам маць.
І саліваліся [в]) ў жывы абраз ядыны [г])
Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны —
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою, —
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчынцы той, —
Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой, —
А штось вышэйшае, што Рафаэль [д]) вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

* * *

Страніца лепшая ў штодзёньніку жыцьця!
Зноў з ціхай радасьцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго з тых год крыніца змыла
У памяці маёй, хай той дзяўчынкі мілай
Ўжо воблік губіцца у цёмнай глыбіне, —
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне!

---

а) Шапка без казырка. б) Лепей—дзіцятка. в) Зьліваліся. г) Полён. — адзіны.
д) Вялікі італьянскі мастак — маляр у часох італьянскага Рэнэсансу (Адраджэньня).

*З раскіданых вершаў.*

## Над магілай мужыка.

Сьпі, бядак! Накпілась доля над табою:
Ты рабіў, а ўвесь здабытак твой — труна;
Усё жыцьцё сваё змагаўся ты з зямлёю,
Але урэшце ўсё-ж асіліла яна!

Над табой пласт гліны цяжкай навaліла,
Грудзі ўпаўшыя прыціснула пяском...
Дык скажы ты мне, халодная магіла:
Дзеля чаго-ж змагаўся цягам ён з жыцьцём?

---

## З песьняў беларускага мужыка.

Гнуся, працую, пакуль не парвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць;
А каб ведаў, што столькі пральлецца
Майго поту, ня стаў-бы і жыць.

Адтаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў и дарогі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'я
Плугам глебы сухія пласты.

Працаваў над пяском, над дрыгвой,
І нямала там выцерпеў мук,
І ня прыдзецца мне пад зямлёй
Гэтых чорных сароміцца рук.

А канаць ужо час: пот і сьлёзы
Мне жыцьцё, нібы мышы, грызуць,
Гора мне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасьце-ж гляне і ўдаль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сьніць...
Дык няхай-жа, няхай сабе рвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць.

Я хлеба ў багатых прасіў і ма . . . [a])

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

a) Канец верша ў друку зачэрнены, відаць, як недазволены цэнзурай.

# Пагоня.

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Ўспомню Вострую Браму сьвятую *а*)
І ваякаў на грозных канях *б*).

Ў белай пене праносяцца коні —
Рвуцца, ймкнуцца і цяжка хрыпяць,
Старадаўняй Літоўскай Пагоні *в*)
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо' яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх, бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай *г*) збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць...

---

# Максім і Магдалена.

Гэй, пайду я ды па вуліцы
Ў тое поле за ваколіцу.
Ля ваколіцы і плот, і гарод,
Завіваецца хмялінушка *д*).
Ды чаму-ж цябе, зялёную,
Градам-дожджыкам ня выбіла?
Ты, хмялінушка вясёлая,
Раскудравая хмялінушка,
Загубіла буйну голаву,
Буйну голаву Максімаву.

Максім у карчомцы гуляе,
Ён гуляе—крыж прапівае,
Да таварышоў сваіх выгукае:
„Піва-мёд у карцы *е*) налівай,
Каб лілося аж за край, аж за край;
Песьню гучную ямчэй завадзі
Ды цымбаламі падыгрывай!“

Гэй, як скрыкнуць, як утнуць гапака!
Толькі сьцены захадзілі у шынка.
Струны звонка вымаўляюць з-пад рукі,
Ёмкім дробам выбіваюць хадакі,
Іх сталёвыя падкоўкі зьвіняць; —
Ля парога людзі добрыя стаяць,
Падпяваюць, прыгавараваюць,
Ды Максіма ўсё пахваліваюць.
Ён сядзіць — не памалу п'е,
Пад цымбалы у далоні б'е,
І хмельна-ж яго галава,
Мова дзіўная так-такава:

„Магда, Магдачка,
Мая кветачка-пралесачка!
Не кахацца мне, хлопу, з табою,
Ваяводы старога дачкою.
Сёньні *ж*) з войтам цябе заручаюць,
Рушнікі вынімаюць.

---

*а*) Абраз Дзевы Марыі на даўнейшай гэтак званай Вострай Браме (варотах) у Вільні. *б*) Над брамаю зьмешчаны трое коняў з коньнікамі. *в*) Гэрб старое Літвы-Беларусі. *г*) Полён. — серабранай. *д*) Пабеларуску правільна — хмялінaчка. *е*) Мера. *ж*) Сягоньня.

Русу косу тваю прапіваюць.
То нятраўка-павіліка расплятаецца—
Наша вернае каханейка канчаецца.
Ўжо ня будзеш гуляць, як бывала,
Цалаваць, як раней цалавала,
Выхадзіць у сад апаўночы,
Глядзець ненаглянаму ў вочы.
Ты марцовага сьнегу бялей,
Броўкі—долі сіроцкай чарней.
Не забыць іх сэрцу ніколі,
Ня бачыць да веку патолі.
Лійся, піва, цячы, як вада,
Бо пала на сэрца нуда!"

У хмялю Максім гавора, не чакае гора,
Ды пачула тыя словы шынкароўна Сора.
Ўзяла Сора да палацу шпарка пабяжала [а]),
Ваяводзе а прыгодзе ўсё пераказала.
Гэй, як грымне ваявода у памост нагою:
„Налажы-ж ты, лядацюга, буйнай галавою!"
Толькі ўчулі тое слугі — зара [б]) пасьпяшалі,
Ланцугамі хлопу ногі закавалі,
Павялі на пляц кірмашовы,
На памост высокі сасновы.
Людзі добрыя ўкруг стаяць.
Ён ідзе-ня-йдзе, супыняецца,
Белы ручанькі па бакох вісяць,
Ногі борздыя вагаюцца.
Ды ня жаліцца да людзей Максім,
Толькі кажа ён аб цымбалы ім:
Хоча зноў пачуць тое гранейка
У астатні раз,
У сьмяротны час,
На апошняе са сьветам разьвітанейка.

Вокам кінуць — цымбалы дасталі,
На памост на высокі паклалі.
Устрэхнуў Максім кудрамі--годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важна, сумнюсенька ён заводзе:

„Не вятрыска са паўночы павявае —
Ціхі сон у камору ўступае,
Вочы мне стуляе, ацьмянжае [в]).
То ня птушка у гнязьдзечку ўстрапянулася —
Маё сэрца улякнулася [г]).
Сьнілась мне: я узьмежкам іду,
Поруч збожжа калыхаецца,
Поруч збожжа калыхаецца,
Буйнай, срэбнай расой асыпаецца...

а) Рус.—пабегла. б) Лепей — зараз. в) Пол. — зацямняе, асьляпляе. г) Пол.—спалохалася.

Сёньні споўніўся той нядобры сон,
Сёньні споўніўся цераз дзевяць дзён:
Праз цябе, дзявоцкая краса,
Сьлёзы коцяцца, як буйная раса".

Ціха ўсё — толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца,
Людзі добрыя навакол стаяць —
З болю сэрца разрываецца.

Гэй, было-б табе, Максіме, не кахацца,
Да вяльможнае дачкі не заляцацца!

Устрахнуў Максім кудрамі—годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:

„Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка пракраснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі цьвяты расцьвітаюць,
Ад яго-ж яны і пасыхаюць.
А ты, сонца, сьвеціш,
Залатое, сьвятое,
І ня ведаеш тое".

Ціха ўсё — толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць. —
З болю сэрца разрываецца.

Эй, было-б табе, Максіме, не кахацца,
Да вяльможнае дачкі не заляцацца!

Устрахнуў Максім кудрамі—годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:

„Мае дзетачкі, мае дробныя,
Вы наплачацесь, нагалосіцесь,
Бо ня стане у вас татачкі!
Хто вас будзе гадаваці, адзяваці
І ад цёмнай ночы укрываці?
Станеце вы, дзеткі, жабракамі,
Пойдзеце барамі-лугамі,
Ды гасьцінцамі — дарогамі.
А дарогі тыя без канца ляжаць, —
Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець".

Ціха ўсё — толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць —
З болю сэрца разрываецца.

А як сьмерцяй Максіма скаралі —
Рукі белыя да брамы прыбівалі,
Рукі белыя да брамы мястовай,
Галаву—да вежы вартовай,
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры-бы сушылі,
Каб крукі прылятали — вочы дзюбалі,
Ўсе-бы людцы пазіралі, ды не забывалі.

---

## Народ, Беларускі Народ!

Народ, Беларускі Народ!
Ты—цёмны, сьляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе ня пушчалі з ярма
І душу Тваю абакралі —
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Увесь поўны сьмяротнай жуды,
Ты крыкнуць нявольны: „Ратуйце![a]
І мусіш ты „Дзякуй“ — крычаць.
Пачуйце-жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць.

---

*Проза.*

## Апокрыф.

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Калі скончылася сем тысяч год ад сатварэньня сьвету, Хрыстос ізноў зыйшоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі прарокі.

3. І хадзіў ён па ўсяму нашаму краю: і па меншчыне, і на віленшчыне, і па магілёўшчыне, і па задзьвінскай зямлі.

4. І разам з Ім былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто з людзей не пазнаваў Яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі, з непакрытымі галавамі і былі адзеты ў белы кужэль, а не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва праходзілі яны між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, каторому ня было што рабіць, падыйшоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоньня—дзень працы і ўсе клапочуцца каля яе; адзін я — нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: „ня смуціся ў сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму ня схіляй нізка галавы тваей і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

---

а) З пасьмяротных вершаў.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі; запраўды кажу я табе: вось надыйдзе да яго гадзіна горачы — і чым ён разважыць смутак свой, апроч песьні тваей? Так сама і ў дзень радасьці ён прызавець цябе".

10. І, паўчаючы яго, казаў: „пад песьні кладуць чалавека ў калыску, і са сьпевамі-ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клапотамі поўна людзкое жыцьцё. Але, калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне. А ці-ж ня лепшым і будзеце вы ад іх?"

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: „Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сцісьнецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючых скарынкі хлеба, прыйдзе з песьняй сваей?"

14. І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: „так, жыцьцё гэтых людзей цяжкае, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім — няўжо-ж трэба, каб было менш?"

15. І, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: „калі пяюць песьні ў вас?"

16. Музыка-ж адказаў: „пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах, і на хрэзьбінах, пяюць, дзіця калыхаючы, і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бяседзе і ў працы і ў маскалі ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць".

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: „ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым".

19. Тады ізноў сказаў Пётра: „але няхай-жа ў песьнях будуць думкі добрыя і паўчаючыя, каб, апроч красы, меўся ў іх і спажытак чалавеку".

20. І адказаў яму Хрыстос: „няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы".

21. І, наўчаючы іх, прамовіў: „агляняцеся навокал. Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў каля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі-б узрасьці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я ня вырву з каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так казаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я-ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?"

27. І, кажучы так, пачуў Ён песьню жнеяк і прамовіў: „слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб“.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: „няма лепш цьвяточка над васілёчка“. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мягкім пылу дарогі сьляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амін.

---

## Над морам.

Учора йшчэ буры раскаты грымелі, выў вецер шалёны, насіліся чайкі [а]) над морам, як белыя сьнежныя ком'я [б]), і цёмна-зялёныя хвалі ўвышу ўзмывалі сьцяною, рассыпаўшы белыя кудры; ўзмывалі, кaціліся ў моры, адна за аднэй набягалі на дзікі, абрывісты бераг,— і бурыя скалы трасьліся пад вагай іх цяжкіх удараў, сваімі грудзямі на брызгі вады разьбіваючы глыбы. Паветра стагнала, і хвалі пад грохат і гул пагібалі так горда, вясёла і вольна, пакінуўшы думку аб сьмерці! І я быў вясёлы і горды. І мне пачуцьця волі хваля, налюнуўшы, ўпалыя грудзі высока ўгару падыймала, змываючы з сэрца ўсю ціну [в]). І ўсё, што ў ім спала глыбока, тады прабудзілася разам, зрабілася цэльным [г]), магутным... і чуў я, свабодны і моцны, так, чуў, што і я—чалавек!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мінулася грозная бура, а мора дасюль яшчэ б'ецца. Ў бязьмежным сьвінцовым абшары ўздымаюцца дзе-ня-дзе хвалі, ідуць без надзеі, бяз волі, панура да берагу люнуць, аб скалы удараць бясьсільна і згінуць з глухою нудою. Шкада мне вас, шэрыя хвалі, шкада ўсёй душой надарванай, ўсім сэрцам, ужо апусьцелыя: вы-ж родныя сёстры мае!

---

## Музыка.

Жыў на сьвеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго граньню нуда, што аж за сэрца хапала...

Плача скрыпка, льлюць людзі сьлёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласьней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачом сьлёзы: так і ўдарыўся-бы грудзьмі аб зямлю, ды ўсё слухаў-бы музыку, усё плакаў-бы па сваёй долі...

А бывала яшчэ і так, што музыка быццам вырастаў у вачох людзей і тады граў моцна [г]), гучна: гудзяць [д]) струны, зьвініць рымка, бас як гром гудзіць і грозна будзіць ад сну і заве [е]) ён народ. І людзі падыймалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчэлі іх вочы.

---

а) Птушкі—кнігі, кнігаўкі. б) Лепей — камякі. в) Вадзяныя расьліны, мясцамі іх называюць — жабурэньне, твань. г) Правільней — суцэльным. д) Лепей — гудуць. е) Ле-пей — кліча.

Тады бляднелі і трасьліся, як у ліхаманцы [а]), і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі [б]), ўсе крыўдзіцелі народу. Многа іх хацела купіць у музыкі скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому. І хадзіў ён далей між бедным людам і граньнем сваім будзіў ад цяжкага сну. Але прыйшоў час, і музыкі ня стала: злыя і сільныя людзі кінулі яго ў турму, і так скончылася жыцьцё яго... І тыя, што загубілі музыку, узялі яго скрыпку і пачалі самыя [в]) граць на ёй народу. Толькі іхняе граньне нічога людзём не сказала. „Добра граеце, — гаварылі ім, — дык усё ня тое!“ — І ніхто ня мог растлумачыць, чаму ад граньня музыкі так моцна білася сэрца бедакоў. Ніхто ня ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру. Душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён на людзёх; гэта, гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах; і ніводзін сыты ня мог так граць, як грала народнае гора.

Прайшло шмат гадоў з таго часу. Скрыпка разьбілася. Але памяць аб музыцы ня згінула з ім разам. І з-паміж таго народу, катораму ён калісь граў, выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граньнем сваім будуць будзіць людзей к сьвету, праўдзе, брацтву і свабодзе.



а) Хвароба, трасца. б) Ядсй — гадзіны. в) Самі.

# Максім Гарэцкі.

Багдановіч стварэньнем культу хараства зачараваў беларускую інтэлігэнцыю. Але ён зачапіў толькі часьць душы інтэлігэнта. Ён ня даў нам тыпа самога інтэлігэнта. З гэтага боку дапаўняе яго Максім Гарэцкі.

Маладым выступіў Гарэцкі на поле беларускай літэратуры і паказаў сябе вельмі орыгінальна. У той час, калі ўся амаль літэратура пралівала сьлёзы над доляй селяніна, ён, сялянскі сын, спакойна піша з жыцьця інтэлігэнцыі з яго вечнымі думкамі, разважаньнямі. Ён апісвае жыцьцё express вясковай інтэлігэнцыі, іх адносіны да акружаючага сьвету, урэшце жыцьцё памешчыкаў...



Максім Гарэцкі.

Праўда, Гарэцкі ацэньвае іхнія паступаньні як належыць асьвечанаму сялянскаму сыну, — найчасьцей асуджае іх. Гэта хутчэй сялянскі пісьменьнік, які тэмамі сваіх твораў узяў жыцьцё інтэлігэнцыі; толькі той факт, што амаль усьцяж у творах яго праходзіць жыцьцё інтэлігэнцыі, дае яму месца ў аддзеле інтэлігэнцкіх пісьменьнікаў.

Усё-ж нярэдка зварачваецца пісьменьнік да жыцьця сялян і дае вельмі яскравыя малюнкі („Атрута“, „Антон“).

Яшчэ нешта другое збліжае Гарэцкага з Багдановічам. Гэта — зварачваньне ўвагі на форму. Тое, што рабіў Багдановіч у адносінах да вершу, Гарэцкі прыкладаў у адносінах да прозы. Самыя розныя формы прозы знаходзім мы ў Гарэцкага: пісаныя расказам, дняўнікам, пісьмамі, дыялёгамі, монолёгамі... У яго-ж першага знаходзім у беларускай літэратуры большую повесьць.

Расказы Гарэцкага сталі зьяўляцца ў „Наша Ніве“ у 1913 г. пад псэўданімам Максім Беларус. З таго чау маем вялікі запас напісанага ім у розных пэрыядычных выданьнях, дый асобнымі кніжкамі.

З апошніх ведаем:

1. „Рунь“ — Вільня, 1914 г. зборнік расказаў ранейшага часу.
2. „Дзьве душы“ — Вільня, 1919 г., повесьць з часу рэволюцыі 1917 г.
3. „Антон“—повесьць у дыялёгічнай форме з сялянскага жыцьця.

4. **„Мутэрка“** — Вільня, 1921 г., драматычны абразок з жыцьця вясковай інтэлігэнцыі.

5 **„Досьвіткі“** — Менск, 1924 г. зборнік расказаў, адбіваючых жыцьцё памешчыкаў у розныя часы.

Апроч таго, Гарэцкі заняўся гісторыяй беларускай літэратуры, і маем ужо некалькі выданьняў яе. Выдаваў хрэстаматыі літэратуры, дэкляматар і нарэшце слоўнік.

Праца Гарэцкага, дзякуючы ненармальнаму стану беларускага жыцьця, яшчэ не ацэнена і чакае свайго дасьледчыка. Мала ведае яго і школа бо адзіным падручнікам да беларускай літэратуры ў школах ёсьць якраз падручнік самога Гарэцкага.

Трэба зьвярнуць увагу і на мову Гарэцкага. Ён і тут арыгінальны. Ён не ганяецца за новатворамі, а стараецца адкапаць належнае слова ў самай народнай гушчы. Нажаль, паходзячы сам з Магілёўшчыны, ён бярэ найбольш слоў мясцовых, часам далёка нясходных з ужыванымі другімі пісьменьнікамі і гэтым часта зьяўляецца незразумелым сярэдняму беларускаму чытачу.

Мала маем вестак і аб жыцьці Гарэцкага. Радзіўся 6 лютага 1893 г. у в. Малая Багацькаўка, б. Магілёўскай губ., Мсьціслаўскага пав. і тутжа скончыў пачаткавую школу. Потым яшчэ скончыў вучыцельскую школу, каморніцка-агранамічную ў Горы-Горках, а таксама вучыўся ў Археолёгічным Інстытуце ў Смаленску.

1914 г. быў узяты ў войска, ранены і 1917 г. звольніўся.

З 1919 г. працаваў, як вучыцель віленскай беларускай гімназіі, рэдагаваў газэты: „Наша Думка“, „Наша Будучына“, „Беларускія Ведамасьці“ і інш.

1922 г. быў высланы з Вільні; чытаў лекцыі па беларускай літэратуры на вучыцельскіх курсах у Дзьвінску, урэшце ад'ехаў у Менск, дзе і цяпер працуе.

---

*З зборніка „Рунь“.*

# У лазьні.

Вучань апошняга класу *а*) каморніцкага вучылішча, казённы стыпэндыянт *б*) Клім Шамоўскі, к Калядам прыехаў у двору *в*) і ўжо другі тыдзень жыў у бацькавай хаце ў роднай вёсцы Мордалысаве.

Якраз у трыццаць першы дзень сьнежня, перад Новым Годам, дзядзька Якуб, дамяўшы сваю пяньку, *г*) выпаліў лазьню, каторых у Мордалысаве на 25 двароў ёсьць ажно дзьве.

Увечары Клімаў брат Пархвір напаіў коні, падаваў жывёле, прыйшоў у хату і пачаў рыхтавацца ў лазьню. Знайшоўшы апоркі *д*) і сеўшы на калодачку разуваць лапці, загаманіў ён.

— Дзядзька лазьню ўжо вытапіў. Гатова. Зьбірайцеся хутчэй. Ты, тата, бяры вядро і йдзі; тымчасам і я пайду з хлапцамі; трэба па венікі на вышкі узьлезьць. А Клім што гэта сядзіць? Ай, ты ня пойдзеш сяньня *е*) ў лазьню? — запытаўся ён у брата.

---

*а*) Цяпер ужываецца болей — клясы. *б*) Прав. — стыпэндыят, той, хто дастае казённую гаспадарсцьвеную падмогу, стыпэндыю. *в*) Дамоў. *г*) Каноплі. *д*) Рэшткі ботаў бяз халяваў, якія адрэзаны. *е*) Ужываецца болей — сёньня, сягоньня.

Клім палажыў на палічку „Нізшую геодезію“ Біка і „Песьні жальбы“ Я. Коласа, што дагэтуль былі ў руках, нечага задумаўся, адкінуў з лобу свае доўгія валасы і, троху памаўчаўшы, адказаў:

— Я й сам ня ведаю, іці мне, ці-то ўжо не пачынаць. Колькі гадоў ня мыўся я ў вашых лазьнях, адвык. Але памыцца сягоньня ня вадзіла-б [а]): цела пачынае сьвярбець.

— Што ты гэта, Клімачка?— загаварыла яго маці. — Чаму-ж табе не схадзіць у лазьню? Праўда, гразнавата яна, вады цёплае саўсім няма, а халодная ў панаўцы [б]) на канаве надта мутна, але ўсё-ж-такі, тое-гэта папарышся, костачкі пагрэеш свае, мо' й на душы палягчэець крыху табе. Ідзі, ідзі, сынок.

Бацька напрануў дублёнку, надзеў дзіравыя валенькі і прыстоіў [в]), пакуля [г]) Клім выймаў з кішэні ключыкі, ножык, партманэцік з грашамі і старым пер'ем [д]) „родно“, каб ня згубіць дабро ў лазьні. — „Хутчэй!“ —казаў яму маленькі пузыр [е]), брат Саўка, а ён, адчапіўшы кішэнны гадзіньнік, адзягнуў маткіну [ж]) шубку [з]) і выйшаў з хаты.

Лазьня была за гоні ад вёскі, каля заплыўшае канавы, што была некалі, пакуль шчэ паны жыдом лясоў не прадавалі, рэчкай. Ліпела яна сабе на ўзгорку і, пакуль Клім узабраўся на гэты ўзгорачак, два разы паваліўся і абскрабаў аж да крыві руку аб мёрзлы сьнег. Саўка падскочыў каля яго на аднэй назе, падняў яму кавалачак мыла, крыкнуў: „Хор на Бабінавічы!“ і шыбка пабег наперад усіх к лазьні. Там ён кумільгом укаціўся ў прымыльнік і сказаў дышкантам [і]), як тое рабілі вялікія басам, або тэнарам:

— Пара — лазьня, лёгкі дух!..

Адзін з хлапцоў-сяраднікоў, што прыйшоў туды раней, да Саўкавага віншаваньня ў адзін тон дабавіў колькі слоў і к слову „дух“ прыкладна адпаліў такое слаўца, што дзед Кузьма абазваў яго сынам ведамага ўсім брахлівага стварэньня.

Клімаў бацька пайшоў к панаўцы, зачарпнуў асьцярожна беражком вядра, каб не замуціць саўсім, мутнае з лёдам вады, утапіў у ваду бярозавы венік, каб разьмяк і лепей яго было спарыць, і, схіліўшыся над вядром, пабрыў у лазьню ўсьлед за Клімам. А той, убачыўшы там старых, каторыя распратваліся, а іншыя аддыхалі на мяліцах, папарыўшыся даволі, сказаў:

— Добры вечар! — і азірнуўся, дзе-б яму прыхіліцца.

— Міласьці просім!—адказаў яму салдат Захар Какста.

— Капеек на восем, — дагаварыў нейкі скалазуб.—Садзецеся, воладная мяйсьцінка, Клім Раманавіч, — загаманілі голыя барадатыя „мужы“ ў цямноце, бо сьвятла ў прымыльніку паліць, знаць, не знайшлі патрэбным і варушыліся, хто як мог, упацёмку.

Прымыльнік быў плятнёвы, і скрозь пляцень дуў [к]) вецер. Пад нагамі — мяльлё [л]). Каля сьценак ляжалі, раскірачыўшы ногі, самадзельныя мяліцы. Кліму было гразна, нячыста, няпрытульна. З лазьні сюды, то й глядзі, выскаквалі чырвоныя, што ракі, здаволеныя ласуны да парэньня. Адтуль нёсься гул...

„Ліха іх ведаіць, [м]) як яны тут мыюцца“,—думаў Клім, шукаючы мяйсьцінкі, дзе-б схаваць шубку.

---

а) Ня шкодзіла-б. б) Пасудзіне. в) Стаяў, чакаў. г) Пакуль. д) Зборнае — пер'ем, пер'ямі. е) Ужываецца болей — паўхір. ж) Матчыву. з) Кажух. і) Тонкім голасам. к) Лепей—дзьмуў, дзьмухаў. л) Нешта намолатое. м) Прав.—ведаець, ведае.

Старыя гаманілі пра тое-сёе, хто колькі шпал ад жыда зьвёз на раку Вярху і іншае.

„Але што-ж гэта я? Ці я не радзіўся сам у Мардалысаве, ці сам ня купаўся ў гэтай гразі, ня бачыў усякага бруду?“ — так думаў Клім. „Не, гэта-ж я ня злуюся, чаго-ж гэта я?“... І ўвайшоў у лазьню.

Вачом стала горка ад дыму. Нагам было ёдка стаяць на гразнай сьцюдзёнай зямлі. Галава ўдарылася аб шост [а]). Жарыня была на версе, як у пекле. Ня можна было нічога разгледзець.

— „Жчах, жчах, жчах, жчах...“ роботалі [б]) венікі. — „Ого-го-го“ — рагатаў нехта, лезучы на палок. — „Паддай, паддай‥ Яшчэ горстачку... [в]) ліні паўкружачкі на печ‥ Братцы, ад'жалейце паўчаўхірачкі... Духу мала, духу няма, гэй, духу!“ Аж стогн лунаў у лазьні. Павярнуцца думаў Клім, — нейдзе: паўнютанька лазьня людзей. На нізе ў гразі блазнота. Іншы плакаў ад дыму, ці йшчэ ад чаго і цёр вочы кулакамі, і плёскаў гразнай вадой. Але й тую яму нехта забараніў браць, казаў: „Зьлётай, прынясі сам“. Іншы сядзеў непарушна, ушчаміўшы галаву паміж ног. Той шчыпаўся, [г]) той штурхаўся, той жартаваў — мацаў некага па вачох, кажучы: „Ці еў балазе?“

— А, та-а-атачка, а а-ай, а до-о-ос! — сквірчэў малы хлопчык, як мага, на ўсю сілу, а добры бацька дзяржаў за шыю з пэўнасьцю, што агоўтаецца, і гарачым, як полымя, венікам сьцёбаў з усіх бакоў. — „Дай сьпінку, дай жыватку, йшчэ трошку, ну, ну, ну, дурненькі, ня плач-жа; дос, дос, ня бойся... А то, брат, камлём заеду, хочаш?“— дабавіў ён урэшце і злаяўся. А побач з Клімам два нехалюзых [д]) хлопчыкі сварыліся за нешта.

— Во-охці, охо-хо-о — чуць жывы выкаціўся ў прымыльнік нейкі дзядок.

— Як тое было, як тое будзець, ось табе на!—крычэў Юрка, і раптам зьняцеўку [е]) —бах паўнюсенькі карэц [ж]) вады на маленьную печ. Аж камяні загурчэлі, засіпела вугальля [з]), і з палка пасыпаліся, як бульба, слабейшыя. А крапчэйшыя, стойка вядучы справу сваю, пільна запрацавалі рукамі.

— Госпадзі, памілуй! Божухна, зьлітуйся! Мірам навышнему памолімся, — прыгаварваў адзін у помач рукам, а другі, трэцьці, чацьвёрты ня грэбавалі і самай бруднай лаянкай. Аж прыкра зрабілася Кліму ад гідкіх слоў, што насіліся ў цёмным, гарачым, свойабразным [і]) пекле — гэтай лазьні.

— Во, калі ашалелі мужычкі, — мудры салдат Какста, цёпаючыся венікам.

Нехта шукаў на шосьціку сваю кашулю і зваліў у самую грязь чужыя штаны.

— Саўка! зьбегай, сынок, вады: гару, саўсім гару... Хутчэй бяжы... А, Клім, лезь на палок, паўзі, парся, — гукаў Раман.

Клім палез, абпёк ляжку на гарачым палку, плакаў ад дыму і, махаючы венікам, праклінаў, скрыўджаны, і лазьню і тых глуздоў, хто пабудаваў яе такую. „Жывуць-жа людзі“ — думаў ён: „Лес пад бокам, жыды ў пана адваявалі яго за даўгі, прадаюць колькі гадоў; і сяляне, кожнагодна пускаючы на гарэлку рубельчыкі і жывучы сярод

---

а) Доўгі кій, стоўп. б) Рус. — працавалі, рабілі. в) Таксама — жменьку, трошкі. г) Шчыкаўся. д) Няўдалых. е) Зьнянацку, раптам. ж) Мерку. з) Зборн. — вугальлё. і) Рус. — сваяродным.

лесу, маюць лазьню... каб яна, даруй божа, згарэла на чыстым полі гэткая".

— Духу паддайце, гэй, хлопцы! — са скуры пнуўся стары Мікіта.

— Ужывай, дзядзька! Пагрэйся, — адказаў „вясёлая галава, а гнілыя кішкі" малец Яхім, і — чох! паўвядра на печ.

— Холадна! — упінаўся Мікіта.

— І так гарым, — буркнуў Клім, седзячы каля яго і льлючы халодную ваду на галаву. Ён успомніў, што Мікіцёнак Панас кожын дзень п'ець „ханджу" а), як ваду, а Язэп мажыць б) ею ногі ад прастуды. Успомніў ён, бог знае к чаму, што матка корміць вяпроў в) у хаце, і ў хаце гразка. Дрэнна...

— Запанеў наш каморнік, пышан надта Клім Раманавіч, духу баіцца... А мне, мужыку, любата, — крычэў Мікіта.

— „Які тут чорт „запанеў", — злаваў Клім. „Сьвіньні, а ня людзі", — думаў ён злосна на ўсё бадай Маrдалысава. „Я вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, а яны кожны вечар, кожна сьвята гуляюць у карты ў Мікітавай хаце, а на кніжкі не зьвярнулі ніякай увагі... Шчэ казалі, — разумцы, — што „некалі ім займацца панскім дзелам..." І толькі гэты „сьвяты" Халімон прасіў пачытаць, бажаў г) паслухаць што-небудзь „бажэственае", ды бабы гаварылі, каб ён, Клім, прачытаў ім „сьлёзна-жаласна". І што ні ступнеш, — чуіш д) дурацкае: „Запанеў, запышэў, гардзіцца".

— Падажджы, патрывай, Клім. Пархвір вады чыстае з калодзежа зараз прынясець. Будзем абдавацца.

— Добра, тата, тут буду — сказаў, а сам, ня маючы ўжо сілы вытрываць шалёнага жару е), пары і разам холаду каля ног, таксама вялікага клуму, гоману, лаянкі, вышаў, як п'яны, у прымыльнік, схапіў адзежу і рупна, як слухаліся рукі, пачаў, не абдаўшыся і з прылілшымі на целе лісьцямі ад веніка, надзявацца.

„А грэх мне казаць „дурацкае", дзе толькі цемната", — гваздом сядзела ў галаве яго непазбытная думка. „Скуль-жа ведаць гэтаму старому вяскоўцу, „прыгоньніку" Мікіце, што ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб „заграбаць" грошы, што ён іншы, што ён-жа ня чураецца вёскі, любіць яе і шануіць ж), як родны сын, што ён хочыць з) кіравацца ўсімі сіламі, каб бачыць яе цьвярозай, сьветлай, здаволенай жыцьцём ды сумленнай, што ён „запанеў", але зусім ня так, як думаець Мікіта... І лацьвей *ім*, — думаў Клім далей, — страляць у вочы — „запанеў", ведаючы вагу свае вакавечнае працы мужыцкае, а хай-бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы ў мяне, прымача ў „панстве" і пасынка вёскі, і яны лепей паехалі-б з сахою на родныя палеткі, чымся, адарваўшыся ад дзядоўскіх сяліб, вісець у новым і нявыразным паветры...".

Кашуля не надзявалася, нечым дрэнным пахла. Шапку шукаў Клім і ніяк ня мог знайсьці ў дакучлівай, прыкрай цемні прымыльніка.

— Братцы, што гэта, я-ж акалеў саўсім: кажэце, хто ўзяў мае штаны, — пытаўся дзядзька Якуб, хныкаючы з лазьні і назад у аднэй кашулі. — Хто тут? — узьбіўся ён на Клімавы ногі.

— Я — адгукнуўся Клім і ўзноў засумаваў.

---

а) Сьпірытус на паленьне. б) Правільна — мяжа. в) Парсюкоў. г) Жадаў. д) Прав. — чуеш. е) Прав — гарачыні. ж) Прав. — шануе, шануець. з) Хоча.

Старыя аддыхалі, седзячы на мяліцах, напратываліся, абуваліся. Гаварылі аб Новым Годзе, успаміналі, што было цікавага ў старым. Хто ішоў у двору, казаў:

— Дзякую за пару, за дух, за добрую лазьню, хто тапіў, хто й ваду насіў, усім шаноўным паном-гаспадаром. Дабранач!

Клім прыслухаўся к роўнаму голасу старога дзеда Банадыся, каторы, быццам васеньні дождж у вокны, барабаніў:

— ...Ато вось, браткі мае, дык шчырая праўда. Чуў я гэта ад самага Панаса Дзямянка, што служыў у аднаго заможнага гаспадара, але, ня тут будзь казана, у вялікага ведзьмака. Але й казаць мо' далей ня трэба?

— Кажы ўжо, кажы,—зацягваў Мікіта. — а то абцугі прынясём, словы з цябе цягнуць пачнём.

— ...Паехаў Панас нешта раз з гаспадаром у дровы. Прыехалі ў цёмны, цёмны лес, якіх цяпер і ня знайдзеш [а]). Гаспадар кажа яму: „Ты папільнуй тут коні, а я хутка зьвярнуся“, — і пашоў некуды. А Панас ня дурань, троху пабавіўся, ды паціхеньку ўсьлед...

— Клім, во твая шапка, — шаптаў Саўка, надзяваючы жупан [б]) і слухаючы апавяданьне дзеда Банадыся.

...А гаспадар, крыху адыйшоўшы, — кулдык! Цераз пень перакаціўся і пабег... Чым? Ваўком. — „Ага, думаіць [в]) Панас, — грашы богу, ваўкалача“; троху пагадзя [г]) і ён перакулдыкнуўся праз пень і, — да душы ня лгу, сам Панас казаў, — і ён пабег ваўком, але разумеў усё, як-бы і чалавек. Далей зірк ён: выскачыў гаспадар на поле, схапіў барана са стадка, ды ў лес. На ліха тут дагледзіў ён Панаса, сьцяміў усё, сам перабег цераз пень яшчэ, і зрабіўся чалавекам, а на Панаса наклаў такое закляцьце, што той тры гады прабегаў зьверам: раз чуць не забілі яго людзі, бо ён, хоць і прыкра, а еў, каб ня ўмерці з голаду, што і ўсе зьвяры...

Йшчэ далі [д]) нешта гаварыў Банадысь, але Клім ня слухаў больш і пайшоў з лазьні.

Быў ціхі вечар. На высокім небе зьзялі зорачкі, ліў пазычаным сьветам месяц. Скрыпеў пад нагамі сьнег. „Заўтра Новы Год...“

І неяк невясёла, невясёла было Кліму, „запанеўшаму“, як казаў стары Мікіта. Думкі плылі, чапляліся адна за другую, роем мітусіліся ў галаве. „Беларусь, Баларусь, чым ты была і чаго ты во' даждала?“— зьвінела ў адным баку. „І што з табою будзе?“ — плыло ў другім.

А зорачкі блішчэлі так хораша на небе. І скрыпеў сьнег. І мерныя тужлівыя вершы ляцелі з неадкуль:

Мой родны край, краса мая,
З табой на век расстаўся я!..

І задумаўся Клім. І пялася неяк па іншаму:

Мой родны край, краса мая,
З табою век ня ўзгодзе я...

Пад ложачкаю [е]) шчымела нешта незнаёмае.

Мой родны край, як ты-ж мне мілы,
Забыць цябе ня маю сілы...

І ляцелі думкі. І дрыжэлі струны душы дзіўна-маркотным гукам.

Мой родны край, як ты-ж мне мілы,
Ўцяміць цябе ня маю сілы...

---

[а]) Прав. — знойдзеш. [б]) Каптан. [в]) Думае, думаець. [г]) Рус. — пачакаўшы. [д]) Далей. [е]) Рус. — пад ямачкаю (у грудзёх).

„Эгэ-ж, уцяміць, пазнаць, зразумець ніколі ня здолііш [a])“ — быў чуцен шэпт. „І хіба!.. Што?..“

„Але-ж не адракацца, ня быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен, даўжон...“ быў другі шэпт.

„Люблю... ці-ж ня люблю?.. А страшна яно роднае... чым?..“

І спахмурнеў Клім, сігаў шпарчэй па скрыпучым марозным сьнегу. Ляцела думка: „Мой родны кут, люблю цябе бяз меры!“ і забавілася яна, не ўцякала.

— Ці не захварэла твая галава, Клім, пасьля лазьні? — спытаўся бацька.

— Палепшаіць [б]), — адказаў сын.

---

# Атрута.

(*Кароткі жалобны абразок*).

---

Людзі:
- **Дзед**
- **Раман**, яго сын.
- **Ганна**, жонка Раманава.
- **Аўдулька** 8 г. } Дзеткі Раманавы.
- **Косьцік** 6 г. } Дзеткі Раманавы.
- **Янaчка** 8 г. } Дзеткі Раманавы.
- **Хрысьцёна**, цётка Ганьніна.

Усё дзеецца ў старэнькай, закопчанай вясковай хаце. Налева ў ёй — дзьверы ў сенцы і дальш у вуглу печ і качарэжнік. Ад печы — пол аж да правае сьцяны, у каторай два вакенцы; ад полу каля гэтай сьцяны ідзець лаўка. Перад лаўкаю водаль ад полу — стол, на стале ляжыць нож, а хлеба няма; к сталу пристаўлен зэдлік. Над сталом у куту — абразы з палічкай дзеля сьвечак.

На палу — сувалка, на ёй ляжыць дужа хворая **Ганна** пад дзяругай Каля Ганны вісіць калыска на круку, убітым у столь; у калысцы сьпіць малы **Янaчка**. Пасярод хаты, на падлозе — калодачка, на ёй сядзіць **Дзед**, даплятаець лапаць і за пачопку, калі трэба, калышаць Янaчку. У хаце вельмі бедна.

## ПРАЯВА 1-ая.

Дзед, **Ганна**, у калысцы **Янaчка**.

**Дзед**. Божухна-бацюхна! Ці будзе-ж гэтаму калі канец? П'янства кожны дзень, кожную ноч... Дзеткі плачуць, Ганна хворая ляжыць, — як ей, матцы, глядзець на гэта? А ён? Охо-хо-о... Пакараў ты мяне, справядлівы божа! За грахі мае брудныя пакараў ты мяне, бо калісь і я ня меў сумленьня, цягнуў-піў зельле паганае, будзь

---

а) Пров.—ня здолееш. б) Такс. — палепшае.

яно проклята навекі... (*Бярэцца за сьпіну*). А-ай, усе костачкі ломюць [а]). Мне, старому бацьку, трэба гараць ехаць во', а ён... ён п'ець. Яму і клопату мала. Не-э, сынок, дап'ешся, апомнішся, ды каб ня было ногды [б]) позна... Нікому ніколі ні падаруюцца сьлёзы дзетак, ой, ніколі! А ён п'ець, крычыць, б'ецца, глуміць, дзіцячы хлеб прапіваець. Будзе грэх, чую, усімі думкамі чую...

Ну, хіба іці саху прыснадзіць. (*Паклаў лапаць, устаець*). Эх, Раманька, Раманька... (*Да Ганны з ласкай у гаворцы*) Ганна! Ці чуеш, Гануля! Мо' ты зьела-б чаго-неб/дзь? Хлеба кум Аўрам пазычыў, учорашняе поліўкі з ложку стаіць. Сербанула-б, Гануля!

**Ганна** (*кранулася, гаворыць-стогне*). Ці-і Раман прыйшоў з карчмы? А-ах...

**Дзед.** Зара прыдзець... Дык зьеш чаго крыху, Гануля. Як-жа гэта, божа мой, трэці дзянёк у цябе крошкі ў роце ня было. Смагу, балазе, прагнала-б.

**Ганна.** Не-э-э... Ня трэба. Касьцючку, Аўдульцы няхай поліўка. Дзетачкі вы ма-е-э... (*Загадалася*) Сусолачку зрабі дзіцёнку, нечым карміць яго, майго Я-на-чку. (*Дзіцё ў люльцы заварушылася і закугакала жаласна*). Калышы, калышы, та-ту-леч-ка...

**Дзед** (*калыша*). Забыўся сынок на бога, забыўся. Зьмяняў на гарэлку і сумленнасьць, і сямейку, і ўсё. Што яму? Абы пляшку купіць, а іншае, — цямся яно! На маткіну [в]) памяць забыўся: на імшу ня даў, а прапіў грошы... Чую грэх-бяду. Доля, доля... Дажыліся... (*Мармоча нешта далей, ня можна расслухаць*).

**Ганна.** Ня-ма, ня-ма Рамана, ня йдзець... Тата! А дзе Аўдулька, Косьцік? Дзетачкі мае-э...

**Дзед.** Усё чыста прапіў сынок. Мусіць, забыліся на бога людзі, ня дбаюць на таго, што сьвет яго. У коршм [г]) днююць, у коршм начуюць... Ат, што, — бацька-ж дурань, бацька нічога ні знаець, на што яго слухаць?.. Ня слухай, сынку, ня слухай...

**Ганна**... Тата! Ці ёсць у нас дошкі на... (*з натугай і праз сілу*) на тру-ну? Акх!..

**Дзед** (*спужаўшыся*). Ня думай пра... пра гэта, Ганна! Божа воля на ўсё: — на бога і трэба думаць. (*Закалыхаў дзіцёнка і адзявець дзіравы жупан*). У цябе дзеткі, Гануля, маленькія. Ось лецечка ідзець, падзівуйся, як вясёла на дварэ, як сонейка сьвеціць, птушачкі прыляцелі, лясок зарунеўся, Гануля... Кінь *тое* думаць... Дзеткі ў цябе; што я стары з імі рабіць буду? Мне трэба *туды* зьбірацца. А, а, а ты... Сонейка во', грэець, а ты, ты... (*Убягаюць у хату Касьцючок і Аўдулька; абодвы босы, чуць адзеты, у Аўдулькі жмуток першых вясеньніх белых красак, у Косьціка мядзяныя грошы*).

## ПРАЯВА 2-ая.

### Дзед, Ганна і дзеці.

**Косьцік.** А ў мяне грош! А ў мяне грош!

**Дзед.** Што?

**Аўдулька.** Ды не: гэта ў яго пяць ажно вун капеек; гэта, гэта... А ў мяне вун што,—краскі! На табе, мама! (*Кладзець краскі к матцы*).

---

а) Пров.—ломяць, ломіць. б) Калі небудзь. в) Пров.— матчыну. г) Карчме.

**Дзед.** Адкуль грошы?

**Косьцік.** Каморнік даў... Мама, у мяне грош, глянь!

**Ганна.** Аддай, Косьцік, грошы дзеду. Аддай, дзіцятка, згу-біш .. (*Косьцік бегаець, не аддаець грошы і крычыць: „Грош, грош! Каморнік даў!“*).

**Дзед.** Ну, кажы нам, Аўдуля, гдзе вы былі, хто грошы даў? А ты, Косьцік, ці-ху! Яначку ўзбудзіш.

**Аўдулька.** Мы... мы хадзілі ў гаёк вун кветкі [а]) ірваць... Там многа ўжо кветак... і... і там каморнік ходзіць... З ланцугом, у акулярах, але нястрашны. А нейкая труба блішчыць-блішчыць...

**Косьцік.** А гузікаў-жа ў яго!...

**Аўдулька.** І зайца спудзілі! Як пыхнуў уцякаць!

**Косьцік.** І я бачыў.

**Дзед.** Ну, ну?

**Аўдулька.** Мы яму з вёскі вады занясьлі.

**Дзед.** Каму? Зайцу?

**Аўдулька.** Не, вун, каморніку. Ён, вун, сказаў нам: „Малайцы!“ А як пачуў ад дзядзькі Карпы, што наша, вун, мама хварэіць, [б]) дык нешта гаманіў, а тады выняў грошы, даў Касьцюку і кажа: „На, табе, хлопчык, на булкі“.

**Ганна.** Дзетачкі ма-е-э...

**Дзед.** Ці падзякавалі-ж вы пану за ласку?

**Аўдулька.** Мы і яму пралескі рвалі... Я хацела ў руку, вун, пацалаваць, дык ён кажыць: „Ня трэба, ня трэба... Я-ж, кажыць, [в]) — ня поп і не абраз“. І ні даў, вун...

**Дзед** (*успомніўшы*). Пара, пара гараць. Паеду, Косьцік! твае грошы цэлы будуць, дай — я схаваю іх. (*Паклаў грошы на палічку перад абразамі, яны з хаты ідуць*). Ну, Аўдулька, прыглядай матку, Яначку тута калышы, вады маме падай, калі пабажаіць [г]). Доля наша, доля... Грахі нашы. Пойдзем, Косьцік, і я табе дудачку выражу з лазы... (*Дзед і хлопчык пайшлі за дзьверы*).

## ПРАЯВА 3-ая.

### Ганна і Аўдулька (*Калыша Янку*).

**Ганна** (*маркотна*). Дачушка мая, любенькая, памру я, чую сваю сьмертухну.. Слухайся, шануй дзеда. А мажа-ж і татка твой апомніцца, агоўтаецца, піць гарэлку перастанець.. Даглядай Яначку, Косьціка... Дзеткі мае-э.. Хараша жыць, калі ўсё ладна... (*Ей трудна гаварыць*). Дай піць! (*Аўдулька падаець карэц з вадою; Ганна, напіўшыся, гаворыць крапчэй*). Якія прыгожыя красачкі. Каб мне разок яшчэ пабачыць, як жытцо каласіцца, а там... памерці...

**Аўдулька** (*плача*). Мама, не кажы-ж ты так, не кажы пра сьмерць, — мне страшна... Ня трэба нікому ўміраць...

**Ганна.** Ня бойся, дачушка, ня плач... Так ужо бог даў... Што я сьніла сяньня? Быццам нябожчыца мама, такая сьветлая, ясная, у беленькай сьвітачцы прыйшла к нам і да таго-ж жаласна і сумна кажа мне: „Ганначка, — кажа, — галубка, чаго ты так счарнела

---

а) Правільна — краскі. б) Пров. — хварэець. в) Пров.—кажэць г) Таксама—пажадае.

ды высахла, выпятрыла ўся? Рыхтуйся, — кажа, — бо табе-ж пад вянец пара, заждалася я цябе...“ (*Маўчыць крыху, сьлёзы коцяцца, як боб*). Тут я прачхнулася, і страшна мне, і лёгка-лёгка неяк зрабілася...

**Аўдулька.** Мамачка, і я памру...

**Ганна** Жыві, дачушка. Будзеш мне на могілку кветачак прыносіць... На Радаўніцу з яечкам прыйдзі хры-сто-са-вацца-а-а... (*Горка-горка плача*).

**Аўдулька.** Мама! Мамачка!.. (*Чутна п'яная песьня пад вокнам*).

**Ганна** (*адыйшла крыху*). Нічога, нічога, я так.. Што гэта?

**Аўдулька** (*падбягае к ваконцу*). Тата йдзець! Ай, п'яны, будзе біцца... (*Палезла на пол к матцы*).

**Ганна.** Забыўся на ўсё чалавек. А некалі-ж кляўся, бажыўся. Ці даўно тое было? І што гэта з ім: ці ні паддаў яму хто? О-о-о...

(*Адчыняюцца дзьверы і, дзяржучыся за клямку, хістаецца на парозе п'яны і, як слова, вясёлы Раман; пяець і прадстаўляецца пракудай*).

## ПРАЯВА 4-ая

### Тыя-ж і Раман.

**Раман** (*пяець дальш*). За-аўтра, за-аўтра, не-е сягоньня,—ко-ожны п'яніца пяе-э... (*Спыніўся*). Добры дзень тату ў хату! Хвароба ў лес, здароўе ў косьці! Стуку-груку, хто тут? (*Ідзець па хаце, вугнава прыпявае*).

Адна думка у Рамана,
Што кішэнічка падрана!
Няма грошы, няма дроў, —
А як выпіў — ўжо й здароў!

Не! Йшчэ адна думка ёсьць: каб мая сухотніца паднялася. А то, калі-і ўжо скрэмсалася! (З *ласкай да Ганны*). Ганна! Ганначка! Жоначка мая любая! (*Тужліва*). Хваріш? а) (*Жаласна і безнадзейна*). Усё хварэіш... Пара ачуняць! Лепшай, галубка мая, а я, я... Во' табе сьвяты крыж, — досі жлуктаць гарэлку! Дос, дос і дос. Маё слова сьвята! Ня буду й ня буду, наўсёды заракуся... (*Садзіцца на зэдлік і крыху маўчыць*). А дзе-ж тата? Дзе Кастусь? (*Ніхто яму не адгукаецца*). А? (*Пачынае зьлець*). Аўдулька! Куды пайшоў дзед? Чуеш? Злазь адтуль тэйчас, нячыстая каланіца, а то я табе! Янку калышы! Я вас! Што вы мне? Што хачу — то й раблю. Ось яшчэ! Соткі б) ўжо выпіць нельга? Што такое значыць?! (*Ходзіць—хістаецца па хаце*).

**Аўдулька** (*калыша Яначку*). Дзед з Касьцюком пайшоў у поле... Дзед гараць будзе...

**Ганна** (*стогне*). Божухна! Няма сумленнасьці ў чалавека... Апомніся, Раман! Сьмерць мая, дзеткі нашы малыя, ах...

**Раман.** До, дос ужо! Не стагні, не гнаі ты майго сэрца! Чуў тваю песьню. А тата... Як-жа ён гараць будзе, калі хамут, хамута... Я сам успашу в). Няхай стары ня турбуецца, час ёсьць. Успашам. Не сяньня — заўтра. Сяньня галава баліць, спахмяліцца-б, хіба, цяпер. Ганулья, дзе твая суконная хвустка? дай на сотку! Не сярдуй.

---

а) Пров. — хварэеш. б) Маленькае бутэлечкі — кручка. в) Рус. — пагару.

**Ганна.** Раман!

**Раман.** Ну, што, што? Ну на, забій мяне! Ну на, на-зарэж мяне, а дай-жа ты мне на сотку, трэба-ж мне апахмеліцца!

**Ганна.** Пабойся Бога, Раман! На хлеб дзеткам няма; што ты сабе ду-ма-еш?

**Раман.** Не стагні! Голая костка! Ад заможнага бацькі браў, а што ты мне ў гаспадарку прынясла? Сабаку печанага... Во' захварэла, падла! І здохніш [а]) хутка, падажджы... (*Ганна ані слова, Аўдулька пачынае плакаць*). Ня румзай, Аўдуля! У матку ўдалася! Заступніца!.. Я табе пака-ж-жу! На калені! Маўчы! Што-б твайго духу ня чутно было! (*Аўдулька ціха хліпае і становіцца на калені*).

**Ганна.** Божа! — (*Ташнуець*).

**Раман.** Зыйду і кіну, кіну... Прападайце тут, хвароба на вас. Ссушылі мяне... П'ю, — дык я-ж вас і кармлю. Ы-ы-ы! (*Скрыгочаць зубамі ад злосьці*). Пілуюць-пілуюць, смурыжуць за кожну [б]) чарку, ці выпіў ці ня выпіў... Зьешце мяне! на зло прап'ю, усё прагуляю! Зарэжуся! Задаўлюся! Зарэжуся!! (*Хапаець са стала тупы нож і шмуляець па горлу; Аўдулька крычыць, Ганна стогнець дужэй. Але нож сагнуўся, і Раман са злосьцю кідаець яго на зямлю*).

**Ганна.** Кепска мне, кепска мне... Ай, мляўка... Сьмертухна мая... Аўдулька, па цётку Хрысьцёну... па дзеда... А-а-а... Раман, сьвечку, грамніцу...

**Раман** (*схапіўшыся*). Што? Што? Уміраць? Хіба-ж праўда? Аўдулька, бяжы, бяжы, дзетка, па цётку! (*Аўдулька пабегла*).

### ПРАЯВА 5-ая

### Няма Аўдулькі.

**Ганна.** А-х-ах...

**Раман.** Ганначка, пастой... Што, што ты гэта? Прасьці, прасьці мяне, гэта гарэлка пашкодзіла.. (*Схіляецца над жонкай*) Мо' даць вады?

**Ганна.** Ай, ай... Падкаціла пад грудзі... Вады... (*Раман пабег у сенцы па ваду, на сустрэчу зьняцёўку дзед; Раман адскочыў*).

### ПРАЯВА 6-ая.

**Ганна, Раман, дзед і Яначка** (*пачынаець варушыцца, Раман калыша*).

**Раман.** Татуля, вады, вады! Нешта з Ганнай... Слабая яна.

**Дзед.** Цяпер, „татуля!" Апокуль ты, аторва, лежань ты пятроўскі! (*Бярэць карэц і, вачарпнуўшы у сэнцах вады, нясець*). П'янюга, згубіў жыцьцё маладзіцы, дзяцей абяздоліў... (*Даець ваду Ганьні*). Пракляну, дажджэшся, што пракляну, сынок; папомні! (*Маўчыць троху*). Раман!!! Дзе хамут? Куды хамут дзяваў? Прапіў! Усё ў каршму занёс!..

**Ганна** (*напіўшыся*). Ох, тата, адлягло-о... Раман, памру я; калі а-ажэнішся у-у-удругі — жалей маіх дзетак, ня крыўдзі і не дазваляй крыўдзіць. Кінь выпіўку... (*Раман стаіць, утупіўшы галаву уніз, і цяжка дыхаець*).

---

а) Пров. — здохнеш. б) Кожную.

**Дзед.** Каня возьмуць за даўгі, каравёнку прадалі, хамут быў — няма. Усё на гарэлку пайшло. Раман, чуеш ты? Зямлю прадам, сам кіравацца буду, пакуль сілы хопіць, а ўнукаў пракармлю, а цябе... пракляну, калі не забудзішся [а]) шляху да каршмы...

**Раман.** Тата!

**Дзед.** Да старэцкага хатыля [б]) бацьку давёў! У старцы астаецца, хіба, мне ісьці? Ты-ж у нас адзін быў, матка як цябе пеставала, а ты як успамянуў нябожчыцу? Гора ты маё... Вёсначка на дварэ, жаўранкі пяюць, людзечкі з весёласьцю на полі за сахою ходзюць [в]), а мы, мы праз цябе тут, як у смале, кіпім! Гора ты маё..

**Раман.** Тата! Досыць вам, даволі... Апахмялюся я толькі і навекі заракуся! Ці мне-ж ня тошна? Атруціла мяне гарэлка, згубіла жыцьцё...

**Ганна.** Ты малады йшчэ, Раман. Устрапяніся. Ці хочаш, крый божа, каб я з таго сьвету прыходзіла да цябе за дзетак спрачацца, Рамане? Дай мне спакой.

**Раман** (*пацьвяразеў*). Татуля! Ганна! Ці я-ж нічога не разумею? Ці мне-ж не баліць? І ці я-ж не заракаўся? Але-ж яна, як тая салодкая атрута... Як тое сьвятло бягучае купальскае, заводзіць яна чалавека у такую круч, адкуль няма ўзвароту... Адбярэць і розум, і сумленьне, і жаласьць... Ці я-ж не разумею, тата? Ратуйце мяне... (*Замарыўся*).

**Дзед.** Праўда! Кара божа, Раманька! Казаў мне пакойны Габрыель: „Ня трэба слухаць тых, што кажуць: „Разумны п'ець, ды вум не прапіваець, а дурань і вадою абап'ецца...“ І разумнага, і моцнага, [г]) і вялікага пана, і апошняга мужыка, і пісьменнага, і працавітага, і цёмнага чалавека, — усіх адзінакава калечыць яна, ува ўсіх адбіраець сілы...“ Праўда. Бо то-ж кара божа! За тое, што праз гарэлку чалавек губіць розум, губіць абраз божы, робіцца самагубцам... Чуеш ты, Раман?

**Раман** (*ташнуець праўдзіва*). Што мне рабіць? Я ня маю сілы, я не змагу сябе! цяжка мне... Хаджу, як шалёны... Не хачу іці, не хачу піць, а... іду і прапіваюся да ніткі... На панахвіду па роднай мамачцы грошы прыблюў [г]) і пра-пра-піў-ў-ў... (*Гудзець*).

**Дзед.** Маліся, Рамане...

**Раман** (*агоўтаўся ад плачу*). Але-ж прысьпеў мой час... Татуля! Ганна! (*Бразнуўся на калені перад абразамі і склаў перад тварам рукі далонямі*). Божа міласэрны! Ты ўсё бачыш і ўсё ведаеш! Памажы мне, навышні! Клянуся табе, што ад гэтага часу ніколі...

**Дзед** (*страшна гаворыць*). Сынок! Не грашы! Не падманяй бога! Колькі разоў, шмат разоў ты ўжо заклінаўся, бажыўся — і ўсё дарма... Дык ня трэба-ж! Ня трэба прысягі, калі няма пэўнасьці яе споўніць.

**Ганна..** Раман, ня хітруй з богам! Пакарае-э... А-а-а...

**Раман** (*тварыць сваё*)... Няхай буду я проклят, калі з гэтага часу ня кіну піць паганае атруты да самае сьмерці!.. Ня меў я долі, шчасьця, калі... (*Убачыў на палічцы грошы, усхапіўся*). Што там? Скуль тут грошы? (*Хоча ўзяць іх, але дзед схапіў раней і пашоў да Янанкі, каторы плача*).

---

а) Пров — забудзешся б) Кія, гамара. в) Пров. — ходзяць. г) Прыгатаваў.

Дзед. Рамане! Бог усё відзіць! Успомні, што ты сказаў! (*Выймаець спавітага Яначку і дзяржыць яго каля сябе толькі на левай руцэ, у каторай і грошы, а праваю папраўляець у калысцы*).

Раман. Тата! дай, дай грошы, мне толькі апахмеліцца... Дай, ольш ніколі, ні разу ня буду, дай — галава баліць... (*Падскочыў к бацьку, грвануў з рукі грошы і маланкай пабег за дзьверы; Яначка скаўзануў з дзедавай рукі і грукнуўся галоўкай аб падлогу*).

Ганна (*усё бачыла*). Ай! А-а-а!... (*Раптам апынулася на падлозе, крыкнула, захлібнулася*).

## ПРАЯВА 7-ая.

### Дзед і нябожчыкі.

Дзед (*схапіўшы мёртвае у крыві дзіцянё*). О-о-о!.. Што гэта? Божа! Дзе ж праўда? Пакарай, навышні, губіцеля свае крыві і цела, ня дай яму спакою ніколі за сьмерць непавіннага дзіцяткі... Няма ў мяне больш сына... Праклінаю! Праклінаю!!! (*Плача, тымчасам шпарка бяжыць, бразнула дзьвярамі цётка Хрысьцёна*).

## ПРАЯВА 8-ая.

### З цёткай Хрысьцёнай.

Хрысьцёна. Сваточак, чаго ў вас плак [a]), крык? Што з Яначкам? (*Дзіка крычыць*). Памёр?! Кроў... А Ганнуся? (*Падбегла да Ганны*). Няжыва?! (*Дзед здрыгнуўся*). А божа-ж мой, што-ж гэта? Прачыстая матка!.. Вады, вады!.. (*Пачынае выць*). А ма-е-ж вы дзетухны, а ма-е-ж вы любыя...

Дзед. Кара божа! (*Паклаў к матцы Яначку, схапіўся за галаву, страшна глядзіць на абразы і нешта шапоча усё дужэй*).

---

# „Дзьве душы“.

На памешчыка Абдзіраловіча, які варочаўся з шляхоцкага балю, напалі разбойнікі, якія забілі яго жонку. Пасьля яе застаўся сіратою маленькі Ігналік. Каб выгадаваць сына, пан запрасіў мамку, кабету Маланьню, якая мела свайго сына, Васілька.

Нешта дзіўнае рабілася з Маланьняй. Яна адносілася ляпей да паніча, чым да свайго ўласнага сына, Васіля.

Час рэволюцыі... Ігнат, у чыне прапаршчыка, выпушчаны з лазарэту, у Маскве сустрачаецца з Васілём. Апошні — камуністы, разьвіты, актыўны працаўнік. На кватэры Васіля Ігнат застаў старую Маланьню, якая з радасьці ня ведала, што рабіць.

На кватэру зайшоў таварыш Васіля па працы, Гаршчок. Загаварылі аб палітычных пераканаваньнях. Ігнат ня мог выказаць свайго пагляду. Ён вышаў і стаў прыпамінаць сваё жыцьцё.

---

a) Плач.

## НА ВОДАХ.

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі; а ў тых вачох радасна-вясёлы, ціхі сьмех, — вось гэткая Аля Макасеева, старэйшая дачушка N-га дамаўласьніка, што нажыў за вайну вялікія мільёны.

Апошнія два гады Макасеі з пачатку вясны і да астатніх дзён сэзону а) жылі на Каўказскіх курортах б).

Пад канец сэзону курорт быў бязьлюдны, і ў нябыцьцё свайго старога мадам Макасеіха, ад нуды, ахвотна запрашала да сябе афіцэраў, што лячыліся там. Ня бачыла яна ў тых знаёмствах нічога асаблівага і старалася толькі бавіць сябе і сваю капрысную супярэчніцу Алечку.

Часам пісала ў лазарэт в) пісульку, рыхтавала стол з фруктамі, віном і папяросамі, і моладзь узьяўлялася скакаць і весяліцца, піць і есьці.

Алечка лятуцела быць балярынаю г), танцавала многа і з вялікай прыемнасьцю, а матулька бавіла час на балконе ў гутарках з князем Гальшанскім, каторы ня любіў сябраваць з афіцэрамі простага роду, дзеля таго, што яны, зазвычай, нядобра ўзгадованы. І чорная маленькая мецінка, падобная да барадаўкі, на верхняй губе, збоку, не магла зьмякчыць яго грэблівай замкнутасьці, а давала нават часам выгляд дурнаватай, здаволенай пышнасьці.

Князь не хаваўся, што ня люб яму Абдзіраловіч, другі паўсёдны гасьцяваньнік макасееўскага дому. А той чуў да князя тое самае: памятаў ліпнёвую ноч у купэ д), як князь еў парасёнка е). І калі ў прысутнасьці князя маці дражніла Алечку Абдзіраловічам, казала, што дзяўчына трызьніць ж) ім ува сьне і ў яве і клоніцца яму, быццам богу,— гвардзеец быў маўклівы, уважаў, што за нудою і так ужо вельмі рызыкоўна бярэць у абшар сваіх знаёмых нежаданы элемэнт.

Аля яшчэ ніколі, бадай, не кахала і ня ведала, ці так наагул кахаюць, як яна Абдзіраловіча.

У парку з), зраньня, сьцярог ён, калі—ці скора—пакажацца яе лёгкая фігурка з курчаваю і), бяз хвусткі, чорнай галоўкаю сярод грудка маленькіх браткоў і сястрыц.

І быў нясказана, як рад, калі яны ўсёй вятачкай к) валілі к лавачцы, дзе сядзеў ён; хлопчыкі пасалдацку казыралі, а дзяўчынкі прысядалі, вітаючы, і потым лезьлі яму на плечы.

Яна-ж ведала, што яму салодка карціць адыйсьціся з ёю ўдвох у глыб парку ці лезьці на гару і бавіцца там.

Яна часта ўздумвала на сваю першую сустрэчу ў Маскве на вагзале, калі яна ўсьмяхнулася яму, а ён адхіліў свае вочы.

Яны даўно сказаліся сабе, што любяцца, і згаварыліся чакаць даналецьця. Яна-ж спадзявалася, што незабавам прыедзе бацька; вельмі хацела паведаць старому радасную тайну сваю і пахваліцца Ігналікам. Болей нікому ня ймела яна веры. Ігналік павінен быў спадабацца Міколе Мартынавічу, яна была ў гэтым пэўна.

---

а) Фр. — пэўная частка часу. б) Месцы лячэньня, воды. в) Бальніца г) Танцоўшчыцаю. д) Аддзяленьне ў вагоне. е) Правільней—парася. ж) Думае, як у чадзе. з) Анг.— вялізны сад, расплянованы, з дарожкамі. і) Рус. — кучараваю. к) Грамадай.

Аднойчы Абдзіраловіч распачаў гутарку аб яе паглядах на паходжэньне з роду, багацьце і як уважае палітычныя пытаньні але яна, відаць, зразумела так, што каханак бяднейшы за яе, зажмала [а]) яму рот і прасіла, каб болей не казаў аб палітыцы.

Ён пачуў прыкрасьць і боль, адылі [б]) супакоіў сябе, што вінават гэта буржуазны лад жыцьця, а яна не вінавата.

І зараз на тое забыўшыся, дзівіўся, што гэта ў душы яго з якоюсь прыкрасьцю двоілася? Тымчасам князь, як слова, наўмысьля выдумляў паездкі вярхом у горы, ці ў экіпажах [в]) у італьянскую калёнію [г]) — есьці мёд і купляць віно. І Абдзіраловіч мусіў сачыняць у галаве розныя добрыя прыгоды, каб адмовіцца, бо ня меў на тое кампанейства грошы.

Цалюткі дзень меўся [д]) ён тагды ў парку з яе браткамі і сястрыцамі, і яны пыталіся, што яму, што ён гэтак засмуціўся; і з дзяціннай простасьцю пацяшалі, што Аля ўвечары прыедзе.

Іногды чакаў бясплодна аж да паўночы і разьдзіраўся балючаю бязьверыцаю, разважаў: ці-ж яна кахае, калі шукаець прыемнасьці без яго, пакідаець яго аднаго, так лёгка ймець веры, што ў яго галава баліць, калі трэба ехаць. Ці-ж яна кахаець?

Аднойчы ўраньні хтосьці прынёс і вывесіў у лазарэце абвестку, што ў той-жа дзень у Пяцігорску, у Лермантаўскай галерэі [е]), адбудзецца першы арганізацыйны сход грамядзян-беларусаў, каторыя закінуты доляю на Каўкаскія мінэральныя воды. Згукае ініцыятыўная група.

І Абдзіраловіч з недаўменнасьцю прачытаў сярод другіх салдацкіх і афіцэрскіх подпісаў: князь Гальшанскі.

— „Таксама, значыцца, беларус, — падумаў ён, — забаўная штука“.

А быў сам несьвядомы і, хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недаверласьцю думаў аб руху адраджэньня, аб якім некалі чуў краем вуха.

Калі ён прыехаў на сход, то пераверыўся, што князь, каторы няпрыхільна кіўнуў яму галавою, нават кіруе ўсім карагодам, стоячы сярод груду [ж]) сабраных на сцэне хлапцоў і дзяўчат, салдатаў і нейкіх, відаць, вучыцялёў-бежанцаў.

Зьбіраліся беларусы надта-ж [з]) неакуратна і марудна.

А ўрэшце панайшло дужа многа украінцаў, а потым прырынуў вялікі натоўп бежанцаў Горадзенскай губэрні: старых і дзяцей, дзяўчат і баб.

З першаю прамоваю, паруску, выступіў князь Гальшанскі.

Ён салідна [з]) казаў аб тым, што ён любіць і што ўсім трэба любіць забытую, акінутую намі, няшчасную матку Белую Русь, бо цяпер усе самаазначаюцца. Запрашаў да працы і еднасьці, каб забыліся на ўзаемныя крыўды з боку паноў і мужыкоў.

Ня можна было зразумець, які чарвяк тут найпільней яго точыць. Але — нічога. Выступалі хворыя салдаты і нясьмелыя, але заядлыя вучыцялі. Гарачых слоў было сказана шмат.

— „У нас, белоруссов, нет классовой борьбы!“ — смачным, зычным голасам прагалашаў князь у заканчальнай прамове; — „нет ее,

---

а) Провін. — закрыла, зацiснула. б) Провінц. — але. в) Фран. — карэта, павозка, брычка. г) Грэц. — пасёлак, купка людзей, урэшце вялікія кавалкі зямлі, населеныя якімсь народам водаль ад бацькаўшчыны. д) Заставаўся, бавіўся. е) Пакой, дзе сабраны абразы, малюнкі. ж) Гуртка. з) Паважна.

не должно быть і не будет!! Мы все, от пана до Степана, как говорится, будем стоять за одно: тесный союз с Россией и законное наделение малоземельных крестьян землею!..“ [а]).

Так казаў князь, і аніхто з прысутных, ахвяруючыся ў імя бацькаўшчыны, не пярэчыў яму, калі быў і нязгодны.

Абдзіраловіч чуў, што сэрца ў яго тыхаець, як молат.

І раптам штось падхапіла яго і занясло на трыбуну [б]).

Абурлівым, гняўлівым голасам. надаючы шмат страснай шчырасьці і гледзячы ў бок убогай бежанскай масы, казаў ён на яе роднай мове, на якую не пасьпеў яшчэ забыцца, казаў усё страшней і страшней:

—„Вашых бацькоў паны забівалі бізунамі, і мянялі на заморскіх сучак, і прадавалі як быдла [7])... Вашых матак гвалтавалі панічы... З вас саміх высмактавалі кроў. За бярозавую хлабасьцінку з панскага леса вас гнаілі ў турмах...“

Князь-старшыня патроху бялеў. Заля [в]) зьнямела і занзіла [г]) ў прамоўцу тысячы бліскучых вачэй...

— „І цяпер вам кажуць: у вас няма змаганьня клясаў перад агульным ворагам... О, не! Яно ёсьць!!“ — высокай, хваравітай, зьвінячай нотаю крыкнуў ён, бачыў, як з тумана выходзіць абраз Алі, яна едзе ў горы з маткаю і князем, пакідаець яго. — „Яно ёсьць, гэтае змаганьне, яно павінна быць! Хто яго не прызнае, той ня ведае холаду, голаду, а вы, вы... Падзівуйцеся на сябе і ўздумайце, што было! Вы бедныя, убогія, дзеці вашыя галодныя і няшчасныя, і тысячы крыжоў укапалі вы па дарозе [д]), уцякаючы з бацькаўшчыны...“

Ён чуў, што кажа зусім ня тое, што меўся казаць, што словы ірвуцца без парадку, без яго поўнай волі, а гаварыў, гаварыў доўга... адылі быў гром воплескаў, галасы, плач нейкай бабулькі, — прамова перарвалася.

Салдаты пакінулі князя і абгуртавалі яго, быццам абіралі так на свайго глаўнага [е]). Князь зьбялелы, як папера, але замкнуты і маўклівы, горды, нэрвова барабаніў па сталу пальцамі.

Сход гудам гудзеў.

Але ў гутарцы з партыйцамі Абдзіраловіч выказаўся за ўладу Керанскага.

Аднак-жа выступленьне на мітынгу пашкодзіла яго палажэньню ў доме Макасеевых. Матка Алі напісала яму запіску з адмовай ад знаёмства. Яго месца заняў князь Гальшчанскі.

## ДЗЬВЕ ДУШЫ.

Душа двоілася. Адна палова няасказанна плакала і жалілася на другую, на што яна мучыць яе падманкамі. І калі ён троху выстагнаўся, казала: „Уцячы, уцячы“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як сон, прайшла тая пара. І сьветлы, залаты, і чорны, цяжкі сон.

Сядзіць ля вакна. Адзін. Мікола [ж]) пайшоў у другую палову, дзе кляс.

---

а) Рус.—у нас, беларусаў, няма клясавай барацьбы, няма яе, не павінна быць і ня будзе. Мы ўсе ад пана да Сьцяпана, як кажуць, будзем стаяць за адно — цесны саюз з Расеяй і законнае надзяленьне малазямельных сялян зямлёю!.. б) Месца, вышка, з якое гаворыць аратар. в) Вялікі пакой. г) Провінц.—нібы ўпіхнула. д) Правільна — галодныя няшчасныя. е) Старабаўг.—галоўнага, знач.—галаву, павадыра. ж) Яго сябра, вучыцель.

Па небе шпарка ляцяць цёмныя воблакі. Распаўзаюцца, чапаюцца, зьбіраюцца ў адзін груд і засьцяць [а]) неба. Смоўжам зьвілася над зямелькаю брудна-шэрая аграмадная пялёнка; яна хавае сонца. Пачырванелі дробныя ручачкі ў хлопчыкаў і дзяўчынак, што з кніжкавымі торбачкамі цераз плячо бягуць па апусьцеламу шляху, абсаджанаму з двох бакоў чарадою смутных бяроз. Сьцюдзёна. З неба белым курам пыляцца сьняжынкі, сіроткамі сыплюцца зьнекуль згары, з няяснасьці; выплываюць і мякка кладуцца на зямлю, на суччо бяроз, на ўбогую вопратачку дзяцей, на зімовыя шапачкі і хвустачкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ня можна трываць! Як цяжка. Газэт няма трэйці дзень. У сяле ходзяць нейкія дурныя чуткі. Быццам у Расеі будуць забіваць усіх чыста паноў. Быццам панскія двары сахою ўзаруць.

І выплываюць абразы...

Князь, белы, як крэйда, кажа з трыбуны, што на Беларусі няма клясавага змаганьня. Вялікі груд бежанцаў — старыя, дзеці, бабы— раптам шалёна кідаецца на яго...

І душа дваіцца. Дзьве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, на што яна мучыць яе падманкамі, цяпер цьвярдзеець, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасьці [б]) і нават жорсткасьці. Няхай сябе тая плача па нейкай паненцы. Ей ня шкода, і яна ня здрыгнецца, калі дзікая людзкая куламеса пашарпае на шматкі і князя, і Макасея-мільёншчыка, і разумца-армяніна. Ей ня шкода... А тая, другая, падумала і здрыгнулася.

Плывуць абразы...

Бывае так, што сярод холаду, шэрасьці, пустэльнасьці і нуды асеньняй прыроды, сярод прыкрага надвор'я самай познай восені на небе неяк няўпрыцям прагаліцца маленькі сіненькі лапічак — адзін, другі, трэці. Вось ужо немалая частка неба вызваляецца з-за хмар, сіняя, радасная; яшчэ лёгка плывуць па яе берагох прыгожыя фарботы цёмных пасяродку і белых наўкол бопачак [в]). Яшчэ вісіць чорная-палавая туча далёка-далёка над лесам, як слова, яна там дужа добра ўчапіліся. А зірнеце, зірнеце скарэй, як вун там шпарка перасуналася астатняя срэбная хмарка цераз сонца, бліснуў з неба першы сноп сьветлага калосься на крыльлі прудаветрака; перабег залатой пасьцілкаю цераз папоў сад, — і ўсё весялееець, робіцца прыгожым; ціхенька варухнуліся галінкі на старой бярозе, убачыўшы сонца, і мякчэйшай хоча быць мёрзлая груда пад нагамі дзяўчыны, што схапіла вёдры, бяжыць да вады, бяжыць і нечага сьмяецца, а сонейка забавілася, любуецца на дзявоцкае прыгаство.

Бывае так.

І там ізноў — шэрая нуда.

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі; а ў тых вачох радасна-вясёлы, ціхі сьмех, — стаіць Аля ў сонечным арэоле [г]). І ўсё весялеець, робіцца прыгожым. Аля! Аля!

Ах.. аднойчы распачаў гутарку аб яе паглядах на пахаджэньне з роду, багацьце і—як уважае палітычныя пытаньні, але яна, відаць, зразумела так, што ён бяднейшы за яе.

---

*а*) Пров.—засьцілаюць. *б*) Гарту, загартаванасці. *в*) Хмарак. *г*) Залаты кружок наўкол галавы сьвятога, знак сьвятасьці.

А можа і тады, нават, думала, што ўсё-роўна ў іх нічога ня выйдзе, дык няма чаго аб тым гаварыць, няма на што супакойваць яго.

А можа і яшчэ горэй зразумела яна? Напэўна! Яна думала, што на яе багацьце галяцца! [а])

Бывае так.

І тады — шэрая нуда.

— Так, так, так! Бывае!! — кінуўся ад вакна.

— Што ты крычыш тут адзін? — уваходзіць Мікола, добры, слаўны Мікола.

— Кажу: бывае... усё бывае! Вось уздумаў на аднаго знаёмага, Міколу Мартынавіча, цёзку, бач, твайго. Ніколі ня бачыў яго, а як жывы, стаіць мне ўваччу.

— Ну, так, бывае, — не зразумеў Мікола. — А ведаеш, — кажа ён наўмысьля дужа звычайным голасам, — навіну пачуў ад дзяцей: Крупкі [б]) ўчора таксама, ведаеш, разьбіты мужыкамі... Дом, ведаеш, братка, спалілі. Нічога, бацька пасьпеў уцячы ў Магілёў. Езьдзілі нашы на станцыю, даведаліся. Дык вось, ведаеш. Цябе тут ніхто ня знае, ня думай. А бацька, аднак, пасьпеў-жа ўцячы...

„Ах, так, Крупкі... Дзе я радзіўся, дзе я рос, дзе вісеў партрэт надменнай прыгажуньні-полькі, што людзі казалі: „Твая матка, яна памёрла, як ты радзіўся“. Забілі мужыкі, — даведаўся я. Крупкі, красавіца, сенажаць, маленства... Ану, чорт і з ім, ці ня ўсё роўна? Так, ці ня ўсё роўна? Дачка лясьнічага Іра кахала мяне, а ня прызналася, бо ня мела веры, каб я, багатыр, узяў яе, мяшчанку, без пасягі [в]). Я люблю Алю, а павінен даць дарогу князю. Якая дурата! І чорт з ім, з усім!“

— Чорт і з ім, чорт і з ім, — мармочаць ён і палохае Міколу.

— Што ты кажаш?

— А? Бацька ўцёк? Чорт з ім .

— З кім? — зусім не разумее Мікола свайго Ігнася і ўзноў пытаецца:

— З кім?

— Так, з усім. Ня шкода.

— Бібліятэка, братка, згарэла.

— Ат, няхай сабе. Яны створаць сабе, калі ім будзе ў тым патрэба...

Разнародныя пачуцьці збунтаваліся у яго і пакаціліся вялікім, няпрыемным клубом

Адна душа казала: „Мне ўсё роўна... Мне ўсё роўна“...

А другая прыкра балела і маўчала.

## СУХАВЕЙ

Едучы са станцыі Абдзіраловіч на дарозе ўбачыў вясковы прадвыбарны сход, на якім гаварыў вучань адраджэнец-беларус і знаёмы ўжо Гаршчок, як камуністы. Сяляне сталі на бок Гаршчка.

Вучань скокнуў з плоту на зямлю. Быў ён нязграбны, касалапы, у вялікіх ( ах, і захлюпаныя разрэзы шынэлі з жоўтымі гузікамі і зялёным кантам цялёпалі па шырокіх халявах, калі ён ішоў.

---

а) Гоняцца. б) Назоў двара. в) Лепей — пасагу.

— Вы едзеце на станцыю? — спытаўся ён у прапаршчыка. — Можа падвязьлі-б мяне троху?

— Добра. Будзе весялей. Сядайце.

Яны паехалі.

Сход слухаў Карпавіча, і толькі мала хто, найболей з дзяўчат, правадзіў іх падводу маўклівым паглядам.

Ізноў пачалася імгліва-халаднаватая нуда ў апусьцелым полі.

— Чаму-ж вы не давялі змаганьня да канца? — запытаў Абдзіраловіч.

Вучань памаўчаў, пакрактаў, пахухаў на пальцы.

— Усё роўна, — сказаў ён.

— Чаму?

— Так... Няхай гэты дзядок-бальшавік выедзе ў Маскву, тады да галасаваньня можна будзе падыйсьці сюды, калі я ці хто пасьпее. А цяпер трэба агітаваць у С-й воласьці. А тут нічога ня выйдзе, бо селяніну бліжэй і знаёмей цяпер пытаньне аб міру і зямлі, чымся аб беларускім адражэньню. Дзядок карыстае.

— І многа вас, вучняў, ходзіць так?

— Даволі...

— Ад партыі ці як?

— Не, мы так, самі па сабе.

Абдзіраловіч усё больш дзівіўся і цікавіўся.

— Адкуль-жа ў вас гэткая стараннасьць? — ня мог ён прыдумаць далікатнейшага пытаньня і з боку ўзіраўся на просты сялянскі і тыпічны беларускі твар хлопца.

— Адкуль? — весялей пачаў казаць хлапец, гледзячы проста перад сабою; — ці вы не беларус, што пытаецеся?

— Беларус — адказаў Абдзіраловіч роўна і проста, але з дробачкай спагаднага сьмеху.

— А калі беларус, дык скажэце-ж вы мне: што вы робіце, каб адрадзіць нашую няшчасную бацькаўшчыну?

Абдзіраловіч няўмысьля усьмяхнуўся, але зьдзержаўся і спытаў у вучня:

— Вы кажаце ўжо каторы раз аб адраджэньню. Што гэта вы хочаце тым словам сказаць?

— Аб ім вы лепей даведаецеся з беларускай літэратуры, чымся ад мяне — сказаў хлапец няпрыхільна, думаў бо ўжо, што перад ім вораг: а вы мне аднак-жа адкажэце, што вы робіце для бацькаўшчыны, для маткі-Беларусі.

Абдзіраловіч ізноў няўмысьля, але дужэй засьмяяўся і ня мог зьдзержацца, хоць пасьля і ўцяміў, што пакрыўдзіць хлопца, і ня сур'ёзна, як ужо пайшло адразу, сьмяючыся, сказаў:

— Бацькаўшчына—матка—Беларусь? Ха-ха! Выбачайце, паночку, але мая бацькаўшчына — уся Расея.

—А! Так! — раптам выскачыў хлапец з калёс. — Ну, дык мне не па дарозе з рэнэгатам [a]), — сказаў і, ня глянуўшы назад, пайшоў пехатою па сьцежачцы збоку дарогі, пад бярозамі.

— Паночку, што вы? Пажартавалі, ці што? Сядайце, паедзем шыбчэй! — ня ведаў, што казаць, бо не разумеў хлапца, Абдзіраловіч.

— Які я вам, чорта, „паночку"? — зусім зло і ўзноў не пагледзеўшы, адгукнуўся хлапец; я мужык-беларус і пасылаю да ўсіх чар-

a) Лац. — вераадступнік, вырадак.

тоў замаскаленых паноў-рэнэгатаў... Да ўсіх чартоў! Чуеце? — са злосьцю крыкнуў ён і зьвярнуў на ўбочную вузенькую дарожку, пайшоў і пайшоў у імгліва-халадкаватую нудную восенную далячыню.

— Стой!—крыкнуў узлаваны Абдзіраловіч свайму хурману, і схапіўся за вожкі, каб ужо бегчы за хлапцом: чаго ён і як ён паважыўся лаяцца?

— Едзь! — пусьціў, падумаўшы, вожкі з рук: — дурны нейкі, ці што, — казаў быццам сабе, быццам падводніку і пачаў супакойвацца; — яшчэ ён і лаіцца [а]), вось дурань!

— Дурань нейкі, — згодзіўся і маўклівы падводнік і перасунуў белую маргэлку [б]) з лоба на зморшчаную старую патыліцу.

А той пайшоў і пайшоў у сваіх вялікіх ботах.

Абдзіраловіча забралі разважаньні. Аказваецца, ў яго былі дзьве душы: беларуская і агульна-расейская.

## ГАРШЧОК

Іван Карпячонак Гаршчок, або Карпавіч (так звалі яго ўсе, калі ён пабыў у сьвеце), належаў да тэй даўнай і не малой чарады выхаджэнцаў з беларускай вёскі, каторая чакаець яшчэ ў літэратуры свайго пісьменьніка...

Быў хлопец удалы, змалку на ўсё здатны і здольны. Змалку-ж ён і чытаньню-пісаньню добра няўся [в]). Як скончыў ён царкоўную школу, пасадзіў яго бацюшка ў школу граматы вучыцелем.

А Гаршчок, калі за што браўся, дык браўся шчыра: замучыў дзяцей малітвамі, а баб і мужчын — чытаючы ім „Душеспасительный лісток“ з дужа страшнымі малюнкамі: у п'янугі з роту лезець вужака, пляткарка ліжаць языком гарачае зялеза і да т. п.

І сасьніў аднойчы Гаршчок, што ён вялікі нейкі прапаведнік ці манах, і пачуў голас ува сьне, што павінен ісьці ў манастыр, у манахі.

І пайшоў.

Быў ён з маладосьці [г]) прыгожы: вочы зоркія, спрытныя, валасы кучаравыя, від да ўсякага чалавека спагадны і радасны.

І скора і лёгка ўбіўся ў ласку да архімандрыта; даручыў той яму стаяць ля машчэй, калі знаймуюцца багамолы, і пільнаваць, каб клалі грошы і каб ня было абы-якога непарадку.

А манастыр быў знамяніты. Многа вялікіх паноў прыяжджала сюды, асабліва з таго часу, калі забілі недалёчка ад манастыра важную асобу царскага роду; прыяжджалі князі і графы, княгіні і графіні закупляць панахвіды.

І прыяжджалі дзьве князёўны.

Любілі яны да машчэй прыкладацца. А станавіліся недалёчка ад прыгожага паслушніка [д]).

І няўпрыцям для самога сябе пасьлізнуўся ён...

Прапаў Іван Гаршчок.

Трапіў у самае басяцкае прадоньне...

...Прачнуўся аднойчы на голых, запэцканых гразёю, шалупашкамі і сьлізкімі гурковымі і кавуновамі недагрызкамі, замасьленых басяцкім шкумацьцём [е]) палацях у начулішчы.

---

а) Пров — лаецца. б) Беларуская шапка асаблівага крою. в) Браўся, навучыўся, праняўся. г) Лепей — з моладасьці, змоладу. д) Радавы манах у манастыры. е) Лахманьнём.

Гаршчок намагаўся ўцяміць усё і абмеркаваць, але нудна было пад ложачкай, балела галава, гідзіла яго ад абліча абшарпанкі.

Першы раз за ўсю гульбу паўстала пытаньне: што рабіць?

На работу нідзе ня возьмуць басяка, ды й кепскі з яго работнік.

„Прасіць“ — страшная мільганула думка. „Красьці“ — бліснула яшчэ страшнейшая і горкая.

Абчысьціўшыся троху і падцягнуўшы штаны, паплёўся ён па сонных, яшчэ пустых завулках на ўзьбярэжную.

Там ужо мялі белыя дворнікі, махаючы аграмаднымі мётламі, беглі на рынак бабы з кошыкамі і цягнуліся на начлег самыя позныя гулякі.

Гаршчок асьцярожна і быццам сонны зьлез па прыступачках даўгой лесьвіцы а) да ракі, з нейкай дзіцячай радасьцю заскрыпеў бацінкамі па берагавому жвіру, адчуваючы блізкасьць да прыроды, уліваючай у людзей спакой і сілу і спадзяваньне.

Сьвежы ветрык абдуваў гарачым халадком. Гаршчок скінуў кепку б) прыгоршчамі набіраў вады і, смакуючы, мыўся. Вецер уздымаў кучаравыя, даўно нячэсаныя валасы.

Павесялела яму, ёлкасьць чуцьця пачала зьнікаць..

Зазванілі нейдзе яшчэ, запляскалі па бруку капытамі коні звозчыкаў, з громам і гукам цягнуліся ламавікі з даўгімі смоленымі бочкамі.

Сярод гулу Гаршчок ціха йшоў бачком, каб ня біць у вочы дрэнным адзеньнем, і думаў: што цяпер рабіць? Паехаць дамоў к брату і сабрацца з сіламі, — не, не выпадае. — „На зіму, на гатовы хлеб прышоў валацуга — скажуць людзі: — чаму не прыхадзіў раней, як меў грошы? Тады пазабыўся, што і брацеьнік ёсьць“ — так скажуць яму у вочы і за вочы. — „А брат-жа карыстаець з майго паўнадзела“ — упіраўся другі, свой, голас. — „Аднак сам-то ты ня хочаш карыстаць з яго“, — скажуць горкую праўду. Прыйдзеш дамоў і пачнеш хадзіць па лесе ды па дуброве за красою, а бульбу капаць ці каноплі браць — памажы вам божа, а я ня хочу...

Ніяк ня можна ехаць дамоў. Ды і на што білет купіці?

Аставалася адно: пайсьці да архімандрыта і спытаць колькі рублёў, што некалі разам „зараблялі“.

Доўга так ішоў ён, куды ішлі ногі, а ногі давялі да сьцен манастыра. Чатыры гады назад ішоў ён сюды адухоўнены, поўны веры і сілы духа: ішоў, каб быць бліжэй да бога. Цяпер ён ішоў злы і бязбожны з няпрыхільснасьцю і дайжа пагардай [12]) да гэных муроў.

— Эт, будзь, што будзе, — у голас прагаварыў ён сабе і сігнуў за чыгунную кратчатую калітку в)...

Не чакаючы і ня просячы благаславеньня [4]), падыйшоў да архімандрыта Гаршчок і загаварыў да яго, загарадзіўшы яму дарогу.

Шыя ў архімандрыта пачырванела.

Ён сьцяміў, чаго той хочаць ад яго.

— Арыштант! Социяліст! Ідзі туды, адкуль прыйшоў, — раптам прасіпеў ён.

Гаршчок згубіў панаваньне над своею воляю.

— Я пайду, пайду, — закіпеў і ён, махаючы рукамі ад вялікага абурэньня,— я пайду, але ты, ты... (няўзнаку зьехаў з „вы“ на “ты“)— калі ты не аддасі мне маіх трохсот рублёў, што я зарабіў, пяючы

---

а) Сходаў. б) Шапка. в) Дзьверцы.

з табою пры адправах, то ты пойдзеш яшчэ далей за мяне!.. Памятай панагію! а)

І для нячулага старога архімандрыта гэтыя словы былі нязвычайнаю крыўдаю. О, колькі клопату і страху дадала яму гэтая, ўцішку прададзеная панагія.

— Гукнуць паліцыю!!—ківірнуўся б) да послушнікаў архімандрыт,— аж шугаў ад гнеўнасьці.

— Гукай, гукай! — няпрытомна галасіў Гаршчок,—я пра панагію на ўсю Расею крыкну, няхай ведаюць, як рызьнічныя перахоўваюць манастырскае старавечнае дабро. Не аддасьцё мне маіх грошы, дык я зраблю іначай з вамі! — неасьцярожна дадаў ён якраз словы з пісьма, што пісаў архімандрыту троху раней.

Надта з) дзікою выглядала такая праява ў царкве.

Послушнікі выпіхнулі Гаршка на цьвінтар в), дзе ўжо беглі два гарадавыя.

— У паліцыю хулігана! — быццам гусак сіпей і гагатаў ацец архімандрыт.

Вусатыя, чырвоныя гарадавікі баяліся гэтага кандыдата на япіскапы, добра ведаючы яго вагу сярод паноў. Не спрачаліся і не распытваліся, схапілі Гаршка за рукі, дырганулі і павалаклі за чыгунныя кратчатыя варотцы на гуманлівую, бліскучую, звонкую вуліцу.

— Я сам... Я пайду... Я-ж сам іду, — увесь белы ад крыўды і сораму, што ўчынілі над ім гвалт, кундыячаў г) Гаршчок гарадавым. Тыя маўчалі і цягнулі за рог вуліцы.

Прывязьлі яго ў ахрану д). Увялі ў раскошны пакой і пасадзілі паміж двох жандароў.

Зараз выйлі з другіх пакояў жандарскія афіцэры. Адзін меў у руках Гаршчкова пісьмо да архімандрыта, у каторым якраз і было тое — „Калі не аддасьцё маіх грошы — зраблю іначай з вамі“.

Ізноў пачаліся распытваньні, хто, адкуль, чым займаўся, завошта меўся забіць архімандрыта, ці меў памагачых у нападзе?

— У турме сядзеў?

— Ні разу, пане палкоўнік.

Афіцэру не падабалася „пане“ — Гаршчок чутка заўважыў.

— Брэшаш, латруга!

— Ніяк не брашу, вашскародзе!

— Ага. Ну, мы праверым.

Прывалаклі аграмадны альбом е) з фатаграфіямі розных злачынцаў і зачалі іскаць і шукаць.

Доўга цягнулася гэта работа, было горача і прыкра.

— Так! Першы раз у нас і ведамасьцяў з другіх гарадоў аб табе няма, — сказаў паўкоўнік.

— Анархіст ж), рэвалюцыянэр, бальшавік? — папытаў у яго далей палкоўнік.

Гаршчок вытарашчыў вочы.

Капітан усьмяхнуўся.

— Мяркуючы па яго пісьму і правапісу, пане палкоўнік — пстрыкнуў ён па пісьму.

---

а) Абразок на грудзёх у праваслаўных архірэяў. б)Ківуўся. в) Месца перад царкоўным будынкам. г) Пров.—гаварыў, мармытаў. д) Паліцэйская управа. е) Кніжка для фататрафіяў, абразаў памятная кніга. ж) Чалавек, не прызнаючы ніякай улады.

Абодва засьмяяліся. Гаршчок пачырванеў, што сьмяюцца з яго цемнаты.

— Ну, ты добра сьпісаў тут манастыркія парадкі, толькі як паважыўся пагражаць? Што значаць словы: „зраблю з вамі іначай“?

— Тое, што буду судзіцца за свае грошы, — адказаў Гаршчок.

— Ага, так! Добра.

Яны пайшлі ў другі пакой і доўга рагаталі там, яшчэ раз перачытываючы Гаршкова пісьмо, перасланае ў ахранку аухімандрытам.

Адылі [a]) выйшлі.

— Ну, што-ж: хочаш, каб мы цябе адправілі на родзіну?

— Хачу, вашскародзіе, — узрадаваўся Гаршчок, думаючы, што яму дадуць бясплатны праезд, як нічога нямаючаму і невінаватаму ні ў чым.

— Добра, пішы, — сказалі пісару і пайшлі сабе.

Пісар напісаў паперу, падаў яе салдату і сказаў:

У N-ую перасыльную.

— Як, у турму, па этапу?! — скалануўся Гаршчок.

— Ато як-жа? Сам прасіў.

— Я ня тое.. Я ня хачу, — узьняў голас Гаршчок.

— Ну, ужо канец, зроблена. Вядзі яго.

Даўгім і стыдным быў час да турмы сярод двух салдатаў са штыхамі па самай сярэдзіны вуліцы, па каменьню.

— „Па этапу, з салдатамі дамоў... О сорам, сорам“ — мысьліў Гаршчок у адчаю.

Яшчэ доўга мучылі яго, пакуль прыймалі ў турме, ізноў пісалі, ізноў пыталі. Цэлы дзень мінуўся — макавай расінкі ў роце ня было. Потым упіхнулі ў смуродную, брудную, поўную арыштантаў камэру з палацямі.

— „Яшчэ раз я прапаў“ — разважаў Гаршчок.

Толькі цераз тры месяцы, пацягаўшы па ўсіх пунктах і турмах, даставілі яго ў родны губэрскі горад. І за гэты час Гаршчок шмат чаго новага для сяба пабачыў і пачуў.

Не забавіўся цяпер у брата навет месяцу, ізноў паехаў у сьвет, Выўчыўся рабіць па мэталу і чытаў безразборна ўсялякую нелегальшчыну з гэткай-жа стараннасьцю, як некалі — „Душеспасительный листок“. Здабыў пашану за розум свой ад таварышаў-работнікаў і стаўся Карпавічам. Але правадыры-інтэлігэнты з іх характэрнай інстынктыўнай цямнасьцю ня мелі да яго асаблівай прыхільнасьці. Чулі ў Карпавічу той гатунак людзей-самавукаў, каторыя, хоць і вялікай высакосьці даходзяць у мастацтве, палітыцы ці абы-якой навуцы, але назаўсёды застаюцца з нейкай хібаю ў самым грунтоўным, а дзеля таго неўспадзеўкі і страшна лёгка зваліваюцца часам на самы дол чалавечай думкі. Яны, гэткія, дзівам сумяшчаюць у душы сваей найлепшы, здаецца, гуманізм [б]) і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію, алхімію [в]), марксізм [г]) і хірамантыю [д]) і з аднолькавай шчырасьцю веруюць у тое і другое. Багі іхныя любяць завадзіць сварку, скідаюць адзін аднаго з пасаду і робяць у галаве свайго паклоньніка

---

а) Пров.—але. б) Любоў да чалавека. в) Ілжывая навука аб шуканьні каменьня, з якога можна рабіць золата. З алхіміі вырасла хімія. г) Навука Кароля Маркса, заснавацеля соц.-дэмократыі. д) Грэцк.—гаданьне аб лёсе чалавека па лініях на далоні.

нязвычайны сумбур. Багоў гэных зазвычай надта многа, але бываюць часіны, што і няма нічога, вось тагды людзі такога гатунку і вырабляюць розныя неспадзеўныя штучкі.

— „Нікоменьку ня прызнаюся, — сам сабе думаў іногды Карпавіч, — але чую, што ў абы-якой партыі мог-бы знаходзіцца з поўнай шчырасьцю“. І праўда: у пачатку вайны ён троху чаго не зрабіўся самым ярым ісьцінна-рускім патрыотам, потым пад уплывам сваіх знаёмых студэнтаў — сьвядомых беларусаў — дужа скора асьцюдзянеў. І нічога дзіўнога, што за нядоўгі час парамахнуў ён аж да бальшавіцкага лагеру. У бальшавізьме Карпавіч пачуў нешта блізкое, роднае і любае. — „Доўга шукаў, — дзякаваць Богу, знайшоў-ткі“ — уцяшаўся дзядок і, пачуваючы дужасьць і адвагу, зрабіўся нейкім пэўным ува ўсім-чыста, гаварыў з людзьмі вольна і плаўна і быццам рос, нізенькі, з-пад сваіх сівых валасоў.

— Сячы трэба да карэньня! — любіў казаць і часта казаў цяпер Карпавіч, хоць і ня траціў свайго паўсёднага гумару.

Ігнат з Васілём пахавалі старую. Неўзабаве ачуняўшы Гаршчок дастаў назначэньне ў свой павет. Тут-жа быў дворык Абдзіраловіча і школа вядомага нам Міколы Канцавога. Гаршчок узяў з сабою Васіля, а той запрасіў Абдзіраловіча.

Яны на бацькаўшчыне. Па Беларусі прайшоў фронт. Магілёўшчына адрэзана ад Менску, як цэнтру беларускага жыцьця. Тут такім цэнтрам стала Горацкая Гаспадарская Акадэмія. Асабліва горача браліся каля працы вучні, між імі вядомы нам Сухавей.

З Менску прыносілася літэратура і ўсё, што патрэбна для працы. Аднойчы прыйшоў ліст на імя Абдзіраловіча і грошы ад бацькі. Гэтыя грошы вучням хацелася ўжыць на працу. Але трэба было пагаварыць з Абдзіраловічам. Даручана было зрабіць гэта Іры Сакавічанцы, старой знаёмай яго. Яна думала зрабіць гэта з дапамогаю Сухавея і Міколы Канцавога.

---

Тым часам у Алі з князем ня ладзілася і яны разыйшліся. Расстаньне з Абдзіраловічам прывяло яе да нэрвовае хваробы.

Абдзіраловіч ізноў стрэўся з Васілём і Гаршчком, калі яго, ў ліку другіх арыштаваных-белых вялі па вуліцы Масквы. Ён быў асвабоджаны. Але, калі яны йшлі дамоў, на іх напалі белыя. Гаршчок быў ранены; Васіль уцёк, а Абдзіраловічу прапамавалі прылучыцца да іх. Ідучы з белымі, ён спомніў, што не папрашчаўся з Гаршчком, таму папрасіў пазваленьня адлучыцца.

Ізноў дзьве душы загаварылі. Ні тыя, ні другія ня былі яму сваімі.

---

## МАЛАНЬНЯ.

Яна ведала, што сьмертнуха стаіць блізка — ў галавах у яе.

— Васілёк, галубец, любінькі [a]), — шаптала яна, трудна вымаўляючы словы, — што, не заб'юць яны паніча? Ай, Карпавіч, Карпавіч, дастаў, бедны больку...

---

a) Прав. — любенькі.

— За што-ж ба яны забівалі афіцэра?

— А ён? За каго-ж ён руку дзяржыць?

— Ды так ён неяк, што не магу яго ўцяміць: як быццам за нас, як быццам — не. Бадай што ні за нас, ні за паноў.

— Ня можа быць, каб Ігналік проці народа пайшоў, не такоўскі Ігналік, не павінен... А змусьціцеля нашага, кажаш, падстралілі... Авохці, Карпавіч, даскакаўся стары, авохці...

Хворая ледзь шавяліла перасохлымі вуснамі, пазіралі з глыбокіх вачавых ямін тужлівым і трудлівым зоркам і перабірала зьбялелымі, як белы воск, пальцамі па краюшку коўдры.

Лямпачка тускла мігцела, і ў падвале было нудна. Вася грукаў і барабаніў самаварам ля печы ў парозе. Зрэдку дапятаў сюды глухі гул артылерыі а), і ціхае трашчэньне кулямёта, — як слова, вартаўнік круціў кляшточку. У вакне адбіваўся чырвоны бліск пажарышча.

А божа мой, божа мой! — затужыла ўзноў хворая. Памру во' і не пабачу яго. ты, галубок, ці жыў застанешся, хто ведае. Калі тая завіруха скончыцца? Карпавіч скакаў, скакаў і дастаў сабе больку...

— Заўтра ўраньні скончыцца, — спакойна адказаў Васіль. — Заўтра ўраньні штурм.

— Што-ж гэта за штурм?

— Кінемся ўсе раптам на белых і сабём іх.

— А, божа мой, божа мой! колька людзей паб'юць яшчэ. Дай вады. Авохці, сканаець твая матка, Васілёк, скора сканаець. Карпавіч наш, можа, там ужо: пабачымся.

Васіль маўчаў і быў невясёлы.

Стук! Стук! — пачулася, як нехта стукнуў пад дзьвярмі.

Работнік схапіўся за стрэльбу і падбег.

— Хто? — крыкнуў ён.

— Я.. Ігнат Восіпавіч... Адчыні мне, Васілька!

Хворая, забыўшыся на боль, узьнялася на локцях і ўстроміла вочы ў дзьверы.

— Ён, ён, ён, — шаптала яна.

Абдзіраловіч увайшоў.

— Жыў, цэлы, мой любінькі, мой залаценькі!—працягнула да яго рукі хворая ў нязвычайнай радасьці і, калі ён схіліўся да яе, цалавала яго, дрыжачая, абнімаючы за галаву.

А калі ён апавядаў, як выбавіўся і прыйшоў да іх, і калі ўспамянул і беднага Карпавіча, яе апанавалі прыкметна неспакой і нецярплівасьць.

— Васілька! — з пакорнасьцю і ласкаю зьвярнулася яна, — сха дзіў-бы, даведаўся, ці пайшлі шукаць Карпавіча? Сканаець гаротнік сярод чужых, ай матачка наша навышняя...

Васіль пайшў.

Хворая ўся раптам затрапяталася і падгукнула прапаршчыка. Той недаўменна і з чуцьцём жалю схіліўся над ёю.

Зірнуўшы на дзьверы, яна, уся дрыжачая, абхапіла яго шыю рукамі і, прыжмаўшы яго вуха да мокрага ад сьлёз зморшчанага твару, як у трасцы зашаптала:

---

а) Гарматаў.

— Мой ты!.. Мой родны сынок... А Васілёк — панскі. Перамяніла я вас маленькіх, пераклала. Меркавала: шчасьлівейшы так будзеш... Мой ты, Ігналік... Не, ты — Васілька, а ён — Ігналік... Мой...

І ўсё дужэй і сударжней прыціскала яго канаючая маці да худых грудзей сваіх.

## І Р А.

Іра Сакавічанка, дачка лясьнічага, скончыўшы гімназію ў N, паступіла на пасаду земскай настаўніцы ў глухой правінцыі недалёчка ад Крупак, двара Абдзіраловічаў. Яна была на раздарожжы: хацелася ехаць на вышэйшыя курсы, хацелася памагаць бацьком вучыць малодшых дзяцей, значыцца, служыць, зарабляць грошы. Хацелася— от, так, неабмеркавана, няясна чаму — забіцца ў глухі кут, у бедную школку, вучыць дзяцей, чытаць кніжкі і думаць аб нейкіх неспадзяванках у жыцьці. З беларускім рухам яна пазнаёмілася яшчэ на школьнай лаўцы: гімназісты давалі чытаць беларускія кніжкі. Перад службай Ірачка думала так: для адраджэньня патрэбны людзі з вышэйшай асьветаю, дык яна папрацуець год-два ў школцы, заробіць грошы, а потым паедзе вучыцца; дый ці мала чаго перадумала тагды дзяўчына... А выйшла зусім ня тое. Ля Крупак яна пранастаўнічала чатыры гады — да той памятнай для яе вясны, калі ўлюбілася ў студэнта Абдзіраловіча. Пасьле яна перавялася ў Гарэцкі павет, каб быць бліжэй да Горак: ёй шмат хто казаў, што ў Гарэцкіх сельска-гаспадарскіх школьных інстытуцыях ёсьць надта многа сьвядомых беларусаў паміж вучняў. Яна хацела вырваць з успамінаў тую вясну, назаўсёды зрачыся ўсякіх любошчаў і ўсей душою аддацца „толькі аднэй сьвятой працы — працы на ніве беларускага адраджэньня“. Пераехаўшы ў новую школку, яна незабавам завязала зносіны з Горкамі. Там на першым беларускім спэктаклю яна надта расчулілася ад прыемнасьці і разам расчаравалася. Пабачыла, з якімі высілкамі працуе жменька ідэёвай маладзежы, як мала зроблена і як шмат працы ёсьць усюдых, усюдых. І яна завінулась ля гэтай працы, колькі дазвалялі сілы і час. Сеяла беларускую сьвядомасьць сярод сялян і сялянскай інтэлігенцыі. Вучыла ня толькі дзяцей, але й дарослых чытаць, пісаць, дэклямаваць і пяяць пабеларуску. А вучыла без беларускіх падручнікаў, бо іх ня можна было дастаць з-за дэмаркацыйнай лініі *а*).

Гэтая праца захапляла яе ўсю. Даўгі час Іра быццам ня мела ані той вясны, ані таго каханьня, ані тых успамінаў. Быццам забылася на Абдзіраловіча.

Але цяпер, дачуўшыся, што ён жывець у N, што бацька хоча памірыцца з ім, што можа быць шкода для справы ад яго несьвядомасьці, — Іра ўзноў згубіла спакой, толькі ня мела сьмеласьці прызнацца сабе ў тым. Ёй здавалася, што зусім і ня любіла Абдзіраловіча, што ў яе было нешта, што ня можна было й любоўю назваць... Але чаму-ж паміма яе волі думаецца аб ім, плывуць ужо ўспаміны аб той вясьне, і хочацца бяз конца ляжаць пад яблынкай у гамаку *б*), зробленым з старога гаспадарскага пехцяра, паціху гутацца з заплю-

*а*) Значыць — фронту. *б*) Прылада, на манер каўбелі, для адпачынку, зроблена з нацягненых вяровак і якоесь палатніны.

шчанымі вачамі і апалымі ад невядомай, бяспрычыннай зморанасьці рукамі?

І чаму першы раз во' паўзуць у голаў такія нядобрыя думкі? Думкі аб тым, што працуе, працуе бяз канца... А дзе-ж радасьць асабістага жыцьця? Было толькі раз, толькі з ім. І тады-ж рабіла, працавала, а чаму-ж тады вясна была ўсьцяж сьвятам, сонечным, радасным сьвятам? А цяпер? Ці-ж так ужо й ня будзе асабістага шчасьця? А гады лятуць, лятуць... Яна ўжо не падобна да сябе на картачках, здыманых у N-скай фатаграфіі, у тую вясну. Ужо няма таго вясёлага, радаснага сьмеху ў дзявоцкіх вачох, няма той маладзенькай дзявочай сьвежасьці. Сэрца сьціскаецца ад засмучаньня. І самой сабе сорамна за думкі гэтыя! То-ж здрада сьвятой справы. Ці можна шкадаваць сіл, прыгожасьці, моладасьці для адраджэньня бацькаўшчыны?

Бегла ў хату, ставіла на расчыненае вакно грамафон і завадзіла нешта першае, што траплялась пад руку.

І сорам чула, што ў будзённы дзень, калі ўсе людзюхны працуюць у поце чала на жніве і сенакосе, яна нарушаець сельскую цішу нібы сьвятататным грамафонным крыклівым пяяньнем:

Гарні, гарні бульбу з печы,
У торбачку дый на плечы...

І нэрвовым, сьмешным ёй самой рухам рукі адкідала йголку і слухала зьвінячыя ў вушох раптоўныя моўчкі пустога пакою. Не хацела абедаць. Бегла пад яблынку і клалася на гамак, тварам ніц на падушку. Быццам мімаволі патрошку гуталася і прыціхала.

Паўднёвае жніўнае сонейка пазлачала [a]) лісьце ў садзе і прабіралася скрозь яго нават да калыханай дзяўчыны. Гдзесьці гудзела пчала, і далёка на шляху тарарахалі пустыя калёсы. Ківаўся лісьцічак на яблонавым сучку, ківаўся ражок хвусьцінкі на яе прыніклай да падушкі галоўцы. Сьпіць яна. Сьпіць, ня сьпіць, усё чуець, ведаець, а быццам сьпіць, ня можа заснуць..

Думае думы Іранька.

То-ж не ў гамаку яна гутаецца, а ў люльцы сваёй дзяцінай, як была маленькая. Падпаўзаюць мухі, прыкра-неадчэпныя, аж пад посьцілку да дзіцёнка, робяць яму яшчэ душней, і тады бабулька-нянька, чуючы варушэньне, барджджэй налягаець на пачопкі і пяець-пяе нашу дзіўную музыку дзяціных гадоў:

А йдзі, коце, у лясок,
Прынясі ты Ірцы паясок...

Цішэй і цішэй скрыпаець люлечка. Ды сонейка прабіваецца скрозь посьцілку і варушыць паненачку сьпелянатую. І пяець нянька тое, што цяпер Іраньцы ўспамінаецца, ні-то нуднае, ні-то соннае:

Сядзела котачка на кухні,
У яе вочачкі папухлі...
— Чаго-ж ты, котачка, плачаш:
Ці піцькі, ці есьцькі хочаш?

---

a) Правільна — пазалачала.

— Ні піцькі, ні есьцькі хачу,—
Па сваэй жалосьці плачу...

Пяець бабулька песьню, якую пяяла сваім дзяцём і якую соладка сама слухала восемдзесят год назад таму.

Думае думы Іранька.

Чаму з бабамі сяньні *а*) жаць не пашла? От-бы ня нудзілася!

Ураньні, з расіцаю, па халадочку, люба й лёгка жаць. А за дзень самлеець сьпіначка. І сорам-жа, каб яе постаць ды ад'заду цягнулася. Хруп, хруп! Шуміць серп. Распаўзаюцца жучочкі, казюлечкі й божыя кароўкі. Кінулась сівая мышынка з-пад камлыжкі да свае норухны. Дарма не пашла ты сяньні з бабамі жаць, Іранька! Сьніцца табе на сонейку няведама што, і млееець тваё сэрданька.

Так ташнавала дзяўчына аж да вечара, то ляжала, то бегала, спакою сабе не знаходзіла. А калі ўсё паснула ў ціхім сяле і маркотны месяц паплыў па сінім небе, а нейкія адзінотныя трывожныя ваблокі абміналі яго і трывожным ветрыкам варушылі сьпячы сад, Іра выйшла з хаты і глядзела на чорнакрывавы мак на градах, дыхала паветрам ад красуючай табакі і слухала тую цішу. А пастаяўшы, хадзіла па садзе, варочалась у хату, хадзіла па сваім пакою, ішла ў парожні кляс, хадзіла там, гледзячы праз тускла-бліскучае шкло па ясны месяц, і ўзноў ішла у свой пакой, дзе вакно было адчынена, а праз яго цягнуў сьвежы халадок.

Школа яе дзялілась вузкім калідорчыкам на дзьве палавіны: ў аднэй быў кляс, а ў другой жыла настаўніца. Другая палавіна была шмат меншая за першую; гэта быў адзін невялікі пакой з адгароджаным тонкаю драўлянаю пераборкаю кутом, у якім настаўніца спала. Ля аднэй сьцяны стаяў даўгі, вялікі стол, увесь закладзены кніжкамі, нотамі, рознымі паперамі і грамафоннымі кружэлкамі. Паміж сталом і вакном стаяла пляцёнае з ракітніку крэсла, з высокаю адкінутаю сьпінкаю, надта добрае для сядзеньня зморанаму ці лятуцённаму чалавеку. Ля другой сьцяны — шырокая, мяккая канапа, а на ей — гітара з чырвонаю стужкаю, а з двох канцоў канапы—крэслы ў беларускім стылю, з рэзьбаю, вялікія, цьвёрдыя і простыя. На сьценах — без шпалераў — вісела невялічкая карта Беларусі, а над ёю, абвіты беларускім паяском, вісеў маленькі партрэт у рамцы Янкі Купалы. На другой сьцяне быў Тургенеў і колькі выразаных з ілюстраваных часопісяў і проста налепленых на паперу фатаграфій беларускіх літэратараў і дзеячоў. Два вакны былі ў сад. Адно — усё загароджанае хатнімі краскамі; другое ўдзень паказвала праз сябе клумбы *б*) з прыгожымі, буйнымі краскамі, некалькі градак з гароднінаю і далей — невялікі садок, некалькі яблынак і сьлівак, кусты шуры і парэчак. На градах было дужа многа цьвітучага добрага маку з густачырвонымі вялікімі ляпёсткамі і ўжо некалькімі досыць буйнымі мачынкамі. Тут-жа блутаўся вусасты, кручаны гарох, зьвісаў з высокіх уваткнутых сукаватых кійкоў сваімі кволымі кручастымі вусікамі, пачынаў цьвіцець белафіялетавымі дробнымі красачкамі. На клумбах расла табака, леўкоі, пахнючы гарошак і яшчэ колькі розных красак. І клумбы й грады разрасьліся густа і багата, нават дзіка, ня ведалі штодзеннага пільнага дагляду і буялі самадумам.

---

*а*) Ужываецца болей — сёньня, сягоньня. *б*) Ням. — цьвятнік, грады з цьвятамі ў саду.

І ўзноў маркотны месяц і ціхі сонны сад цягнулі дзяўчыну з яе цеснага пакойчыка туды, дзе ў цямноце буяў гарох і чарнеўся добры мак. А ці надоўга? Пастаяўшы безнадзейна сярод прыгожых ды невясёлых моўчак ночы, сярод тае пакутнае ночы, зараз бегла назад у цясноту свайго пакойчыка.

Ідучы па вузкай тропцы, што зарасла нізкай, стаптанай травіцай, перапечкаю і бязыменнаю, Іра сашчыпнула чырвоны, выгнуты, з чорным плямам пасярод, маковы ляпёстак і няўпрыцям ірвала яго ручкаю, падносячы да вуснаў. Прышла, накруціла грамафон, паставіла „Веснавую казку", а сама села ў пляцёнае крэсла, прыхінулась сьпінаю і заплюшчыла вочкі. З грамафоннай трубы ляцелі сьвежыя і звонкія, як вясна, гукі скрыпкі, а дзяўчына наперакор ім дэклямавала з Канстанцыі Буйло—

Я каханьне маё пахаваю ў душы,
Спакой сфінкса [a]) на твар налажу,
І хоць сэрца ад болю сканае ў грудзях,
Я нічога табе не скажу...

Астанаўляла грамафон, ішла да вакна, садзілася і глядзела ў заліты бліскам месяца сад, аблёгшыся падбародкам на пастаўленыя ручкі.

Сухавея і М. Канцавога заарыштавалі, як контр-рэволюцыянераў.

Іра, пераносячы ўсе няпрыемнасьці і перашкоды, хадзілася аб іх вызваленьні. У час гэты нечакана сустрэлася з Абдзіраловічам, які ёй стаў памагаць, маючы знаёмства з Гаршчком.

Тут перад вачыма Абдзіраловіча перайшла сьмерць Гаршка, якога зарэзаў правакатар, вядомы яму капітан Гарэшка. Сам Гарэшка ўцёк. Уцёк з турмы і Сухавей, а ад Гарэшкі-ж даведаўся аб выхадзе замуж Алі за князя. Але Абдзіраловіча нішто не праняло. Над усім ён толькі разважаў. Да яскравых чынаў яго не дапушчалі дзьве душы.

---

*З зборніка: „Досьвіткі".*

# Паншчына.

## I.

Князь забіў на ловах пару вялікіх, прыгожых ласёў. Вясёлы, здаволены, ажыўлёна гамонячы з гасьцямі, вярнуўся ён к вечару дамоў і заказаў кухару засмажыць адменнага зайца, забітага ўчора лоўчым на сьнягу ў пушчы.

Жырны, чырвоны той заяц ужо ляжаў на стале ў пякарні, і кухар жыва завінуўся ля яго.

Умельствам кухара гардзіўся сам князь і часта хваліўся гасьцям, што другога такога кухара ўва ўсім краі няма.

Кухар гэта ведаў і стараўся паддзержыць сваю славу.

Сягоньня ён асабліва стараўся. князь вярнуўся вясёлы, госьці рагочуць, абед будзе з паляўнічай выпіўкай, — можна й гасьцінца

---

a) Вылепленыя фігуры з галавой чалавека і тулавам зьвера; твар нічога не выражаў: таму сфікнс стаў сымболем усяго, аб чым ня можна даведацца што-небудзь пэўнае.

спадзявацца ад іх, а князь назаўтрае пахваліць і добрым часам дасьць чарку гарэлкі.

А не дагодзіш — бяда: зараз пацягнуць гайдукі на стайню і так адсмаляць раменнымі бічамі, што цэлы тыдзень ані сядзеш, ані ляжаш. Быў адзін выпадак (кухар засмуціўся, спомніўшы): перасаліў ён стравы, і князь сам, сваёй цяжкой рукой, так ударыў яго два разы поўху, што й цяпер яшчэ ў дрэнную пагоду з вуха гной цячэць. З гэтае прычыны кухар заўсёды насіў у вуху кавалачак мяккага хлопу [а]) і дрэнна чуў. І ці мала было такіх выпадкаў, што забіў-бы яго гнеўны князь да сьмерці, ці здаў-бы ў салдаты, каб не даражыў яго залатымі рукамі і тонкім кухонным смакам. Пасьля калецтва прыкра было відзець князю кухара з заткнутым вухам, і ён ніколі ўжо ня гукаў яго на нараду аб стравах да сябе, а пераказваў праз стольніка.

Ды сяньня князь быў у гэткім нязвычайным гумары, што першы раз захацеў сам пагаманіць з ім аб спосабе смажаньня зайца.

Калі хлопчык-гайдучок [б]) прыбег з палацу ў пякарню (яна зьмяшчалася водаль, у васобным, адумысным будыначку), калі ён запыханы крыкнуў кухару: „Дзядзьку, яснавяльможны кліча да сябе... барждзжэй!“ —у кухара затрасьліся ад неспадзеўкі рукі і зазьвінела ў хворым вуху. Ён ня ведаў, пужацца ці радавацца яму? Падняў уронены [в]) ручнік, абцёр з рукі зайцаву кроў і рупліва прыгладзіў лысіну і падкруціў вус.

— „Піражка... піражка, Янучок!“— саромліва, без раўнавагі зашаптаў ён гайдучку, аглездзеўся наўкол, каб хто ня відзіў [г]) схапіў з духоўкі румяны піражок і ўсунуў хлопчыку ў кішэню за добру [д]) вестку. Хлопчык быў рад, пагладзіў вялізнага адгадаванага ката, князёвага ўлюбёнца, што прыбег за хлопчыкам з пакояў, і паганяў дзядзьку: „Барждзжэй, барждзжэй! Чакае“. І зараз памчаліся: хлопчык напераддзе, а кухар сьледам, на хаду спушчаючы засуканы рукаў.

Толькі мышасты кот астаўся, за недаглядам зачынены ў кухні. Ён важна пахадзіў па стале, панюхаў зайца, потым глянуў праз адчыненыя дзьверы ў чорны прыкухоньнік, дзе два малодшых кухары і судамой і хлопчык-дрыванос рабілі сваю работу.

Кату прыемна засьвярбела ў носе, ён глыбока пацягнуў пах ад вялізнае гарачае пліты, на якой бяз ліку стаяла рознага судзіньня з гатаванымі стравамі, клубілася з катла пара, шляхатала вада, сіпелі скавародкі, трэскалі дровы ў печы. Але блісканьне на паліцах соцен медных рондаляў (каструляў) усялякай велічыні, ад самай большай увелькі з цэбар да самай малюсенькай з катову галаву, — не спадабалася яму. Там былі адчынены другія дзьверы і скрозь іх цягнуўся холад, можна было выскачыць на двор, але пануры выгляд кухароў, асабліва-ж хлопчык-дрыванос з вяроўкаю ў руках—не спадабаліся князёваму ўлюбёнцу, і ён пайшоў, задраўшы тоўсты хвост, назад. Вучоны да ўсякіх штукаў, кот падскочыў, ударыўся ў клямку і расчыніў дзьверы. У сенцах узьлез на паліцу і настаражыўся: пачуў скрабаньне ў скрынцы з крупамі.

Тымчасам у дзьверы вытыркнуліся з надвор'я морды двух хартоў — тонкіх, як вужакі, сагнутых дугою. Адзін з іх пацягнуў носам

---

а) Ваты. б) Маленькі хлопчык для пасылкі. в) Выкінены. г) Прав —ня відзеў. д) Добрую.

і зараз зьнюхаў зайца. Мякка, нячутна падыйшоў да стала, задраў война вострую морду, схапіў у шырачэнную зяпу зайцаву галаву і цмыгнуў з сваім радым сябрам на двор у хартоўню.

Усьцешаны варочаўся назад галоўны кухар: князь з ім быў дужа ласкавы і нават даў пацалаваць сабе ў руку.

Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыны шчасьця чалавек раптоўна зваліваўся ў самае бяздоньне юдолі плачу і адчаю.

Шчасьлівы кухар, праходзячы міма хартоўні, пачуў у пуньцы хрустаньне, чаўканьне і ціхае вурчэньне... Харты штось пажыралі!

Хто ня ймець веры ў прадчуцьці, той, мабыць, гора не зазнаў ніколі ў сваім жыцьці. Кухар меў яго даволі за свой марны век, і сэрца яго ёкнула: ці ня зайца жаруць праклятыя сабакі, падобныя да чартоў?

Угрунь [a]) пабег ён да свае кухні, ускочыў, падбег да стала: зайца няма! Болем пеканула ў кухарава сэрца. Ен кінуўся ў прыкухоньнік, шыбка агледзеў усё ўсіх. Зайца ня было, і кожны спакойна займаўся сваёй работай. Як-бы за якой справай, выйшаў кухар ізноў на двор і марудна, прыціснуты няшчасьцем, паплёўся міма хартоўні, асьцярожна спаглядаючы ў бок на сабачыя пунькі. Вось паказалася з аднае хартовая галава: морда ў крыві, вочы заплылі платаядным здаваленьнем і ў зубох штось тырчыць... Хорт аблізнуўся, і з зяпы выпала заячая лапка!

Кухар панура паплёўся назад.

Увайшоўшы ў сенцы, ён прастояў там, як няпрытомны, і мімаволі задраў галаву, шукаючы крука, дзе-б павесіцца.

І тут яшчэ раз трэба сказаць, што чалавек ніколі ня ведае, дзе згубіць, а дзе знойдзець. І няма такой злыбяды на сьвеце, на якую-б ня ўсьмяхнуўся неспадзеўны, нечаканы ратунак.

У вочы кухару кінуўся ляжачы на паліцы кот — вялікі, адгадаваны, мякенька-пушысты, як той заяц.

Адчайная думка пранзіла [б]) кухараў мозаг, і ён паманіў князёвага ката к сабе выстаўленымі пальцамі. Кот прыжмуранымі вачыма зьмерыў постаць старшага кухара, важачы яго вартасьць у каціных вачох. Ад кухара прыемна пахла, вочы яго былі пакорна-ласкавыя, і кот патрошку, важна стаў падыходзіць да выстаўленых пальцаў. Як толькі ён даткнуўся іх сваёю гладкаю, шаўковаю шэрсткаю, пальцы з дзікай зьнявагаю абхапілі яго карак і пацягнулі ў паветра. Кот захлынуўся ад шалёнай злосьці й крыўды. Абдумаўшысь, ён люта ашчэрыў зубы, заглабаў кіпцямі і закруціў хвастом; абраз князя ў выкачаных з галавы вачовых яблыках і напаўняў кацінае сэрца зласьлівай радасьцю бясьсільнага, што ворагу князёвага ўлюбёнца будзе лютая кара за гэты зьдзек. Ды пальцы сьцягнулі яго карак мёртваю пятлёю і нясьлі ў брыдкім паветры да дзьвераў прыкухоньніка. Калі дзьверы за людзьмі зашчапіліся на чэп, у вольнай руцэ адзінокага кухара бліснуў вялізны, жудасны кухонны нож. Кот сабраў астаткі сілаў, сударжна ірвануўся і згубіў прытомнасьць. Гарачая кроў палілася з яго парэзанага горла, і наступіла вечнасьць.

У вадзін мамэнт садраная скурка была кінута ў дальні кут пад печ, а чырвоны, жырны аблуплены катовы труп з адсечанай гала-

---

а) Хутка. б) Прак лола, правізла.

вою, ляжаў, як добры, ашменны заяц, на стале. Кухаравы рукі набралісь цьвёрдасьці, сэрца патроху сьціхла калаціцца, і кухарская работа закіпела. Час-ад-часу кухар шаптаў „Вочча наш", хрысьціўся, абціраў пот, але маўкліва, старанна смажыў, перчыў, паліваў...

## II.

Першы раз за ўсё жыцьцё еў князь і яго госьці такога смашнога зайца. — „Вот заяц — дык заяц! — хвалілі госьці; — пальчыкі аблізаць". Князь прыемна ўхмыляўся [а]) і часам нават каяўся, нашто калісьці ў страшным гневе скалечыў кухара. — „Заяц добры, але і кухар мой нягоршы, — хваліўся ён: — граф Зібэр-Плятэр суліў мне летась за яго трыста злотых, ды я й за тысячу не аддам; міркуйце, панове, самі: залатыя рукі, што?"

Гутарка ўзьбілася на залатога кухара, і падвыпіўшыя госьці захацелі паглядзець на яго. Паслалі гайдука ў пякарню, каб прывёў.— „Скуль, ясьнавяльможны, дастаў яго?" — пытаўся граф Бжастоўскі, вядомы ў сваім часе на ўсю Рэч Паспалітую дуэліста [б]) і забойца аднаго В-га ксяндза.

Хто чытаець старынныя кнігі, той ведаець аб гэтым скандальным забойстве графам жартаўлівага ксяндза, быўшага яго духаўніка і друга. Для няведаючых—кароценькая спраўка. Ксёндз быў з дробнай шляхты і за чаркай мёду любіў, па жартаўлівасьці сваей натуры, пасьмяяцца над важнымі тытуламі. Аднойчы, гасьцюючы ў графа ў Бжаставіцах, у цеснай выпівацкай кумпаніі, у якой быў і граф, ксёндз гэты апавядаў вядомую беларускую легенду аб пахаджэньні князёў і графаў. — „Калі бог тварыў людзей, дык кандыдатаў на князёў і графаў ён памазаў маслам. А нейкі падла-сабака, смакуючы масла, прыбег і зьеў памазаных. Загневаны бог схапіў яго за хвост і пачаў трэсьці З-пад хваста пасыпаліся кандыдаты, і які зваліўся пад вішню, зрабіўся князь Вішнявецкі, каторы пад асіну — граф Асіноўскі, а той, што пад бярозу, той граф Бжастоўскі, пабеларуску Берастоўскі"... Шалёны граф, самалюбны ў тытульных справах, прымусіў свайго духаўніка тут-жа, у кабінэце, стаць з ім на паадзінак і забіў з пісталета перабраўшага мерку хмельнага ксяндза, за што мусіў на нейкі час нават уцячы ад каралеўскага суда за межы Рэчы Паспалітай.

— Скуль, ясьнавяльможны, дастаў яго? — спытаўся ў князя аб кухары гэты самы граф Бжастоўскі.

— Мой падданы... тутэйшы. Ні ў Парыжы, ні ў Варшаве ня вучыўся, — мабыць з кухоным геніем радзіўся.

— Што-ж так доўга не вядуць генія сюды? — запытаўся адзін пануры стары пан.

Князю не спадабаліся гэтыя словы, ён нахмурыўся і паслаў другога гайдука. Той ведаў князеў гнеў і памчаўся, як страла.

Тым часам з кухарам рабілася няма ведама што. Першы пасланец, зьдзіўлены, нерашучы стаяў над ім, старым, і ня мог даць рады, каб ішоў да князя.

Кухар зьбялеў, дрыжэў і не казаў ні слова. Ён глядзеў на пасланца вытарачанымі вачыма і ня рушыўся з месца, быццам пры-

---

а) Рус. — усьмяхаўся. б) Той, хто б'ецца на дуэлі, удвох з асобнай цэрамоніяй.

ліпшы. Потым, урэшце, паволі скрануўся і пабрыў у сваю каморку, побач з прыкухоньнікам. Асунуўся там на калені, злажыў перад абразом рукі далонямі, як на малітву, і ўзноў там скамянеў. Не маліўся, ня кланяўся, толькі стаяў на каленях і глядзеў на вобраз.

Доўга прастаяў-бы ён так, каб ня прыбег другі пасланы. Тады двое гайдукоў схапілі незразумела адурнеўшага кухара пад пашкі і пацягнулі ў палац. Ногі яго ня йшлі, згібаліся, лоб узапрэў, зьмярцьвеласьць на твары не зьмяншалася.

— Упіўся ты з радасьці, ці што? — крычэў на яго старшы гайдук. — Князь хоча паказаць цябе гасьцём, які ты, знацца, ёсьць штукар зайцоў смажыць, а ты й язык высалапіў... Ідзі ўжо сам! — і піхнуў яго зьлёгку ў бок.

Але кухар заваліўся на сьнег і ня йшоў. Потым ён схапіўся рукою за грудзі і балюча застагнаў: „Ай, людцы, сэрца, сэрца баліць!"

Гайдукі спужаліся запраўды, але ня важылісь марудзіць і, схапіўшы яго, пацягнулі далей. Чэлядзь, якая бачыла гэты абраз, з подзівам і страхам прыглядалася, уважаючы, што кухар правінаваціўся і яго цягнуць катаваць. З палацу выскачыў стольнік. Спытаўшыся на бягу, што такое, схапіў жменю сьнегу і пацёр кухару лоб. Тады ён трохі ачуняў і слаба паплёўся сам.

Калі гайдукі адчынілі дзьверы ядальнага пакою, паны шумна гаманілі, наперабой хвалячыся сваімі ўдачамі на ловах, рагаталі, строілі розныя жарты на свой панскі манер. Граф Бжастоўскі першы заўважыў і сьмяючыся закрычэў: „Генія, генія, здаецца, прывялі!"

— А, вось ён, геній... — прабурчэў пануры стары пан і ўсьмяхнуўся: — праўда, які́сь асаблівы, быццам з таго сьвету... Але зайца смажыць мастак!

Госьці патроху сьціхлі, павярнулі галавы туды, дзе між двох рослых, здаровых, як дуб'е, гайдукоў, стаяў пахілены, зьбялелы кухар.

— Што табе зьдзеелася, дурню? — скажы-тка нам, як ты смажыў зайца?

Кухар толькі шавяліў васковымі вустамі і нічога не казаў.

Князю было прыкра, што яго чалядзінец такі затуканы і баязьлівы.

— Што табе, дурню? — ізноў спытаўся ён грэблівым голасам; — чаго без пары спужаўся: за добрую работу будзеш мець добрую заплату.

Кухар зразумеў гэта, як пагрозу, і асунуўся на каленькі.

— Князёчку! — залямантаваў ён, — харты яснай міласьці, харты, каб на іх паляруш!

Ніхто нічога не разумеў. Харты яго спужалі, ці што? Князь насупіўся, што кухар папсаваў яму добры гумар. Але ён не хацеў крута мяняць такую нядаўнюю ласку на гнеў і намерыўся яшчэ раз спытацца, у чым справа. Толькі ён тое падумаў, як кухар скручыўся і схапіўся абедзьвюма рукамі за грудзі.

— Ой, сэрца, людцы! Ой, сэрца!..

— З ім сардэчны прыпадак ад якогась перапуду, — сказаў пануры стары пан і стаў ліць у шклянку сьцюдзёнае вады, каб ратаваць няшчаснага; ён знаўся на лячэньні хвароб. — На, выпі, галубец, — прыклаў ён да зубоў кухара зазьвінеўшую шклянку і з прыючай іроніяй дадаў: — сардэчная хвароба — хвароба геніяў.

— Ой, людцы! Ой, людцы! — жаласна і сьмяхотна лямантаваў кухар, скрабучы грудзі кіпцямі.

Усім зрабілася ніякава.

— Гэта мы яму — „людцы“, — усьмяхнуўся шляхетны граф Бжастоўскі на простую мову кухара.

— Вядзеце яго! — загадаў князь гайдуком. — Хартоў спужаўся, як дзіця... — прабурчэў ён усьлед падданаму і для супакою гасьцей зьвярнуўся голасна і як нічога ня было: „Гэта што — пара ласёў! Вось як мы летась палявалі з графам Зібэр-Плятэрам, — зуброў накрылі ў маёй дальняй пушчы...

— Зуброў?!

— Зуброў?!

І шумная лоўчая размова паноў аднавілася. Зараз забыліся аб смашным зайцу і аб хворым кухару.

III.

Хворы кухар стагнаў на ложку ў сваёй каморцы.

Зьявіўся дваровы фэльчар, даў выпіць супакойных капак, пытаўся, як сталася хвароба. Не дабіўшыся ніякага адказу, махнуў рукою і пайшоў сабе.

Малодшыя кухары ад смутку і дзеля спачуцьця-выпілі і сваім гоманам дурылі галаву хвораму.

Позна ўвечары прыбег захныканы гайдучок Ясюк шукаць запрапашчонага ката. Ён аблазіў усе куткі ў пякарні і нідзе яго не знайшоў, толькі выцягнуў з запечча зайчую скурачку, якая дужа нагадавала яму ката. З ёю ў руцэ прыйшоў ён да хворага, калі там нікога ўжо ня было, і стаў плакаць і жаліцца дзядзьку, што баіцца князя за ката.

— Можа ўцёк у лес... Можа сабакі разарвалі... Заўтра ясна-вяльможны спытаецца, дзе кот.. Што я скажу? Гу-гу-гу, — румзаў бедны хлопчык, прыпаўшы да скуркі тварам. — Вось ён такі быў гладзенькі, як зайчык.. Прышоў са мною сюды ў пякарню, а потым ня ведаю, дзе дзеўся.

— Ня ве-эдаеш, Ясюк? — узьняўся з ложка хворы і ўталопіўся на мальца зьдзіўленым паглядам. — Ня ведаеш, дзе падзеўся твой... гэты... кот?!

— Ня ве-эдаю-ю, гу-гу-гу, — не сунімаўся, плакаў Ясюк. — Можа ўцёк у лес ці на вёску, сабакі там мужыцкія разарвуць яго, гу-гу-гу...

— А ў пакоях ніхто ня ведае, дзе ён, халера, падзеўся? — ажывіўся хворы кухар.

— Ніхто ня ведае, ня відзелі.. ўва ўсіх пытаўся. Што мне цяпераке рабіць, дзядзечка, гу-гу-гу, будуць сячы мяне, што ня ўпільнаваў.

Сьмяротны цяжар раптам скаціўся з кухаравых плеч. Вялікім шчасьцем засьвяціліся змучаныя, праваленыя, з сінякамі ад сардэчнае хваробы вочы. Ком радасьці ўскалыхнуў збалелыя грудзі. Спачуцьцё шчасьлівага ды няшчаснага сфальшывіла чыстую ў муках душу чалавека. З няшчырай пяшчотаю ўцалелага ў агульнай катастрофе [a]) прыцягнуў кухар хлопчыка да сябе, прытуліў, гладзіў па галоўцы, жалеў, кажучы з найбольшай даступнай яму ласкавасьцю:

[a]) Грэцк. — раптоўны няшчасны выпадак.

— Дзетка маё! Сіротачка мой бедны! Ня бойся, ня плач, неяк-жа абыйдзецца. Ну, абсякуць, натое-ж мы слугі панскія, каб нас секлі. Ня бойся, да сьмерці-ж не заб'юць. Во й мяне колькі разоў секлі, — нічога, неяк-жа мадзею... Супакойся, мой Ясючок, галубок мой! Здохні ён, кот! Можа, яшчэ й знойдзецца. Калі сабакі не разарвалі, вернецца, як захоча есьці, ліха яго ня возьме... Цябе князь любіць, можа й даруе, калі нават і згіне гэты падла.

Хлопчык, круглы сіротка, узяты з вёскі ў замак ад малых гадоў, рэдка чуў такую бацькаўскую гутарку. Ён паволі змаўкаў, сьціха хліпаючы, ня столькі ад гора, колькі ад расчуленасьці. Ласка старога кухара, даўшага яму сяньня піражок, растапіла яго сэрца, як цяпло растаплівае воск. Хлопчык прыпаў да кухаравай рукі і пацалаваў яе так, як цалуюць рэдкія дзеці ў рукі сваім бацьком. Скурка выпаўзла з яго далоні і скацілася на ложак. Кухар зорка сачыў за ёю і ўпільнаваўшы злучнасьць, пасунуў локцям назад, і яна звалілася за ложак. Тады кухар пачаў умаўляць хлопчыка, каб ён ішоў класьціся спаць.

— А як-жа, дзядзька, хворы адзін будзеце ляжаць? — з дзяціным прыняньнем спытаўся хлопчык, паглядзеўшы на старога чысьценькімі, абсохлымі ад сьлёз вочкамі.

— Нічога, Ясюк! Не шкадуй мяне, бо мне ўжо крышку лепей...

---

# Страшная музыкава песьня.

Дзеялася тое за прыгонам.

Быў у нашага пана, акрутнага і злога пана Дастаеўскага, малады музыка.

Звалі яго — Арцём Скамарох.

Затое — Скамарох, што ўвесь род іх – Скамарохі. Бацька, дзед і прадзед умелі йграць на скрыпцы і былі скамарохамі [а]) для ўсяе акругі.

Ніводнае вясельле бяз іх не абыйшлося.

Спачатку дзед іграў, даючы прыклады сыну. Потым бацька замяніў, водзячы з сабою па йгрышчах і кірмашох, дзе трэба і ня трэба, свайго малога Арцёмку.

Але, вось, памёр дзед, памёр і бацька з маткаю. Застаўся дзяцюк адзін, сірота. Тады пан Дастаеўскі ўзяў яго да сябе ў двор.

Іграць-жа хлопец умеў так, што бацьку й дзеда перайшоў. Ня простыя дастаў ад бога пальцы.

Ды толькі меў і свае гонары Арцём. Вядома, наш брат-мужык, панскі падданы, а ў ім гонар быў зусім нянаскі.

Такі ганарлівы быў хлапец, што нават пан сьцярогся рабіць яму якую крыўду. Такі ганарлівы: як не захоча йграць, то ці ўпрашай яго, ці пагражай яму, — ня стане йграць, ды й годзе!

І вось аднойчы прывёз пан Дастаеўскі з Аршавы [б]) новую палюбоўніцу-палячку.

Палячка тая вазьмі ды й улюбіся ў нашага музыку.

Узяла на вока простага дзяцюка.

---

а) У даўнейшыя часы — музыкі, артыстыя. б) Варшавы.

Каб ня быў такі ганарлівы, то рэч у той мінулы час звычайная. Пан бавіцца з палюбоўніцай, а палюбоўніца яшчэ каго ў сэрцы мае.

Аж тут выйшла цэлая гісторыя. Арцём дзяцюк быў гэткі: як ня любіў, то й прыкідацца не хацеў...

Выедзе пан Дастаеўскі да Аршавы, або ў госьці да суседзяў, або на ловы ў пушчу,—палячка толькі таго й чакае. Гукнець мальца да сябе і просіць, каб ёй іграў.

Пакуль Арцём ня ведаў, у чым справа, іграў палячцы розныя наскія песьні, да якіх мела яна вялікую цікавасьць, бо ніколі раней ня чула іх. Нават гаманіць панаску трохі нялася, каб, знацца, лягчэй апанаваць яго.

Але як зразумеў музыка, што ня простым вокам глядзіць на яго панская палюбоўніца, што наўмысьля распушчаець перад ім свае даўжэнныя, чарнюсенькія, быццам вугальлё, косы, што не здарма хмурыць свае бровы, што не здарма ў яе на беларумяным твары якоесь нецярплівае, капрыснае ламаньне, як заўважыў усё гэта, — страціў ахвоту іграць ёй песьні.

А дзяўчына відзіць, што хлопец ганарлівы, — і пэўнасьць страціла сваю.

Вядома, як жанчына страціць пэўнасьць, то робіцца, як-бы якая няпрытомная. То плача, то сьмяецца, то злуе-халяруе, нічога ў сьвеце ёй тады ўжо не смакуе, і кожны лёгка заўважыць яе каханьне.

Палячка была з людзьмі абыходлівая, і шмат хто шкадаваў яе, бо ведама-ж: і ў панскай палюбоўніцы ёсьць чалавечае сэрца, і яна-ж на сваім хлебе — чалавек.

Шкадуюць людзі палячку, наракаюць на Арцёма за ганарлівую натуру.

А музыцы нашаму дадзела тое горш за рэдзьку. І сам ён шкадаваў прыгожую палячку, ды раз назлосьць усім сказаў камусьці гэтак: „Не хачу за панам падбіраць... Няхай яна сябе другога пашукае!“

Злыя людзі вазьмі і дакажы палячцы.

От-жа вышла гісторыя, зусім, як у сьвятым пісьме аб Язэпе тым Прыгожым і начальнікавай жонцы.

Прыехаў пан, палячка з роспачы й назводзіла яму на беднага музыку, — „Так і так, — кажа, — „лез гэты хамуйла да мае красы“.

Але пан сьцяміў, што справа, мабыць, трохі іначай выглядае.

Гукнуў ён да сябе Арцёма, запёрся з ім вока на вока ў кабінэце [a]) і ну яго пытаць.

— Скажы, хаме, чым ты прывабіў да сябе мэю палячку?

Маўчыць Арцём. І што тут скажаш?

— Хочаш ты, хаме, з ёю ажаніцца?— ізноў пытаецца ў яго пан.

— Нізашта ў сьвеце, найласкавейшы пане!— цьвёрда адказвае Арцём.

— Цо-ж я бэнда з вамі робіл? — як-бы раіцца з ім пан;—іграў ты ёй хамскія песьні?

— Іграў, паночку!

— То выбірай, галгане: або жаніся з ёю і садзісь на хлопскую там гаспадарку, або маеш іграць ёй што хоцькі... адну ноч?

— Жаніцца, ніколі не жанюся, а йграць — на тое мне і пальцы пан бог даў.

---

*a*) Асобы пакойчык.

— Добжэ мувіш, хаме,—пасьміхнуўся пан;—паментай-жэ о тэм!

А за колькі дзён зьдзеялась неспадзейнае няшчасьце: захварэла палячка і памёрла...

Мабыць, паднёс атруты пан.

Прыбралі яе на той сьвет у багатыя панскія ўборы, паклалі ў вялікай салі а) на чорны стол, запалілі сьвечкі, адно толькі забыліся—ксяндза прывесьці малітву сатварыць.

Наступіла ноч, кліча пан музыку з іскрыпкаю.

— Паменташ, хаме, цо мне мувіл?

— Помню, найласкавейшы пане.

— Ну, то йдзі іграй цэлую ночку нябожчыцы, каб яе душа ня вельмі сумавала па гэтым марным сьвеце...

Спужаўся наш музыка, думае: жартуець пан... Не!

— Ідзі, ідзі, — кажа, — галгане, такая-ж была ў нас умова.

Пайшоў Арцём у салю, і зачынілі яго там аднаго з палячкаю.

Жудасьць ахапіла людзей, вялікі жаль мелі да музыкі і баяліся, што ў той салі пры нябожчыцы прыйшла-ткі на яго загуба.

Спаміналі цяпер розныя страшныя пераказы: як уставалі памершыя з труны, каб загубіць таго, каго ў жыцьці дужа любілі.

Сталі нават шаптаць, што палячка была чараўніца, старая кракаўская ведзьма, якая ўдалася прыгожай панскай палюбоўніцай, каб загубіць нашага музыку.

Казалі навет, што і сам пан Дастаеўскі спутаўся з чартамі, якім даўно карціла зьвесьці з сьвету слаўнага музыку. Вядома, чарцям няма спакою ад добрага музыкі, бо ён сваім харошым граньнем робіць людзей лепшымі, вернець іх на добрыя думкі.

А было ўсё гэта пад канец лета, калі з прыходам восені наступаець самая вядзьмацкая пара.

Што-ж тымчасам рабіў Арцём?

Прыйшоў ён да труны, пераксьціўся б), памаліўся за ўмершую душу і ўзяўся настраіваць сваю старую скрыпку.

Тады адчыніў напята в) вакно і даў першы гук на струнах...

Як нейкі боль, як нейкі стон раздаўся гук у садзе, сярод адцьвіўшых красак, сярод агорнутых цішаю ночкі дрэў, пачуўся ён у сэрцах панскай чэлядзі і даляцеў да пана, сядзеўшага ў кабінэце пры чарцы старога віна.

Усё прыслухалась: што будзе граць музыка нябожчыцы на разьвітаньне?

Памаўчаў трохі музыка і паволі, сьціха, маркотна зайграў „Вечную памяць“.

Дужэлі гукі, расьлі, і вось, здавалася, што цэлы хор папоў адпявае чалавека.

Яшчэ дужэйшымі рабілісь гукі, і дзіўна было ведаць, што там усяго толькі адна скрыпка так пяе...

Ня хор папоў пяяў там, а быццам тысячы панурых галасоў зьліліся ў адным хаўтурным гімне.

Слухаючым тую песьню, жаль было марнай чалавечай долі, мізэрнымі былі раскошы гэтага сьвету, нікчэмнымі нашыя сваркі й звадкі. „Суета суетъ и всяческая суета“, „Прахъ еси и прахомъ отыдеши“ — пяялася ў той песьні.

---

а) Вялікі пакой. б) Нар. — перахрысьціўся. в) Насьцеж.

Але скончыў музыка маліцца, памаўчаў трохі і зайграў штось іншае Трудна было адразу ўхапіць, аб чым гаворыць яго скрыпка, але чулася нешта знаёмае, даўно вядомае, даўно перажытае. Як-бы там лес шуміць, як-бы завіруха ў полі гудзець, ізноў-жа як-бы жнеі пяюць. Зайграў, значыцца, музыка аб штодзенным жыцьці чалавека. Кашаль б'ець старога дзеда, гоман якісь людзкі, як-бы сварка бабская, кугаканьне дзяцінае.. І такое выразнае, дарма што скрыпка, быццам запраўды хворае ці галоднае дзіцятка заходзіцца. Так плача, так плача, што вытрываць аж трудна, хочацца бегчы да яго, каб суняць тое плаканьне. І чуецца, што сунімаець матка: „А-а, а-а, малое! а-а, а-а, беднае!“ Патрошку сьціхаець дзіця, калыша яго матка, скрыпаюць пачопкі цераз даўгую ночачку, скрыпаюць і скрыпаюць, як-бы вось тут во', каля цябе, дарма што гэта адно скрыпка даказвае пад музыкавымі пальцамі. Звычайныя песьні граў музыка, але слухаў-бы яго слухаў без канца-краю, бо як сыграў музыка, то як-бы штось у сэрца палажыў.

„Ня плач, маё дзіцятка, а цыц, маё родна.
Вун там войт ідзець,
На татку, на мамку ён бізун нясець,
У тым у бізуне скураты увіты,
На тым на бізуне сьлёзкі паліты“...

І шмат чаго іграў музыка аб сваёй нядолі змалку дзён.

А так, песьня за песьняй, сыграў усё жыцьцё сваё.

Цёмная ноч стаяла на дварэ, а як іграў, то быццам расплывалася цямнота: то жніво перад вачмі, жнеі пяюць, то ў сенажацях косы звоняць, то ў супрадках верацёнцы трынкаюць, то на ігрышчы лявоніху хлопцы з дзеўкамі скачуць.

І нікому не здавалася дзіўным, што ля труны нябожчыцы іграець ён ня толькі хаўтурнае, але й штодзеннае, бо ўсё пакаралася пальцам музыкавым; усё было толькі хараша, ці яно сьвятое, ці грэшнае.

Аж так і да паўночы падыйшло.

Дайшоў музыка да тае нешчаслівае часіны, як іграў палячцы панскія песьні.

Трубіць паляўнічы рог, гаўкаюць ганчакі, гэта, значыцца, выяжджае пан на ловы.

Сьмяецца палячка, як-бы званочак сярэбраны, — гэта яна цешыцца, што Арцём да яе ідзець. Пакацілася ад скрыпкі смутная жніўная песьня, гэта ён пачаў іграць ёй панскія песьні.

Песьню за песьняй іграець скрыпка, і такая жальба, такая жуда чалавечае душы была ў тым граньні, што сэрца ад болю ўсім сьціскалася, божы сьвет нямілы рабіўся, жадалася чагось невядомага, чаму ніколі на сьвеце ня бываць Разьліваецца ў сьлёзах скрыпка, плачаць аб марнасьці ўсяго сьвету, дзе адзін любіць, а другі — не. Так іграў.

Але вось перабіваецца іграньне на новы тон. Выплываець напаверх магутны гук, горды, непераможны, пад якім ледзьва чуваць і тыя песьні жніўныя, і тое мучаньне палячкіна. Зайграў Арцём аб сваей гордай, адзінокай душы, зайграў аб сваёй музыцы. Грыміць няземны гімн, аж увесь сьвет ад тых гукаў дрыжыць... Па-над усім вышэй стаіць музыкаў гімн, няма той сілы ў сьвеце, якая-бы яго сходала.

Раптам зарагатала з габінэту панскага нешта нялюдзкае, дзікае... Пан рагочаць, вые, сьмяецца! А музыкаў гімн, не зважаючы, плы-

вець шырокай хваляю ў паветры цёмнае начы, як тая магутная бурлівая рака ў павадкі.

Сьціхла рагатаньне, і сярод музыкі раптоўна: бух!

Сьціхла й музыка, бягуць людцы да пана ў кабінэт, глядзяць: аж ён ляжыць з разьбітымі мазгамі, пісталет турэцкі пры ім уронены ляжыць.

Здужала яго нячыстую сілу Арцёмава іграньне, — застрэліўся наш пан!

Пахавалі яго з палячкаю разам, Арцёма-ж болей мы ня відзелі: сыйшоў ад нас у сьвет, няведама куды.

Вось які быў у нас музыка, вось якое-што часам дзеялася за прыгонам.



# Казімер Сваяк.

Праглядаючы новую беларускую літэратуру, убачым, што яна амаль цалком стаіць вонках якога-б то ні было рэлігійнага ўплыву. Рэлігійныя перажываньні і нават патос у паадзінокіх пісьменьнікаў знаходзяцца далёка ад уплыву рэлігіі, як такой. Тут свая індывідуальная рэлігія. Ды трэба сказаць, што творы, дзе выяўляюцца гэтыя перажываньні, гінуць у масе перажываньняў іншых, амаль усьцяж безрэлігійных.

Аднак і рэлігійны кірунак мае сваіх прадстаўнікоў у беларускай літэратуры „Нашаніўскае пары“. Усе яны групаваліся каля часопісяў „Беларус“ і „Крыніца“, і амаль усе — ксяндзы.

Чуцьцё рэлігійнасьці далучаецца ў іх да агульных рысаў інтэлігэнцкіх пісьменьнікаў, афарбоўваючы іх і выстаўляючы свае думкі ў сувязі з падпарадкаваньнем вышэйшай кіруючай сіле. З гэтага пункту гледжаньня ў іх звычайныя асабіста-грамадзкія рэфлексіі праходзяць, як інтымныя гутаркі з гэтаю Сілай, даходзячы— што праўда—часта да спрацiўленьня ей, да бунту. У аснове гэтых рэфлексіяў ляжыць характэрны для беларускай адроджанай інтэлігэнцыі патрыятызм, любоў да абстрактнай гістарычнай бацькаўшчыны, як роўна-ж і любоў да народу. Гэта тыя ж самыя, тыпічныя адраджэнцы, што хвараюць бязумоўна за лес свайго народу, будучы да таго-ж выхадцамі з сялянскіх хат,—і разумеюць справу вызваленьня народу сілай справядлівасьці бога... Гэта пачатак ідэалёгіі, якая на Захадзе, перажыўшы пару дзіцячае веры ў спраўнасьць сваей думкі, вырадзілася потым у розныя людовыя, хрысьціянска-дэмакратычныя, хрысьціянска-соцыялістычныя і інш. цячэньні, носячыя агульны назоў— клерыкальных. На Беларусі гэты кірунак знаходзіцца яшчэ ў самым пачаткавым стане. Цэнтральнае месца між пісьменьнікамі гэтага кірунку займае Казімер Сваяк.



Казімер Сваяк.

*Казімер Сваяк* пачаў друкаваць свае творы ў першай часопісі беларускіх ксяндзоў—„Беларус“, потым у зьмяніўшай яе „Крыніцы“, нарэшце ў розных іншых перыядычных выданьнях. Асобным выданьнем выйшла кніжка „Мая Ліра“.

Для характэрыстыкі творчасьці К. Сваяка прывядзём некаторыя выцяжкі з вельмі ўдалай стацьці аб ім вядомага крытыка — Сулімы.

„Яго Ліра“— запраўды малітвеньнік да... Бога, якога відзіць ён тым ярчэй і чуе тым мацней, чым сам сябе пачувае ад яго далейшым“.

... „рэлігійна-«служэбная» роля, якую гэты поэт, «служэбнік божы» адводзіць поэзіі, часта ператварае яго рэлігійна-поэтычнае натхненьне ў маральны патос ксяндза-казнадзея“.

... „Сваяк унёс у апрацоўку матыву Бацькаўшчыны арыгінальнасьць у тым сэнсе, што зьвязаў. арганічна гэты матыў з матывам рэлігійным“...

„Ён дае... зусім бясьсільны «рэцэпт» барацьбы — паліваньне сьлязой роднай нівы“ *а*).

Запраўднае імя поэта — Кастусь Стэповіч. Нарадзіўся ў 1890 г. у в. Барані, Сьвянцянскага павету, у сялянскай сям'і. Па сканчэньні школы ў Сьвянцянах здаў гімназіяльныя экзамены ў Ленінградзе і, чуючы прызваньне да духоўнага стану, наступіў у Віленскую Духоўную Сэмінарыю, якую скончыў і выехаў на вёску ксяндзом.

Разам з літэратурнай дзеяльнасцю займаўся арганізацыйнай працай. Але набытыя яшчэ ў сэмінарыі сухоты зусім падарвалі яго здароўе, і ён 8 траўня 1926 году памер у Вільні і пахаваны на магілках Росах *б*).

---

# Сонцу узгорнаму...

Сонцу узгорнаму, што сьвеціць кожнаму,
Месяцу блуднаму, ў загадках труднаму,
Гвездкам *в*) нябесным
Байкі пішу.

Душы збалелай, з мук ашалелай,
Духаві цёмнаму, ад веку соннаму,
Цела крывавага
Путы крышу.

Музе пудлівай, сумам шчасьлівай,
Ледзь пазнаванай, неадгаданай,
Сэрцу пламеннаму
Песьні нясу.

---

# Гымн роднай зямлі.

Зямліца прошласьці ціхой,
Крывавай сьпісана рукой,
Айчына — Маці — Беларусь,
Цяжкі лёс Твой.

Паклон з трудом Тваей дружбе,
Паклон за волю барацьбе,
Айчына — Маці — Беларусь,
Паклон Табе.

Жалосна плача песьнь Твая
І бога моліць, сьлёзная,
Айчына — Маці — Беларусь,
Ты родная.

Ідзе вось ясная пара,
Праўду сьвеціць нам зара,
Айчына — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва!

---

*а*) Суліма «Cor ardens» («Сын Беларуса» 1924 г. № 27 і 30). *б*) Казімер Сваяк Пасьмертны ўспамін. („Сялянская Ніва“, 1922 г. № 19). *в*) Пол. — зоркам.

## Айчыны мілай..

Айчыны мілай зор а) на сабе чую,
Куды ні пойду з самлелай душою;
Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:
Ратунку кліча — „Ратуйце з разбою!"

І над Айчынай і над сабой плачу,
Што памагчы ей — я хворы, бясьсільны;
Што словы горкі надарма я трачу,
З душ нашых вее холад замагільны.

Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,
Ня віджу сільных між браці паганай,—
І не чакаю з рук божага даўцы
Ужо збаўленьня з долі апляванай.

І толькі ў самым бяздоньні няверы
Іскра надзеі у попеле тлее
Іскра надзеі, што рана бяз меры
Долі народнай душы разагрэе,

Іскра бязвольна пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане:
Раўняці будзе даліны і горы,

Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Промэтэя,
А сам, як згіне, дасьць тэстамант сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя...

---

## На крыльлях...

На крыльлях думкі я ляту стралой
Туды, гдзе край мой родны-сьлёзны
Паглумлены паганаю рукой,
Загнаны, цэлы век трывожны...

Ты, божа, рассудзі: чаму народ мой бедны
Праз век гніе у цьме, ў няволі беспатольнай?
Скажы — няўжо прыказ твой запаведны
Пакорным быць падан душы бязвольнай!?

Бо есьлі так, народ згніе ў пакоры,
Чужынцу дасьць і матку і дачку;
А сам, бядак, нанет б) прыбіты — хворы
Жыцьцё закончыць на чужым шнурку...

---

а) Узрок. б) Рус. — зусім.

Ах, тым праклён я шчыры пасылаю,
Хто войнамі жыве, прыгнётам і нажывай,
Праклён і тым, паклоны хто складае
Асільству — і блуду — і роскашы лянівай.

Украсьці я хацеў вось-гэту тайну з неба:
Чаму нядобраму шырока сьвет-дарога,
Чаму цярпліваму нямаш у хаце хлеба,
Чаму на сьвеце больш і больш благога?

Народзе мілы мой! Цяпер ужо ня знаю,
Чым маеш ты каваць цяжкую сабе долю:
Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы я хаваю),
Ці ворага душыць ў крыві—ў вагні—ў вугольлі?...

Ламаюся я сам, тваею крыўдай зьбіты,
А сэрца мне крывёй зьліваецца ад болю,
Што вечна ты ціхі, як богам пазабыты,
Як здань пакутная, шукаеш сабе волі.

---

## Эрос і Псыхэя [a]).

Я хацеў-бы глянуць ў твае вочы,
Там тайніцу душы адчытаць,
І ў трывожнай жыцьцёвай паўночы
Я хацеў-бы ў іх праўды шукаць.

Разгарнуць твае чорныя косы,
Цалаваць у паўночнай цішы,
На твар вызваць сьлязістыя росы,
Аддзяліці твой дух ад душы.

Сьлед іроніі з вусначкі сьцёрці,
Заглыбіцца да язьні на дно, —
Для заблуднага сьвету умерці
І стварыці вясельле адно.

Не таі, ня віляй — а прызнайся,
Што таёмна ты любіш мяне, —
А ці я... Ты мяне ня пытайся:
Прада мной ты на яве і ў сьне.

Дай душу мне тваю — больш на трэба,
Творчы дух ты народу аддай,
І так жыйма абое для неба,
І сваім ты мяне называй.

---

а) Эрос, грэцк.— бог любові (у рымлян Амур, Купідон); яго малявалі хлопчыкам з залатым сайдаком (калчаном) і страламі. Псыхэя — яго любая, уасабленьне чалавечае душы. Малявалася матыльком або прыгажуньняй-дзяўчынай з крыльлямі матылька.

# Спавіў мне сэрца жаль...

Спавіў мне сэрца жаль
На восень жоўтую,
Зор заглыбіўся ў даль
Жальбой гаротную:
Жаль па цудоўным сьне,
Жаль па маей вясьне.

Спавіў мне сэрца жаль
У зімку белую
І не забіў амаль
Душу збалелую:
Па сьветлых летка днёх,
Па цудных ночы снох.

Спавіў мне сэрца жаль
Чароўнаю вясной,
Чырвоны, як, караль
Спламеніўся дух мой:
Па восені ўздыхаў
І жаласьцю згараў.

Спавіў мне сэрца жаль
У летнюю пару.
Між райскіх жыта хваль
Пачуў я, што умру:
І плачу вось нямы
За зоркамі зімы.

---

# „Не памёр: нарадзіўся“.

... Я знаў яго. Быў у цьвеце лет: жывога, бойкага, жвавага настрою. Быў прыгожы. Мог гладка гутарыць, меў здаровы гумар, быў мілага характару. Часта любіў езьдзіць паляваньнем: як птушка вольная, гойдаў тады па полі і лесе. Любіў прыроду і знаў яе хараство. Адзінотай ня гардзіў — каб углыбляціся цэлай істотай у творы містраў мысьлі і слова. Умеў журыцца і рвацца да шчасьця надзямнага, бесканцовага, чыстага, як ёсьць чысты: шчасьця амаль няўхватнага.

* * *

Пасьля кінуўся ў вір сьвету, каб даці выхад сабранай сіле. Сьвет благі збэсьціў чыстую душу яго, спутаў лётную мысьль яго: абвеяў сваей сумлівасьцяй і пустатой, убранай на колер мастацтва і навукі. Называў сябе мудрым, хаця ня быў ім на дне свайго сумленьня. Пісаў правы Самому Створцы, хоць не спазнаў ня толькі глыбіні права ўсесьвету, але і бяздоньня сваей нічогасьці. Калі згубіў спакой душы, стараўся падаць у сумнівасьць сам быт Духа. І раздвоіўся ў ім дух з душою, і забіў ён бога ў сумленьні — на самым дне істнасьці сваей.

* * *

А за ім ішла малітва: тут на зямельцы і ў прасторах горных сьвету надпрыроднага. Сэрца яго рвалася ішчэ да Ідэалу. Хацеў быць карысным для Суспольнасьці — Грамадзянства. Спосаб на гэта: навука, праца. Так працаваў бязупынна, коштам нават фізычных сіл, каб толькі здабыць сабе славу, пакінуць памяць трывалую, заўсёдную. І стаў чалавекам вядомым, выбіўся спаміж раўні сваей. Відзеў, як цэлы натоўп людзей ідзець пад яго загадам, і радаваўся. Раз толькі чапіла яго няміла неяк думка вялікага песьняра:

„Мысьліш быць няўміручым праз учынак дзельны?
„А хочаш ці ня хочаш: будзеш бессьмяртэльны.

Але не страпянуўся, не прачнуўся дух ягоны. Думка схэзла, як зарнічка пералётная, як апошняя касулька вячэрняга сонца.

* * *

Сумна дрэўцу — буйнаму і моцнаму на вока, калі мае ў сэрцы сваім чарвяка, які нязначна яго падгрызае і даводзіць звольна аж да сьмерці. Цяжка чалавеку, калі мае ён у грудзях сваіх зачаткі хваробныя — жывучкі сьмяротныя, — крэпкі, здаровы склад арганізму вядуць яны да раскладу. Дрэнна чалавеку з целам затрутым, горай—калі душа мадзеець ад журбы і сумніваў, найгорш, калі лучыцца першае і другое разам... Ён быў хворы падвойна. Разгон надмерны, каб здабыць навуку і славу, прывёў яго да кволасьці фізычнай. Таёмная чэсьць для бяздушнага матэрыялізму зрадзіла нядуг горшы: выстудзіла і зусім зьністожыла жыцьцё рэлігійнае, заводзячы ў душы канцовую безнадзейнасьць. Як ранены зьвер, кідаўся тады дух ягоны, шукаючы патолі. Але крыніца жывой вады высахла, а новай знайсьці ня меў ён ужо сілы.

* * *

Уміраў маладым. Заясьнеў у жыцьці гэтым на хвіліну — як мэтэор, каб згаснуць на вечнасьць. Яго чало белае мела адцень бязьмерна сумны. Хворны румянец на твары, як пурпура заходняга сонца, быў знакам глыбокага цярпеньня: а можа гэта быў сарамлівы стыд тэй зманнасьці, за якой гнаўся дагэтуль. Бліскучыя палымем вочы, каторыя млосна зьвярнуў на дарагія сэрцу істоты, поўныя былі сьлёзаў і нямога жалю. Маўчаў доўга... Аж вось з сілай нябывалай застагнаў голасна: „Бога мне!“...

* * *

На ўзгорку магільным сумна шумяць дрэўцы, кідаючы фантастычныя цені на капцы з крыжамі. Цішыню нарушае толькі гульба ветру, які, зрываючыся часам сільней, варушыць былінку-траву і падымае сухія лісточкі. Ціш таёмная, неадгадная наводзіць на кожнага дрыготу. Селянішча жыўшых... Тысячы, мільёны... Жылі, любілі, шукалі праўды, хараства, шчасьця... Няўжо кончылася ўсё толькі жменяй попелу? Няўжо-ж бытаваньне валадара зямлі так марнае і бязмэтнае?.. Месяц спакойна спаглядае навакол зімным вокам сваім. Ціхі пагляд кідае ён у кожны куточак, да кожнай зацені: як-бы сваім слабым сьвятлом хоча разьясьніць — адкрыць тайніцу быту. На магільнай каменнай пліце відаць напіс:

„Не памёр: нарадзіўся“.



# Лепшыя творы іншых пісьменьнікаў інтэлігенцыі.

---

## Я. Зязуля.

### Беларусь

Ёсьць слоўца цэннае усім і знаменіта,
Што вымаўляецца з пашанай дзіцянём,
У якім паняцьце бацькаўшчыны скрыта, —
То Беларусь, то край, дзе мы здаўна жывём.

Старонка мілая, Ты многімі забыта,
Шмат сьпіць сыноў Тваіх адвечным сном!
Зямелька родная, сьлязьмі і потам зьліта,
Мы да жыцьця з Табою зноў уваскрасём а).

Хоць знойдецца ў Табе выродны валакіта,
Катораму Твая не да спадобы сьвіта,
І не адзін прадасьць Цябе Іскарыёт,

Але Табе яшчэ ўсё-ж, Маці семяніта,
Сяляне верныя, што сеюць жыта, —
А з іх паўстане Твой народ.

---

### Ніколі.

Над гонар і славу,
Над чары каханьня,
Народную справу
І перакананьні,
Што розум дыхтуе,
Заўсёды я волю,
Ня здраджу ніколі.

Хай хмара навісьне
Над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісьне
Жалезнай рукою, —
Я роднае мовы
Ня кіну ў нядолі,
Ня здраджу ніколі.

Бушуе хай бура,
Віхор хай злуецца,
Хай вецер панура
Завые на рэчцы, —
Я роднага краю,
Што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі.

Хай гром з пярунамі
Грыміць і страляе,
Маланка агнямі
Хай бліскае, зьзяе, —
Свайго я народу,
Бяз хлеба і солі,
Ня здраджу ніколі.

---

а) Уваскрэсьнем.

Хай срэбра, дукаты
Мне сыплюць пад ногі
І скажуць: „Багаты
Будзь, кінь род убогі“, —
Я плюну з пагардай,
А роду і волі
Ня здраджу ніколі.

Да самага скону
Усякім прымусам
І сіпе прыгону
Скажу: „Беларусам
Навек астануся,
Сваей ўласнай волі
Ня здраджу ніколі“.

---

# Лірнік.

*Пасьвячаю М. П.*

Толькі вочы працёр
Дзень, заясьніўся ўсход —
Валачэцца у двор
Бедны лірнік з варот.

Каб дарогу знайсьці,
Ён, ці ўночы, ці ўдзень,
Кіем б'е па пуці,
Бо сьляпы, як той пень.

Падышоў пад пакой,
Ліру з плеч худых зьняў
І нясьмелай рукой
Ціха строіць пачаў.

Посьле ў дзьверы стукнуў
Зьлёгка кіем раз зноў,
Каб лякай хоць пачуў,
Ці хто колек з паноў.

Доўга спалі паны,
Ня будзіў іх лякай;
А ты, дзед, нявісны
Хвілю йшчэ пачакай.

Толькі пані адна
Неяк ўчула той грук
І цікава з вакна
Спазірнула ўвакруг.

Відзіць: лірнік сядзіць
З лірай-кобзай сваей
І, казаў бы, глядзіць
Ўсё на клямку дзьвярэй.

Вось на ганак свой крок
Скіравала прытном,
Каб пачуць, як дзядок
Будзе граць пад вакном.

Хвілек некалькі ён,
Як і ўперад, маўчаў —
І, прабуючы тон,
Струны зьлёгка чапаў.

Ўрэшце цяжка ўздыхнуў,
Вочы к небу узьняў,
Корбай ў мах павярнуў,
Клявішы перабраў.

Задрымцела струна,
Глуха шурхнуў клявіш, —
І пад тон быліна
Палілася увыш.

Ад душы усяе
Са сьлязою бядак
Аб мінуўшым пяе,
Каб пачуў з нас усяк.

І да пані таей
Надыйшло больш паноў
І дваровых людзей —
Слухаць ліры і слоў.

Чаравала усіх
Песьня-быль кабзара:
Разчуляўся у іх
Кожны жыхар двара.

Пакрапляўся ў духу,
Горкі ўспомніўшы лёс, —
І сьляпню-бедаку
Грош ялмужніны нёс.

. . . . . . . . . . . . . .

Кончыў дзед быліну,
Ліру ўзьвесіў ізноў
І будзіць з мары-сну
Люд вясковы пашоў...

---

## Шчабячы, салавейка.

Шчабячы ты, салавейка,
У зялёным гаю,
Калі родная сямейка
Сірацее ў краю.

Калі горка сьлёзы роніць
Матухна па сыну.
Хай твой сьпеў тугу разгоніць,
Хай нядоля згіне.

Калі дзеткі просяць таты,
Каб ішоў да дому,
Дзе грымяць усё гарматы,
Льгі няма нікому.

Калі родная сястрыца
Моліцца за брата...
Ці ня годзе сьлёзам ліцца,—
Хай настане сьвята!

Шчабячы ты, салавейка,
Пей аб супакою,
Як чульлівая жалейка
Раніцай ціхою.

Залівайся сьвістам-песьняй,
Цеш матулю, жонку,
Цеш сіротак, што балесьне
Тужаць бяз прытулку.

Шчабячы ты на сьвітаньні,
Як узыйдзе сонца,
Хай хутчэй спакой настане
Ў родненькай старонцы.

---

## Ю. Фарботка.

### Звон.

Калісьці Жыгімонт, у знак народнай моцы,
З здабытых ім гармат адліці звон казаў.
Ў расплаўлены мэтал, для гучнасьці, ахвочы
І серабро і золата народ свае кідаў.

І вышаў дзіўны звон. Сваім магутным зыкам
Ён сьведчыць і цяпер усім аб славе той,
Што мог сабе здабыць народ нямоцным крыкам,
А велькасьцю [a]) ахвяр, пралітаю крывёй.

А наш народ праліў крыві свае нямала,
Наш край скалёсілі гарматы не адны.
Гісторыя усю нам славу захавала,
Хоць ня гудуць аб ёй магутныя званы.

Яны усе у нас на кулі пераліты,
Пустуюць вежы ў нас з вайны пачатку дзён.
І толькі аж цяпер Жыгмонта семяніты
Завуць і нас, браты, адліць свой славы звон.

---

a) Пол. — вялікасьцю, велічынёй.

# Роднаму краю.

Край мой радзімы, зьнішчаны, зьбіты
Заліты крывёю, сьлязьмі абмыты, —
Дзе-ж твае месты, дзе твае сёлы?
Дзе-ж тваіх дзетак песьня вясёла?
Ўвокал пустыня й сьледы пажараў;
Пасекі з'места [a]) лясных абшараў;
Ў ямах-акопах нівы і пашы;
Горы—магілы ворага й нашы.
Нашы касьцёлы зрыты з зямлёю;
Памяткі нашы сплылі з вадою;
Скарбы народу ў зямлі схаваны;
З гнёздаў радзімых людзі сагнаны;
Па ўсіх дарогах косьці людзкія,
Ў грузах палацы й замкі былыя.
Трупы, калекі, ўдовы, сіроты
Мільён бяздомных, мільён бядноты!..
То сумны вобраз роднага краю!
Гэта здабытак вайны звычаю!..
Край мой радзімы, горам забіты,
Ці-ж доўга будзеш богам забыты?!..

# Сумна неяк.

Сумна неяк бывае парою,
А чаму, — не магу я сказаць...
Сэрца поўна тугі, неспакою;
І цяжар, і журба там ляжаць...
Сьвет ня міл!..

Сумна неяк бывае парою,
А чаму, — я хацеў-бы сказаць...
Ў словах выліцца-ж цела з душою,
Хоць за думкамі думкі ляцяць,
Няма сіл!..

* * *

Падаўжэў ужо дзень і настала цяпло.
Сонца ярка на небе гарыць
Тае сьнег на палёх, і руччамі вада
З шумам з горак у рэчку бяжыць.

Разбухаюцца ўжо на ўсіх дрэвах пучкі;
Шум ажыўшага лесу чуваць.
Птушкі з выраю к нам прыляцелі назад,
Песьні-ж іх аж у неба ляцяць.

Навакол на зямлі зелянее трава
Скрозь усё устае ада сну
І прыбрацца сьпяшыць нейкай дзіўнай красой,
Каб спаткаць маладзіцу-вясну.

---

а) Замест.

Дзядзька Пранук.

# Ня мужыцкі розум.

## I.

Служыў я тады за лоўчага а) ў маёнтках б) графа Ц-а. Маёнткі былі пекныя, лесу шмат; у лесе дзікага зьвера ня раз спаткаць было можна, а цецярукоў і глушцоў гэтальki было, што хоць вазамі вязі. Цяпер лясы пацерабілі крыху; мядзьведзі і ваўкі, спужаўшыся стуку сякер і гоману людзей, паўцякалі ў глыб в) пушчы і толькі зімой, як голад прыцісьне, выходзяць ізноў на лясныя дарогі. Глушцы толькі ня вывеліcь.

Тады толькі-што прыехаў з Пецярбурга служыць у наш кут нейкі пан Шмід, чалавек яшчэ малады. Усё жыцьцё прагуляўшы ў горадзе, ён саўсім ня знаў вёскі і бадай першы раз на сваім вяку ўбачыў мужыка толькі тады, як прышлося з ім мець дзела на службе.

Вось гэты самы Шмід дазнаўся, што у нас вельмі шмат глушцоў, дый захацелася яму хоць раз у жыцьцю папаляваць на іх. Заехаў з гэтым да мяне. Не хацеў я вязьці яго ў лес, бо шкадаваў рэдкай цяпер штушкі, але нічога ня зробіш: адмовіцца ня было як. Згінь, прападзі, — падумаў я і прыказаў запрагчы лінейку, сказаўшы лясьнікам, каб чакалі нас у Мядзьведзь-лесе, дзе быў найлепшы ток глушцоў. Да Мядзьведзь-лесу трэба было ехаць вярстоў восем з гакам, — насамперш грэбляю да Нёману, а там ляснымі дарожкамі у глыб лесу, дзе былі пабудаваны будкі для стральцоў.

Ужо пачынала вечарэць, пакуль мы даехалі да Мядзьведзь-лесу. Пры стралецкай будцы гарэў агонь, і двох лясьнікоў, чакаючы нас, сушылі мокрыя анучы. Адпачываць ня было часу. Пакуль ноч не абняла зямлі, трэба было ісьці засачываць глушцоў.

Вярнуўшыся з лесу, прымасьціліся мы пры агні і, абагрэўшыся, узяліся за вячэру.

Весела сядзець і глядзець, як высока, высока падымаюцца чырвоныя языкі пламянёў, а залатыя іскры, быццам грамада зорак, завіснуць над галавою, мінуту хістаюцца, быццам ня знаді, куды ляцець,— то ўніз падуць, то ізноў узьляцець угару, ажна пагаснуць у цямніцы ночы. А кругом ціха. Толькі вецер часам прабяжыць па лесе, зашуміць веткамі дзярэў,—і ад'зываецца лес яму; то пугач пякельным плачам разальлецца па пушчы, — і зноў усё ціха; толькі трашчаць галавешкі, і закіпеўшая вада булькае ў саганчыку...

Выпіўшы гарэлкі і закусіўшы, мой няпрошаны госьць крэхнуў, пагладзіў бруха і ўздыхнуў.

— Вось, дзякаваць богу, і пад'еў. Трэба спаць ісьці. Юзік! — клікнуў ён лясьніка, — дык, кажаш, глушэц—хітрая птушка?

— О, панок, хай бог бароніць, якая хітрая, — адказаў Юзік. — Іншы раз скачаш, скачаш да яе,— вось, здаецца, яшчэ крыху і страляць можна, — дык якраз пачуе згубу сваю! Замоўкне і ні-ні!

— Іш г), якая?

— Але! І паляціць, — уздымецца і паляціць!

а) Паляўнічага. б) Пол. — дварох. в) Лепей — глыбіню. г) Рус. — бач.

— То, як бачу, ня мужыцкі розум яна мае?! — сказаў Шмід і зарагатаў з свайго жарту.

— Хто яе знае, хто яе знае, дужа хітрая птушка! — залапатаў Юзік, спадылба паглядаючы на яго.

Я ўбачыў гэты погляд Юзіка. Ну, думаю, задасьць госьцю! Знаў я добра Юзіка і ведаў, што не даруе ён гэтага жарту. На тое-ж і выйшла.

II.

Назаўтра, яшчэ ноч вісела над лесам, і зоркі паміж дзярэў міргалі залатымі вачамі, мы былі ўжо на нагах. Пакуль сабраліся, ужо пачынаў брыжджаць [a]) дзень. Шмід з Юзікам пайшлі ў вадну старану, я з Пятруком — у другую.

Пан сапеў, як кацёл, бурчаў нешта пад носам і лаяўся, патыкаючысь у цемнаце аб пні і вываратні. Але вось ужо і бор, а далей балотца, парослае бярэзьнікам: там сьпяць глушцы, пакуль сьвет дня не разбудзіў іх. Выбраўшы сухое месца, нашы паляўнікі затрымаліся, чакаючы рассьвету.

— Ну, глядзі, Юзік, каб бяз глушца не варочацца, а то страшна будзе.

— Ды не, паночку, куды-ж ён дзенецца! Павінен быць. А пан знае, як скакаць пад яго?

— Не, пад глушча не скакаў ніколі.

— Не?! То, паночку, ужо слухайце мяне. Як пачну скакаць, дык скачэце і вы; а як стану, дык стойце і ані-ні, бо пачуе і ўцячэ.

— Ну, добра! Каб толькі быў глушэц, глядзі.

— Павінен быць... Але, цыц! — шапнуў Юзік, паслухваючы.— Пяе!

У лесе тым часам разьвіднелася.

Зоркі пагасьлі, неба пабялела; густы туман павіснуў над балотам і атуліў яго з усіх старон. Здалёка здалося-б, што шырокае мора, без канца, бяз меры, выйшла з берагоў і заліло бярэзьнік. І ціха было ў ім, толькі здалёка-здалёка ляцела песьня глушца.

— Чуйце, паночку, які пявун: такі дае, такі дае песьню за песьняй! Іш, ліха яго! Ну, цяпер будзем скакаць, —шаптаў Юзік і, ўзяўшы Шміда за руку, пацягнуў яго за сабою. — Ну!—камандуе Юзік у тахт песьні і, праскочыўшы два-тры шагі, замірае на месцы, быццам каменная фігура.

Шмід скача і затрымоўваецца па камандзе Юзіка, прэць праз купінкі і вываратні, па калені лезе ў гразь; вылупіў вочы, бруха трасецца. Але слухае каманды: нават сапець перастаў. Доўга так скакалі яны. Ужо глушэц недалечка. Шагоў сорак праскачыўшы, і страляць можа. А ўсё дае—песьню за песьняй.

— Ну—скамандаваў Юзік і скокнуў далей. Шмід за ім. Але тут Юзік неяк зачапіў яго, ён ступіў на сук, спатыкнуўся і бух у балота, аж вада брызнула [б]) ўва ўсе бакі, ды гул пайшоў па лесе.

— Іш, чорт! — вылаяўся Шмід.—Дай руку, Юзік, памажы ўстаць.

— Цыц! паночку, бо ўцячэ!

Шмід замоўк, але караскаўся ў балоце, сілячыся падняцца.

---

*а*) Мігацецца сьвятлом. *б*) Рус. — пырснула.

— Ляжэце, паночку, ціха, бо ўцячэ, — шапнуў ізноў Юзік, ды рукой прыціснуў Шміда к зямлі, каб не варушыўся. — Як запяе, тады падыму. Прыціх Шмід, ляжыць ціхусенька, чакаючы, пакуль глушэц запяе ізноў. Але песьня прыстала. Глушэц, няйначай, пачуў людзей, замоўк. Прайшла мінута, другая — пяць, дзесяць мінут... Песьні няма. Шміду—ці надаела бадзяцца ў балоце, ці можа прыстаў ляжаць на гэткай пярыне, толькі ізноў пачаў варушыцца. Юзік угледзеў гэта, маўчыць, ды, што той парухаецца, ён глыбей яго сваей лапай у балота ўцісьне. Мацаваўся, мацаваўся Шмід, — куды-ж там, няма ратунку. Рука Юзіка, быццам стопудовы камень, лягла на ім. Але ня кажа нічога: баіцца спужаць глушца. Ўканцы ня вытрымэў.

— Юзічок, залаценькі, пусьці! — пачаў ён прасіць. А той сваё:

— Ня важцеся, паночку: далі-бог, уцячэ! — ды цісьне Шміда ў балота. Тут ужо той зазлаваў:

— Юзік, пусьці, кепска будзе! Што, ня пусьціш?! — гаркнуў ён на ўвесь беразьняк. — Ня пусьціш, гад?!..

— Ай, панок! — залямантаваў Юзік, падымаючы Шміда.— Вось і ўцёк і ўцёк... глядзеце!

Шмід дурнымі вачыма глянуў туды, куды паказываў Юзік. Глушэц, зьняўшыся з еліны, распусьціў скрыдлы [а]), махнуў і прапаў у туманах балота.

Увесь у гразі і мокры вярнуўся Шмід да будкі з пустымі рукамі.

— Ну, што, не пашэньціла? [б]) — запытаўся я ў яго.

— Не, чорт! Хітрая пціца, не падпусьціла! — адказаў ён сярдзіта.

— Няжарт, якая хітрая: яна ня мужыцкі розум мае, — падцьвярдзіў Юзік.

Мой госьць сярдзіта глянуў на яго і адвярнуўся. А Юзік так і заліваўся ціхім сьмехам, затыкаючы шапкаю губы.

---

*З повесьці: „Стася“.*

# У Мэнджылі.

У далёкай Пэрсіі, на сотай вярсьце ад гораду Энзэлі, на Энзэлі-Тэгэранскай дарозе, ёсьць гарадок Мэнджыль. Слова Мэнджыль папэрсідзку азначае: тысяча вятроў...

* * *

Было гэта неяк у сьнежні. Так, як у нас, зімы ў тым месцы Пэрсіі ня бывае. Робіцца трошкі халадней, так што бяз бурнуса, праўда, чалавек мерзьне, але і то толькі нараніцы і падвечар, а ўпоўдзень, асабліва ў рэдкія дні, калі вецер уціхае, сонца так пячэ, як у нас улетку. Вось гэтак у зімовы вечар вярнуўся я да хаты з далёкай падарожы. Галодны, змучаны, азябшы, уцягнуўся я ў сваю маркотную кватэру і, пакуль дзяншчык у суседнім пакоіку за сьцяною круціўся каля гарбаты, я, падсунуўшы зэдлік, прымасьціўся перад камінам і з праўдзівай роскашшу адаграваў азябшае цела...

---

а) Пол. — крыльлі. б) Не пашчасьціла.

Тымчасам агонь у каміне разгараўся. Выбіўшыся з-пад клубкоў чорнага дыму, чырвоныя языкі папаўзьлі ўгару; засычэлі, затрашчэлі дровы і, пасьля кароткага змаганьня, бухнулі чырвоным полымем. Ажыўляючае цяпло паплыло ад каміну. Разам з ім нейкая радасьць і супакой напоўнілі маю душу; радасьць, якую добра ведаюць бяздомныя людзі, калі пасьля доўгай цяганіны ў цемры, холадзе і бездарожжы, яны пападаюць у сьвет і цяпло. Нягоды мінулага, здаецца, адыйшлі далёка, каб не вярнуцца ніколі, толькі грамады думак наплываюць чарадою і ў змучанай галаве рысуюцца з нябывалай яркасьцю іншы раз даўно забытыя вобразы.

І паляцела думка мая ў далёкі край, паляцела яна у родны край. Прыпомніліся гады дзіцячыя, прыпомнілася хатка, акружаная садам. У ём узгорак, з каторага адчыняўся далёкі, шырокі кругазор. У нізіне рассьцілаўся горад, за ім далёка цягнулася поле, і ўсё гэта спаясвала, ледзь відная воку, цёмна-зялёная стужка лясоў.

Бацькаўшчына дарагая! Колькі думак ясных зьвязана з табою. У табе знаёмы кожны куток, на кожным кроку памятка. Вось у гэным садзе я гуляў малым дзіцяткай...

Колькі думак зьвязалася з гэным садам... У ім я першы раз убачыў Стасю. Шмат вады ўцякло з гэнага часу, а вобразы мінулага ў змучанай галаве ажылі, як жывыя. Помню прыгожы ціхі вечар перад днём Купалы. У сад сабралася шмат народу, чакаючы абвешчанай пасьля заходу сонца гульні. Блутаючыся паміж народам, я блізка каля сябе пачуў вясёлы сярэбраны сьмех. Павярнуўся ў той бок, і ўбачыў Стасю. Яна йшла з таварышкай, нешта гаварыла і раз-за-разам залівалася сьмехам. Гэтулькі радасьці, вясельля і маладасьці было ў гэным сьмеху Стасі, што неяк, слухаючы яго, самому рабілася лёгка і весела. Я прыглядзеўся да Стасі і ня мог адарваць ад яе вачэй. Неапісальны чар біў з усей маладой яе істоты.

Я пайшоў за імі, стараючыся загаварыць. Ні слова адказу. Як скрозь туман, глядзеў я на плывучыя па вадзе вянкі і гарэўшыя магутным полымем агні, разложаныя за рэчкай пад крутой гарою. Як заварожаны, я йшоў крок за крокам за Стасяй, чакаючы хвіліны, калі можна будзе з ёй загаварыць. Гэтак я давёў Стасю за варот яе хаткі і тутка, страціўшы зусім надзею, я сабраўся з адвагай і, заступіўшы ёй дарогу, як умеў, найпрыгажэй прасіў, каб прыняла ад мяне букецік рожаў. Задрыжэлі ручкі Стасі, апусьціліся доўгія валасінкі чорных вачэй, пасьля падняліся, быццам хацелі сказаць нешта, зноў апусьціліся і маленькая ручка працягнулася, каб прыняць кветкі. Стася прыняла кветкі, нават дзякуй не сказала.

З таго часу мы няраз спатыкаліся з Стасяй.

Дзіцянё малое! Я ведаў, яна таемна цалавала рожы, каторыя я прыносіў ёй, трацячы свае апошнія грошы; глядзела на мяне сваімі чорнымі, поўнымі агню вачыма, а калі пытаўся яе аб чым, не казала нічога, толькі сьмяялася сваім сярэбраным сьмехам.

Прышоў час, я сказаў Стасі — люблю. Яна і тым разам адказала мне толькі сьмехам.

Доля кінула мяне пасьля таго далёка ад роднага краю, і я страціў Стасю з вачэй.

Скрыпат дзьвярэй і ўляцеўшы ў хату вецер перарваў на хвіліну думкі мае. „Няйначай Ігнат прынёс гарбатку“, — падумаў я і прачнуўся.

Дровы дагарэлі, і ў каміне цяплілася толькі грудка чырвоных вуглёў.

Думка аб гарбаце прыпомніла мне аб голадзе, але не хацелася будзіцца: хацелася зноў заснуць і зноў уваскрасіць толькі-што бачаныя вобразы, і я далей, як загыпнатызованы, глядзеў у чырвоныя іскрачкі папялеўшае паволі грудкі вуглёў. Але думкі, раз спалоханыя, ужо не варочаліся. У хаце зрабілася цёмна і, адагнаўшы астаткі дрымоты, я толькі хацеў клікнуць Ігната, каб хутчэй запаліў сьвечку і даў гарбаты, як раптам ад дзьвярэй панясьліся чароўныя гукі песьні. Нейкі моцны, жаноцкі голас пяяў:

„Ты адзін тут, далёка ад роднай зямлі,
Глядзіш, як камін дагарае!
Гэтак гаснуць у сэрцы каханьня агні,
Калі з болю душа памірае.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я задрыжаў, пачуўшы песьню. Аглянуўся, але нічога ня мог пазнаць, бо ў хаце зрабілася зусім цёмна — вуглі ледзь тлелі.

Дрыжачаю рукою я згроб з зямлі астаткі дроваў, кінуў у камін, разварушыў вуглі, але агонь не хацеў разгарацца.

Я ні жывы, ні мярэц, дуў у вугольлі, каб асьвяціць хутчэй хату і праканацца, што гэты голас, такі мне знаёмы, ня сон, каторы разьвеяцца можа, што песьня гэта—ня жарты духоў нячыстых, каторых, паводлуг гутарак, так шмат у Мэнджылі, і я дзьмухаў у вугольлі, ажно яны бухнулі агнём, калі сярэбраны голас, паўтараючы апошнія словы песьні, з неапісанай тугой выводзіў з набалеўшых грудзей:

„Жаль пакіне адзін, вечны жаль“...

Я адвярнуўся і пазнаў: з-пад касынкі міласэрнай сястры выглядалі знаёмыя мне вочы...

— Стася! — азваўся я.

Песьня абарвалася разам.

— Гэта ты, ты, Сьцяпан!?

Страх і радасьць дрыжалі ў голасе Стасі. Яна выцягнула рукі, быццам хацела кінуцца да мяне, і затрымалася, падалася назад і разам захісталася і, абясьсілеўшая, упала на мае рукі.

---

## Зоська Верас.

# Сум

Шэры, як васеньняя імгла... ціхі і спакойны, як уздых заснуўшага дзіцяці. Пад яго лёгкаю ступою галінка ня трэсьне, лісток не ўскалыхнецца, травінка не задрыжыць... У сваіх вечных падарожжах ня мінае ён ні хатак курных, ні палацаў багатых, ні працы цяжкай, ні гульні вясёлай і ўсюды па волі сваёй ахвяр сабе выбірае... Ускалыхнецца душа выбранага чалавека, ускалыхнецца і дрыгне, калі ўпадзе на яго ўзгляд яго вочаў.

Дзіўныя гэтыя вочы... Шэрыя, як ён сам, вялікія, незгаданыя... а на дне іх нязьмернай глыбіні сьвеціцца магутным бліскам маленькая іскрачка нейкага таёмнага, бяссьмертнага жыцьця...

Дзіўная сіла іскрачкі тае... Зачаруе яна душу тваю, чалавеча... выкіне даўнейшыя ўсе думкі і жаданьні; напоўніць адным вялікім чуцьцём жуды за нечым нязнаным і прыкуе да сябе, прыкуе ланцугамі жалезнымі.

Адгэтуль душа ўжо не твая... Прападуць твае ўсьмехі вясёлыя зтінуць думкі радасныя, змоўкнуць песьні прывольныя...

Перад табою, як дзень, так ноч гарыць іскрачка таёмная на дне вялікіх шэрых вачэй. Душу тваю і думкі твае апануе густой сеткай моцная шэрая павуціна, у вачох тваіх разальлецца шэры цень „яго“ вачэй. Кожная капелька крыві тваёй належыць да „яго“... твайго пана.

— І няцяжкая табе, чалавеча, гэта няволя?

— Не, яна робіцца патрэбай жыцьця твайго; не пеража ў-бы ты разлукі з гэтай парай бліскучых, дзіўных, магутных вачэй...

Іх сіла дадае духу твайму моцы вялікай. Як-бы скрыдлаў прыдбаўшы, узносіцца ён над дробязь штодзеннага жыцьця і лунае ў краіне нязбытых ідэалай.

І расьце дух твой і мацуецца, толькі ж коштам цела твайго.

Бо гэтыя шэрыя павуцінкі, што абматалі душу тваю і сэрца твае, выпіваюць кожную капельку крыві тваёй...

— Бо гэтыя вялікія, шэрыя вочы зганяюць сон з галавы тваёй...

І робішся ты і кволы і бледны, а людзі дзівуюцца і кажуць: „ён хворы“.

— А калі спаткаеце чалавека бяз усьмеху на пабялеўшых вуснах і з шэрым ценем у задуманых вачох, то ня пытайцеся, што яму, а так і ведайце, што яго ўзяў у свае нявольнікі вялікі ўсемагутны Сум.

---

# У лесе.

Як малое пакрыўджанае дзіця, уцякаў ён ад тых, што пакрыўдзілі яго.

— Не хацеў ён бачыць твараў людзкіх, не хацеў чуць галасоў перанятых бязупыннай іроніяй і насьмешкай; не хацеў спатыкацца ўзорамі сваімі з іх поўнымі дзікай пагарды вачамі.

Ён у іх зразуменьня прасіў... высьмявалі яго.

Ён у іх пяшчоты прасіў... адапхнулі яго...

Няма яму месца паміж тымі, што прысвоілі сабе імя: „чалавек“.

— Кудыісьці? дзе прытуліць набалеўшую галаву? — чым напоўніць апусьцелую душу?

---

Ціхі... цёмны... вялікі — лес.

Скрываюць неба і сонца вяковыя сосны і елкі. — Ля іх ног туляцца шмарагдавыя ляшчыны, а яшчэ ніжэй цэлае мора папарацяў: і шырокіх, і вялікіх, і вузкіх, і цьвёрдых, як з бляхі маляваных, і тоненькіх павуцінных, як найдаражэйшыя каронкі; паміж імі зарасьлі цёмналістых чарніцаў, унізаных чорна-сінімі пацеркамі ягадаў. — А на самым нізе разасланы багаты мохавы дыван.

Якая рука яго ткала? Чыя багатая фантазія стварыла тыя зорачкі, лісточкі, тую безгранічную рознасьць рысунку, што злажыла гэту цудоўную, чаруючую сваім хараством цэласьць?

Мягкі, халодны, расісты дыван прытуліў скрыўджанага сына чалавечага роду... Ахаладзіў яго разпаленую горам галаву; асьвяжыў сьпечаныя вусны.

Над ім шумеў лес...

Шумеў сьціха, паважным, спакойным шумам... Літосным галасам, поўным жалю над крыўдай ляжаўшага ў яго нагах чалавечага сэрца.. разважаў гора яго, боль яго...

Але памалу голас ляснога шуму трациў кволыя літосныя зыкі... набіраў цьвёрдасьці... моцы...

Гаварыў ён аб бязьмернай сіле тых, хто носіць у сваёй душы прабачэньне слабасьцяў людзкіх... аб моцы тых, што мільёны сэрц і мільёны душ умеюць прытуліць да сваіх грудзей... аб моцы і шчасьці тых, што ўмеюць адчуваць боль мільёнаў, бо ў тым болю занікае іх уласны, як зернятка пяску ў пяшчаных хвалях Сахары. — Гаварыў шум лесавы аб красе зямлі роднай і аб тымвечным, жыватворным руччу спакою і шчасьця, што льлецца ў душу чалавека ад пачуцьця красы і моцы прыроды...

І сьціхаў боль і сьціхала бура ў грудзях чалавека...

Як маланкі захмуранае неба, разьясьнялі яго думкі новыя абразы... новыя пачуцьці... Ён зразумеў, дзе яго шчасьце і вера... і духа моц...

---

Лес заціх...

Толькі недзе ў гушчары яго сьціха зьвінелі птушыныя галасы...

---

Чалавек стаяў з паднятай галавой... з сьветлай думкай у вачох і зычным радасным голасам прасіў магутны лес і Матку-Зямлю благаславіць яго на новае жыцьцё..

---

І сьціха зашумеў лес благаслаўляючую песьню... а пахіліўшы галіны свае, прапусьціў ясны праменчык сонца. Упаў праменчык на галаву адрадзіўшагася чалавека і аурэоляй сьвятасьці акружыў яе. Да ног яго туліліся папарацені... чарніцы... і розналісты мох...

---

# Нёмну...

З далёкай краіны, праз акопы і рады штыкоў нясецца думка мая лётам быстрага сокала да цябе, мой Нёман таёмны...

Да тваіх берагоў, цёмнымі пушчамі пакрытых...

Да тваіх вод люстраных...

Я помню, як беглі сьветлыя хвалі твае і ціхім шопатам сваім будзілі ў душы гэтулькі дум-казак, гэтулькі мар сноў...

І адкрываліся вочы, асьлепленыя пылам будзёншчыны, і бачылі перад сабою гэтулькі цудаў нявіданых.

І адчыняліся вушы, аглушаныя шумам жыцьцёвым, і чулі песьні нячуваныя...

Воды твае, о Нёман мой, былі магічнай устужкай, нясучай усе абразы, сабраныя з берагоў тваіх, і ўсе галасы, якія ты чуў у падарожах тваіх.

Колькі песьняў ты чуў... колькі сьлёз-гора прыняў ты, колькі захаваў ты таямніц людзкіх, сьцерагучы іх зайздросна ў сваей халоднай глыбіні...

А цяпер, о бедны Нёман мой! цяпер цябе напаілі гарачай крывёй... цяпер накармілі цябе целам людзкім... цяпер апаганілі сьвятыя воды твае збуглёнымі астаткамі хат і адрын...

І берагі твае апусьцелі, і яны страцілі ўсю сваю красу...

---

Ці ты і гэты грэх людзкі захаваеш у хвалях сваіх і пасьля — некалісь — які з унукаў нашых вычытае яго сваей чуткай душой? І, спалоханы грозай крывавых абразоў, уцякаць будзе ад цябе?..

О не, не, Нёман!..

Ты гэтага ня захаваеш, ня будзеш помніць таго страшнага сну.

Воды твае аднясуць кроў і трупы далёка...

Спалошчуць, абмыюць акрываўленыя берагі. Літосным шопатам заглушаць енкі і стогны..

І, поўныя цішыні і спакою, ўкалышуць набалелыя душы дзяцей гора і сьлёз...

---

# Толькі сон.

Грукат машын, працяжны сьвіст паравіка, моцныя адгалоскі чужаземнай гутаркі мяшаліся ў адзін незразумелы хаос у галаве работніка Вінцука.

Скуль ён тут? Якія благія ветры закінулі яго, сынка Беларусі, ў гэтую далёкую чужыну?

Такія сумныя пытаньні не пакідалі яго думкі і цяжкай тугой адбіваліся ў душы.

Ах, так, ён помніць! Помніць тое далёкае спачатку, працяжнае, як грымоты, завываньне гарматаў... Помніць чырвоныя водблескі пажараў... помніць тую трывогу, што абматала ўсіх і ўсё.

А пасьля?.. пасьля ня помніць нічога... Быў дым... дым чорны, грызучы... дым вялікі, непраглядны... як засьветная зьява panуры... дым, што, як сьмяротны цалун, абвіў яго родную хатку.

Быў дым і боль... боль тупы, аглушаючы, разрастаючыся ўсё болей і болей і, як дым хатку, спавіваючы яго душу... А далей?... далей і крык, і гоман, і плач, і далёкая, безканцовая дарога...

---

Вось ізноў загудзелі калёсы па бітаму шляху...

Гудзяць калёсы, скрыпіць воз, іржаць коні... Чуваць, і сьмех, і гоман, і песьні... моцна і радасна б'ецца сэрца, дух затрымліваецца, а ў вачох сьлёзы... сьлёзы. Рвецца душа наперад... рукі самі сабою паганяюць кабылку, алеж тая быццам сама разумее патрэбу сьпеху. Што гоніць іх?.. Што іх цягне?.. Цягне іх голас роднага, шэрага загону, цягне іх тая моц таёмнага, заложаная ў душы кожнага хлеба-

роба, моц вялікая—укаханьне Маткі-Зямлі. Гоніць іх туга, што з кожным днём, з кожнай часінай разрасталася шырэй і шырэй, праз доўгія месяцы, праведзеныя там далёка на чужыне...

Ці на адпачынак едуць яны? Ці на дастаткі?

Не! Едуць яны на холад і голад, едуць на доўгае яшчэ качаўніцкае жыцьцё на вазе і пад возам.

Хаты няма, няма і будуніны ніякай.

„Алеж зямля ёсьць!“ з сілай і гордасьцяй адказывае селянін...

І думкі яго ляцяць у будучыню шчасьлівую... радасную...

Вось, ён возіць дрэва з лесу; вось пачынае будаваць хату...

А там і хата гатовая і будынкі, а далей і поле загаранае... і збожжа расьце, каласуе... ветрык па ім праходзіць, сярэбраныя хвалі разганяе.

І добра, і лёгка, і радасна! Ох, як радасна...

---

„Гэй! уставай! што сьпіш пры рабоце?“— закрычаў над Вінцуком злосным голасам дзесятнік.

„Ты-ж каля машыны заснуў, шчасьце, што галавы не адарвала“... жартавалі работнікі.

---

З Вінцуковых вачэй капалі сьлёзы. Разьвеяліся імглой і хатка, і поле, і шчасьце яго мужычае, а перад ім ізноў чорная, невядомая будучына.

---

## Макар Краўцоў.

### Паварот да Горадна [a]).

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары!
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позьняе пары.

З цябе нацешыцца ня можна
Пасьля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі [б]), сады,

Хрыбты мастоў пераламаных,
Ахвяры скончанай вайны,
Шкада мне вас, параскіданых,
Удалыя Нёмнавы сыны!

І ты — Нямога Пасяджэньня
Магутны Замак — як жывеш?
Праб'е часіна адраджэньня —
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты... ты — Нёман бела-сіні...
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Твае бароняць берагі.

На грудзях хваляў летнім часам
Адпачываў я тут ня раз
І часта быў з табой сам-на-сам,
Аж покуль доўгі дзень ня згас.

---

[a]) Нечая лёгкая рука перахрысьціла пасвойму гэтае нашае места, завучы яго ў газэтах „Горадня“. Народ заве яго „Горадна“ або „Горадзен“; так яно звалася і ў мінуўшчыне, бо ў старых пісаных дакумэнтах за літоўскі пэрыяд нашае гісторыі спатыкаем „Горадно“. Стары назоў захоўвацца і мною. [б]) Бульвар— франц. — вуліца, абсаджаная дзеравамі, раней—украпленьне вонках мескіх сьцен.

Цяпер нядоляй пілігрыма *а*)
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж і ўпапярок.

На тым баку я бачу зоркі—
Ў зацішнай, беднай нізіне:
Ўляпілі цёмныя прыгоркі
Раём форштадзкія *б*) агні...

Вітай-жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх муроў, твае ральлі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну—
Выгнанцу роднае зямлі!



Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор.

Хай ажыве закамянелы
Наш беларускі родны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух

На бой за славу і за волю
Народу беднага свайго,
Браты, цярпеўшыя даволі,
На бой усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты да шчасьця мы падходзім,
Хай гром гудзе яшчэ мацней —
Ў крывавых мукам мы народзім
Жыцьцё рэспублікі сваей!

---

# Маршлют.

Гэта ня было яго праўдзівым прозьвішчам. Празывалі гэтак небагатага селяніна аднае досіць вялікае вёскі, які сапраўды зваўся Сьцяпан Казун, меў каля чатырох дужых, маладых сыноў і мог узорна вясьці з гэткай сілаю сваю гаспадарку, але-ж любіў ён страшэнна гарэлку і праз яе гінуў.

Што значыла слова „маршлют", якім празвалі Сьцяпана, я й цяпер ня ведаю, дый ведаў гэта мусі толькі той, хто гэтае слова выдумаў. Аб Маршлюце хадзілі розныя дзейкі *в*) пра здарэньні, якія трапляліся з ім тады, калі ён пачынаў піць, махнуўшы на ўсё рукою.

Рэч у тым, што піў Маршлют ня кожны дзень, а неяк часінамі, калі на яго накідзь нейкая находзіла. Трапляючы ў мястэчка ў гандлёвыя дні, Маршлют не выяжджаў з яго іншы раз тыдняў два, пакуль не прапіваў усіх, якія меў, грошай. Тады конь яго, сам ведаючы дарогу да хаты, цягнуў соннага Маршлюта па шырокім гасьцінцы на пустым возіку, а іншы раз завозіў яго ў падарожныя вёскі, дзе знаёмыя людзі давалі Маршлюту чарачку-другую пахмяліцца і пры гэтым чамусьці лічылі кожны раз за патрэбнае параіць Сьцяпану ня піць гэтак.

Маршлют быў бойкі разумам і востры на язык мужчына. Высокі, прыгожы тварам, ён меў звонкі прыемны голас і, гаворачы самыя сьмешныя рэчы, заўсёды трымаўся зусім роўна й спакойна. Родны брат яго Трахім быў добрым музыкаю і толькі пад старасьць,

---

*а*) Падарожніка да сьвятых месц. *б*) Ням.—прадмескія. *в*) Гаворкі, плёткі.

граючы на скрыпцы, адбіваў моцна тахту абедзьвюма нагамі, каб выходзіла ў яго кадрыля, альбо полька раўней. Трахім ня любіў гарэлкі гэтак, як Сьцяпан, і ніякага лішняга прозьвішча ніхто яму ня даў.

Аднаго разу Сьцяпанаў конь завёз яго зусім не ў падарожную вёску, а ў бок ад гасьцінца, што вёў з мястэчка да роднай Сьцяпанавай вёскі.

Калі адна знаёмая гаспадыня, пачаставаўшы Маршлюта чаркаю настоенай на нейкіх карэньнях гарэлкі, пачала ўгаварваць яго, каб гэтак ня піў, дык Маршлют зусім спакойна адказаў:

— Але, саколачка, праўду кажаш. Хоць яно бяда невялікая, што я, вось, дзясяты дзень ужо, як з хаты, бо сыны мае — малайцы; яны гаспадаркі ня збэсьцяць. Добра толькі, што коніка майго па дарозе воўк не распрануў.

На Маршлютовай мове гэта значыла: ня злупіў скуры.

— Э, лепей вось, каб цябе самога хто калі-небудзь распрануў, — сказала гаспадыня, засьмяяўшыся.

— Ну, гэта ты мне анэгды *а*) ўжо казала, — паранейшаму спакойна сказаў Маршлют, — вось, ці ня маеш ты яшчэ чарачкі?

Сьцяпан быў адважны й жартаўлівы ня толькі з простымі кабетамі й таварышамі-сялянамі, а іншы раз дзівіў усіх сваею адвагаю ў абхаджэньні нават і з начальствам.

Местачковыя жыды вельмі ўжо рады былі, як запіваў Маршлют. Яны зусім дарэмна карысталіся канём яго, каб навазіць вады і дроў да лазьні на цэлы тыдзень.

Аднаго разу, скарыстаўшы гэтак Маршлютовага каня, жыды закінулі недзе вожы й вотрубі, што былі зьняты з воза. Калі агледзеўся Маршлют, што ня ўсё на яго возе ў парадку, дык проста пайшоў разам з канём пад жыдоўскую школу (гэта у нас сынагога завецца), калі жыды там разам з рабінам маліліся.

Сьцяпан пёрся з канём проста ў школу й крычаў:

— А дзе мае вожы й вотрубі?

Жыды нічога не маглі парадзіць. Справа дайшла аж да рабіна, які загадаў жыдом знайсьці і аддаць Маршлюту яго вожы й вотрубі.

Яшчэ цікавейшае здарэньне было з Маршлютом у князевым садку.

Зараз-жа па выезьдзе з мястэчка, у якім часамі прападаў Маршлют, стаялі палацы князя Чацьвяртынскага. Брама каля палацаў чамусьці была адчынена, і Маршлютоў конь завёз звайго п'янага гаспадара пад самы палац у садок, ды якраз у раскошныя розных гатункаў краскі. За кароткую летнюю ноч Маршлютоў конь, убіўшыся з возам у кветкі, дашчэнту *б*) здратаваў іх, і нараніцы гароднік затрымаў каня за гэтую шкоду.

Сьцяпан і гаварыць не хацеў з гароднікам, а дамагаўся пабачыць самога дворнага камісара (гэтак у нас звалі таго, хто кіраваў князёўскай гаспадаркаю).

Камісар сказаў Сьцяпану, што падасьць яго ў суд, калі не заплаціць за зьнішчаныя краскі.

— А, паночак мой! — спакойна заявіў Маршлют, — за гэтакае глупства, ды каб я грошы плаціў. Барані, Божа! Забірайце лепш

---

*а*) Анадовячы, колькі дзён раней. *б*) Зусім.

каня з возам, а я пайду сабе да хаты пехатою, бо яшчэ-ж аднаго каня маю. Той дык наўрад, ці завязе мяне калі ў князевы краскі.

І, сказаўшы гэта, Сьцяпан не на жарт скіраваўся дадому, ды пайшоў сабе гасьцінцам.

Камісар пачакаў крыху, ці ня вернецца Маршлют па каня з возам, а пасьля загадаў дворным парабком даганіць Сьцяпана і аддаць яму каня. Маршлюта наганялі аж за тры вярсты ад мястэчка, бо на хаду ён быў нязгоршы.

Як ні запіваў Маршлют, а грамадзкія павіннасьці свае ўсё-ж такі спаўняў, ды толькі напалову неяк, гэтак цікава, што аж людзі дзівіліся, які ён хітры.

У вёсцы, дзе жыў Сьцяпан, была школа. Была і цэрква. Але сьвяшчэньніка свайго ня было, і трэ' было сялянам чаргою прывозіць яго з суседняга сяла за вярстоў дзесяць.

Калі дайшла чарга да Маршлюта прывезьці ў школу бацюшку, дык ён і ня ўпіраўся зусім, а толькі сказаў сялянам:

— Вось, дурныя! Што гэта за мода нашымі худымі коньмі папа да школкі вазіць? Ён-жа свае коні, вун якія, мае. Хай сабе сам і прыяжджае. Я дык паеду, але больш ён напэўна на вазы нашыя сядаць, не захоча.

Усе задумаліся, бо не маглі згадаць, якую гэта штуку Маршлют выверне. А што выверне, дык напэўна!

Было гэта ўвосень. Сьцяпан вазіў на поле гной ды проста на тым самым возе, нават не паслаўшы саломаю, а паклаўшы дошчачку ўпоперак воза, паехаў да сяла па бацюшку.

— Паедзем, бацюшка, да школкі. Мне чарга выпала сягоньня вас прывязьці, — заявіў сьвяшчэньніку Сьцяпан.

— Ды што ты, здурэў? — зьдзівіўся бацюшка — ці маеш ты, Сьцяпане, розум? Каб я на гэтай запэцканай дошчачы дзесяць вярстоў ехаў, каб пасьля мяне людзі засьмяялі, а матушка ды ў хату ня пусьціла?

— Ну, калі не падабаецца вам, бацюшка, ехаць са мною, дык я й адзін дарогу ведаю. Бывайце здаровы!

І Сьцяпан так і вярнуўся паражнім дадому. А бацюшка згадзіўся браць нейкі падатак замест таго, каб сяляне сваімі коньмі яго да школкі прывозілі, і езьдзіў туды сваімі ўласнымі коньмі ў брычцы.

Улетку раз адбываліся нейкія ваенныя манэўры, ці што, бо з валасной канцэлярыі да старасты ў Сьцяпанаву вёску прыйшоў строгі прыказ усім гаспадаром выехаць „пад салдаты“, а хто не паслухае, дык будзе аштрафованы.

Маршлют пабажыўся, што ён нізашто не паедзе, але й штрафу ніякага не заплаціць.

— Каб ты так жыў, — заўважыў на гэта бойкі Маршлютоў сусед Захар, — мелеш языком, ды годзі; як пасядзіш у халоднай тыдняў пару, дык і штраф рад будзеш заплаціць, і пад салдаты паедзеш.

— Давай у заклад, — сказаў Маршлют; — калі паеду, дык я табе гарнец гарэлкі пастаўлю, а калі не — дык ты мне і ўсім вось, хто чуе.

— Давай! — адказаў Захар.

Пляснулі па руках і чакалі, что будзе.

У назначаны дзень Маршлют, як і ўсе суседзі, запрог каня і выехаў да валасной канцэлярыі.

— Ну, чый гарнец гарэлкі п'ём сягоньня ў Боруха? — сьмяшліва спытаўся Захар у Сьцяпана, калі ўсе выехалі за вёску.

— А гэта яшчэ невядома, браце, — спакойна адказаў Маршлют, — паглядзім яшчэ, што будзе ў валасьці.

— У Боруха, а ня ў валасьці, сказаў-бы лепш, — паправіў Захар.

— Будзе і ў Боруха, будзе і ў валасьці, — многазначна падцьвярдзіў Маршлют.

Прыехаўшы да сяла, дзе знаходзілася валасная канцэлярыя, Маршлют, доўга ня думаючы, павёў Захара і сьведкаў, што былі пры закладзе, як быццам прапіваць у Боруха праграны ўжо ім гарнец гарэлкі.

Як толькі ўсе добра падпілі, і ў карчме стала весела, дык ніхто не прамінуў пажартаваць з таго, што Сьцяпан, як ні хітры, а на гэты раз за гарэлку мусіць заплаціць.

— Пачакайце тут крыху, а я пайду даведаюся, каму за гарэлку плаціць, — паважна абвясьціў Маршлют.

— А дзе-ж ты даведаешся, — спытаўся нехта, — можа ў Борухавай Соркі?

— Ой, не, браточкі! У самога валаснога старшыні даведаюся. Ён-жа-ж начальнік на тое й мідаля носіць, каб усе справы ведаць.

— Начальнік, але-ж не ў карчме, — гукнуў нехта...

Але Маршлют ужо быў за дзьвярыма і, хістаючыся, пайшоў да старшыні.

— Як ты сабе хочаш, пане старшыня, а я пад салдаты не паеду, — заявіў Маршлют.

— Як-то не паедзеш? Вось важная пэрсона знайшлася. Думаеш, што калі выпіў, дык на цябе й рады ўжо няма?

— Больш я выпіў, як табе здаецца, пане старшыня, а пад салдаты каго іншага замест мяне пашлі. Не паеду. Хоць-бы й сам станавы прыстаў прыказваў, а не паеду. Бывай здароў, дадому трэба ехаць.

Старшыня абурыўся, пачуўшы ад Маршлюта, што ёсьць яшчэ й большае начальства, і проста загадаў:

— Годзі жарты клеіць. Ідзі ў халодную. Пасядзіш дзён два, гарэлка з галавы выйдзе, дык тады паедзеш, куды табе кажуць.

— Дзе-ж там у халодную, калі ў ёй ужо й так, як у бочцы селядцоў, людзей набічкована. На ліха мне твая халодная? — злосна адказаў Маршлют.

— Ну, для гэткага пана ў нас яшчэ знойдзецца месца, дзе пасядзець, — у хлеў зачыню, — пагразіў старшыня.

— Я табе, пане старшыня, не скаціна, каб у хлеў зачыняць.

Ўсердаваўшыся, старшыня й сапраўды распарадзіўся пасадзіць Маршлюта пад арышт у хлеў, дзе пісарава карова стаяла.

Як толькі ўпіхнулі Маршлюта ў хлеў, ён яшчэ больш прыдаўся п'яным і адразу паваліўся на гнаі, ня гледзячы на тое, што сьвітка на ім была белая, навюткая, мусі апраненая назнарок. Выкачаўшыся ў гнаі на ўсе бакі, Маршлют закурыў сабе люльку, ды чакаў, што будзе далей.

Калі вырушалі ўсе пад салдаты, старшыня спомніў замкнёнага у хлеў Маршлюта, і загадаў яго выпусьціць, каб ехаў разам з іншымі.

— Пад салдаты я ўсё-ж такі ня еду, пане старшыня, — заявіў Маршлют перад людзьмі, — дзе-ж мне гэткаму ўробленаму у людзі

паказвацца! А паеду цяпер туды, куды й ня думаў зусім ехаць. Я й да міравога пасрэдніка дарогу ведаю. Дзе гэта відана, каб людзіну ў быдлячы [7]) хлеў заганялі! Хто даў пану старшыне гэткае права? Я гэтага не магу даравацъ. Што мне пісарава карова: жонка, ці што,— каб з ёю разам клалі мяне? Выбачайце, паеду пасрэдніку скардзіцца [11]).

Сказаўшы гэтае перад усімі суседзямі проста ў вочы старшыне, Маршлют, не жартуючы, скіраваўся ехаць да мястэчка, дзе жыў міравы пасрэднік, старшы начальнік валаснога старшыні.

Рады ня было. Старшыня загадаў злавіць Маршлюта, сьцягнуць з яго сьвітку ды, абмыўшы яе ў рэчцы, апрануць яго палюдзку. Ды хай сабе едзе, куды сам хоча.

Ведама, што ў абмытай сьвітцы Маршлют паехаў дадому, а не пад салдаты, і выграў заклад, датрымаўшы сваё слова.

---

Колькі-ж хітрасьці меў Сьцяпан Казун, празваны Маршлютом!

І якім людзкім мог быць ён чалавекам, каб хітрасьць яго скіроўвалася ў лепшы бок ды каб ня піў ён горкае, праклятае гарэлкі з гэткім смакам і заўзятасьцю.

---

# Янка Быліка.

**Лялі М.**

Як ўлетку ў полі дзесь ручэй,
Так міла голас твой ліецца,
Ў душы мне рэхам раздаецца,
Як ў летку ў полі дзесь ручэй.

Так мне й тагды яшчэ здаецца,
Хоць ты і зьнікнеш мне з вачэй,
Як ўлетку ў полі дзесь ручэй,
Так міла голас твой ліецца.

**Ф. Д.**

Як зорка ў небе зіхаціць,
Так мне твой мілы воблік з раю
Цьвіце, што цьвет міленькі ў маю,
Як зорка ў небе зіхаціць...

Ці-ж дзе другі такі спаткаю?
Адзін мяне ён весяліць.
Як зорка ў небе зіхаціць,
Так мне твой мілы воблік з раю.

---

## Сонэт.

Сіроткай дзесь у полі вырас колас,
Адлучаны ад родных сваіх ніў.
Галоўку сумна ён сваю схіліў
На тоненькай саломінцы, як волас.

Ці чутны каму жальбы яго голас,
Хоць ён ня бачыў шчасьця цэлы век,
Хоць з градам дождж яго часамі сек,
І віхар гнуў яго тады у полаз?

Няшчасны, бедны згнаньнік адзінокі!
Хоць сьвет для ўсіх такі цяпер шырокі—
Табе на ім тут месца ёсьць адно!
Ня жалься, брат, ня траць ты сіл напрасна!
Загляне сьвет ў твае турэмнае вакно, —
І скончыцца судзьба твая няшчасна.

---

# Сьвіньня і сабака.

(*Байка*).

Захварэла раз сьвіньня у пана:
То крэпка ўночы спала,
То жорла цэлы дзень ад рана
І раптам тлусьцець стала:
Чуць, чуць падняць магла ўжо зад!
Хоць быў пан дужа з яе рад,
Што добрую мець будзе ён сланіну,
Кілбасы й тлустую вандліну,
Аднак, сьвіньня ня жарт спужалася:
„Мусіць да мяне хвароба прыблукалася?“
Яна сабе думаючы так,
Сабаку раз, як дохтара, спытала:
— „Відзеў ты людзей, браток, нямала,
Скажы-ж, якой хваробы гэта знак?—
І апэтыт ёсьць і сон,
А не магу на ногі я падняцца?“
Сабака абыйшоў, панюхаў,
Вільнуўшы хвосьцікам, паслухаў
І давай з сьвіньні пасьля сьмяяцца:
„—Вот так штука“, — кажа ён, —
„Хварэеш так цяпер, васані,
Дык якраз, як наша калісь пані.
Каб больш рабіла, а меней ела,
Ты-бы пэўне, сьвіньня, не хварэла“.

---

# Сьвіньня і пчолы.

(*Байка*).

Недзе ў адным садку
Стаяў вулей у кутку.
Раз у цёплы летні дзень
Сьвіньня ўлезла туды ў цень,
Ямку вырыўшы, ляжала:
Ня маючы чаго рабіць,
Адпачывала.

А пчолы бязупынна там гудзелі:
То з вульля, то ў вулей усё яны ляцелі:
У іх работа аж кіпіць!
Сьвіньня, хоць доўга на іх глядзела,
Аднак, што робяць, не зразумела.
Пачала пчол пытаць:
— „Чаму гэта бяз умолку
І бяз ніякага толку
Ня кідаеце лятаць?“
А ей
Адказаў вулей:
— „Робім на зіму запас, —
Тагды хто пракорміць нас?“
— „Дзе вам розум бог падзеў?
Я вас навучу, як жыць:
З вульля зраблю вам карыта,
Ўстаўлю разам з сваім ў хлеў,
І пан будзе нас карміць“...
—„Вон ідзі, сьвіньня нямыта, —
Увесь вулей ей гудзіць, —
„І сьвет цэлы пэўне згіне,
Як на ім парадак сьвіньні
Стануць завадзіць“

---

# Зязюля і варона.

(*Байка*).

Вясной зязюля прыляцела
І дзесь ў зялёным гаю села.
Села сабе яна на суку,
Зачала сваё: „ку, ку, ку, ку“...
Варона там гняздо рабіла
І так да яе загаманіла:
—„Чаму, зязюля, не працуеш,
Толькі цягам ты кукуеш, —
Рабіць гняздо мне прашкаджаеш?“
—„Эх, варона, ты саўсім дурная,
Ты мусіць гэтага ня знаеш,
Што рабіць мужык ўвёў моду,
Я-ж з панскага вядуся роду.
Ніхто рабіць гнязда ня знае
З нас; і ня кормім мы дзяцей.
Гняздо за нас ім зробіць хам
І дзяцей пракорміць нам“.
А ей
Вот так варона адказала:
— „Хоць розуму я маю мала,
Аднак-жа мне дурной здаецца,
Што ў нас парадак завядзецца
І справядлівы ўсім закон:
Такіх паноў пагоняць вон!“



# Д. ПІСЬМЕНЬНІКІ МЯШЧАНСТВА.

Пад мяшчанствам—у шырокім значэньні слова — разумеюцца наагул жыхары места. Выходзячы з гэтага пункту гледжаньня, сюды трэба было-б аднясьці цэлую гандлёвую клясу, цэлы адміністрацыйны склад цяперашняга гаспадарства, людзей, жывучых з даходаў ад якіх-небудзь маемасьцяў у месьце і, урэшце, пралетарыят. Наагул цяпер места прадстаўляе, як гаворыцца, конглёмэрат самых рознастайных клясаў. Вось-жа тады аб мяшчанстве ў такім шырокім значэньні гаварыць ня прыходзіцца. Цяпер, калі гаворыцца аб мяшчанстве, то пад гэтым словам разумеюцца найболей сярэднія клясы места, якія сваім палажэньнем і спосабам жыцьця, ня гледзячы на рознастайнасьць заняткаў, вельмі зьбліжаны між сабою і складаюць нешта цэлае.

Ад мяшчанства па палажэньню, трэба адрозьніваць духовае мяшчанства. Гэта людзі, якія жывуць звычайным, будзённым жыцьцём, няздольныя падняцца вышэй роўня гэтага жыцьця і ня імкнуцца да гэтага падняцьця. Ідэалам гэтых людзей ёсьць — жыць, як іншыя, ня высоўвацца наперад і старацца не застацца ззаду. Гэта хутчэй псыхолёгічны тып людзей, якія сустрачаюцца між самымі рознымі клясамі грамадзянства, складаюць усюды тую нярухлівую, бяз'ідэйную масу, якая, турбуючыся перад усім аб сваім матар'яльным добрабыце і выгодах жыцьця, служыць праціле жнасьцю людзей ідэйных, рухлівых, — аванпосту грамадзянства.

Тут нас цікавіць перад усім мяшчанства па палажэньню, г. ё. жыхары места, і асабліва яе сярэдні стан.

Беларуская адраджэнская літэратура апіралася перад усім на вёсцы. Усе найлепшыя пісьменьнікі — або сыны вёскі, або пранятыя яе думкамі, жаданьнем прыйсьці ласьне ей, вёсцы, на дапамогу. Гэта тлумачыцца тым, што найгалаўнейшай ад'знакай нацыянальнага адраджэньня, яе галоўным шкілетам ёсьць родная мова, а мова ў сваей чыстаце захавалася якраз на вёсцы. Места, якое калісь было цэнтрам беларускай культуры і сьвядомага нацыянальнага жыцьця, дзякуючы напору іншых абставін, зусім асімілявалася, пераняла гутарку іншую, чужую. Вось-жа адраджэньне ў першы свой пэрыяд не захапляла жыхарства места, ішло як-быццам міма яго.

Паступова, аднак, адраджэньне пачало захопліваць і места. Мы бачылі прадстаўнікоў літэратуры, паходзячых з места (Гарун, Галубок і інш.), мы бачылі выдатных ідэолёгаў мястовага пралетарыяту (Ц. Гартны), бачылі і больш шырокае зварочваньне пісьменьнікамі увагі на места і яго жыхароў. Але праз усю нашаніўскую пару не знашлося ні аднаго пісьменьніка, які-бы ў цэлым належаў месту. Такі пісьменьнік зьявіўся аж пры канцы пары. Пісьменьнік гэты — Францішак Аляхновіч.

# Францішак Аляхновіч.

Аляхновіч, як па паходжаньню, гэтак і па сваей літэратурнай дзеяльнасьці, належыць пераважна месту. Места адбіта ў яго творах як найшырэй. Тут знойдзеш самыя разнастайныя мескія тыпы Пераважна фігуруюць тры тыпы — тып мешчаніна духовага (героі п'есы **„На Антокалі"**, **„Манька"**, **„Цені"**, **„Шчасьлівы муж"** і інш.), тып рэволюцыянэра (гэроі п'есаў — **„Калісь"** і інш.) і тып беларускага інтэлігента-адраджэнца (гэроі п'есаў **„Пан міністар"** і **„Няскончаная драма"**) Але ўсё гэта праходзіць на груньце жыцьця мескага, усе героі — тыпічныя жыхары места, яго вытворы. Асаблівасьцю герояў Ф. Аляхновіча зьяўляецца нейкая хваравітасьць псыхікі, нейкі надлом душы, плыткасьць характараў, брак сілы дзеля перамогі жыцьцёвых абставінаў, пэўная дэгенэрацыя. Магчыма, што гэта запраўдныя жывыя людзі места, якія пад час вайны і голаду, зьмены валадароў аднаго за адным —пражылі страшэнную жыцьцёвую драму, што змушала іх найчасьцей падаць пад ударамі абставін



Францішак Аляхновіч.

Апроч прыведзеннага вышэй — Аляхновіч сцэнізаваў народныя легэнды і казкі (**„Базылішк"**, **„Бутрым Няміра"**, **„Чорт і баба"**, **„Птушка Шчасьця"**)

Ўсе паказаныя рэчы напісаны Ф. Аляхновічам у драматычнай форме. Дзякуючы таму, што лік гэтых твораў, напісаных Аляхновічам, даволі значны, — ён у гісторыях літэратуры ахрышчаны бацькам беларускай драматургіі.

Але, апроч драматычных твораў, Аляхновіч пісаў і вершам, а таксама невялічкія расказы (**„Пісьмы да яе"**, **„Дзіцячыя сьлёзы"**). Апошняе ўсё пад псэўданімам Монвід.

Нарадзіўся пісьменьнік 9 сакавіка 1883 году ў Вільні. Бацька яго быў скрыпачом. Вучыўся ў Вільні, а потым у драматычнай школе ў Кракаве і ў школе Музыкальнага Т-ва ў Варшаве. Вярнуўшыся ў Вільню, працаваў над арганізацыяй беларускага тэатру і выдаваў гумарыстычны тыднёвік „Пэркунас", за які быў пацягнены ў суд, і мусіў уцякаць ў Галічыну, дзе працаваў, як артысты. Калі ў 1913 годзе ён вярнуўся зноў у Вільню, то быў пасаджаны ў турму і выпушчаны толькі дзякуючы амністыі. Падчас вайны працаваў у Вільні па арганізацыі тэатру і ў розных беларускіх культурных установах. Ў часе рэвалюцыі перайшоў фронт і зьявіўся ў Менск, дзе гульня яго ў тэатры і творы нашлі цёплы прыём [a].

---

a) Гл.: М. Гарэцкі, Гісторыя Беларускае Літэратуры, выд. III, 1924, стар. 336—341.

Затым зьяўляецца зноў у Вільню і нарэшце, ў канцы 1926 году, выехаў у Радавую Беларусь і, па чутках, працуе па арганізацыі тэатру ў Вітэбску.

Літэратурная дзеяльнасьць Ф. Аляхновіча прыпадае на самы канец Нашаніўскае пары, фактычна на час сусьветнай вайны, калі ў беларускім жыцьці быў пэўны перарыў. Але па духу твораў належыць да таго-ж самага часу.

Творы амаль усе падаль вышэй.

---

*З вершаў.*

## Мой родны край!..

Мой родны Край! Старонка сумная! —
За што Цябе любіць? — калі-б спытаўся хто, —
Што адказаць, ня ведаў сам-бы я,
Скуль гэтая любоў? дзеля чаго? за што?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каменьне вострае крывава раніць ногі,
Дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...
Хаця мне жудасна, я ня зыйду з дарогі,
Ня кіну край, дзе я радзіўся, рос... —
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Старонка родная! на што Цябе любіці
І на ахвяру ўсё жыцьцё Табе даваць?
Ці-ж не ляпей пад іншым небам жыці,
Забыць Цябе, пакінуць, родна маць?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Там дзесь сады цьвітуць бязмала праз год цэлы
Там неба сіняе, нямашака там хмар,
Людзкія тамака здароўем дышуць целы,
І абыймае дух мастацтва дзіўны чар...

Там Вінчы, Рафаэль, Анжэльлё, Тыцыян,
Глядзяць монумэнты там горда ў неба выш; —
У нас — забыты ў полі дзесь кургаю
Ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы крыж... —
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Твой, Беларусь, пачаўся Рэнэсанс [a]) цяпер!
Хто ведае, што створыць Твой народ?!..
Хоць красак тут няшмат, хоць край, як доля, шэр, —
Зварухнуўшыся раз, дух пойдзе ўсё ўпярод...

І хоць з-за аблакоў пахмурна сьвеціць сонца,
І шчасьця-радасьці ня знойдзеш тут нідзе, —
Загляне Доля йшчэ і ў нашае законца,
І Кветка-Папараць яшчэ нам зацьвіце!

---

a) Адраджэньне.

# Як я памру...

Як я памру, — прабійце сэрца мне калом,
Асінавым калом прабійце вы наскрозь
І закапайце мой глыбока ў зямлю труп
Ды камень, як гару, ўзвалеце мне на гроб,
Каб я устаць ня мог...
Ды уцякайце ўсе хутчэй да сваіх хат,
І крыжам пражагнайце хатні свой парог,
І імя вы маё прад ночай ўспамінаць
Забаранеце ўсім: і дзецям, і старым,
Каб я устаць ня мог...
Бо ў ноч вясеньнюю, як сівер загудзіць,—
Устану я з магілы,
Страхну з сябе магільны пыл
І пойду на сяло —
Ад хаты да хаты,
У вокны вашы буду паглядаць,
Сон адганяць з вачэй,
Дзяцей пужаць.
На вуснах сьмех замрэ, як гляну у вакно,
Дзіця заплача ў маткі пры грудзёх,
Магільны холад ўсім па скуры прабяжыць...
На вёску ўсю найдзе якаясь дур:
Дзіця ў лес пабяжыць Цьвет-Папараць шукаць;
Вясковыя дзяўчаты ўсе пачнуць
Праменьні месяца у косу заплятаць;
А пры дарозе, дзе стаіць за вёскай крыж,
Мужык мацнейшы сук пачне ўжо выбіраць
І дзягу ад парткоў ў пятлю вязаць
Ён будзе ў гэту ноч...
А дзед сівы грудзямі ляжа на зямлі,
Рукамі абнімаць пачне ён свой загон,
Багаславіць ды праклінаці будзе ён,
Прыльнуўшы да грудзей Маці-зямлі...
Здаволеным, шчасьлівым я сон з вачэй зганю, —
Няхай ня сьпяць, а ў муках хай жывуць,
Ў страшэннай розпачы рукі свае грызуць, —
Няхай ня сьпяць!..
Як ужо мне ня будзе хапаць сіл,
Я з віхрам палячу на Лысую Гару,
Там склікаю [a]) зусюль начных нячыстых сіл,
Бо сябрам буду іх, як ўжо памру...
Ім дам загад: ляцець, гудзець, трубіць, —
Хай ўсе дрыжаць, моў перад Судным Днём...
Праклацьце ўсім, хто радасьці спажаў,
Бо лёс быў наш—мук доўгі, вечны шлях!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

a) Склічу.

## Ты, Вільня, мяне ўзгадавала.

Ты, Вільня, мяне ўзгадавала,
Тут сьніў я дзіцячыя сны!..

Хоць мне была мачыхай Ты, —
Душы маей боль задавала,
З-за вугла каменьне кідала
З нязнанай, мо' братняй рукі,
І чару ад вусн адбірала,
Хаця ўміраў я ад смагі,
І ў чару ту горач ўлівала,
І піць мне яе падавала, —
Хоць мачыхай мне была Ты,
У сэрцы маім шмат любві...

Люблю за тваю Цябе долю,
Што сумная страшна была...
Ты пражыла шмат многа болю,
Так сама няшчасна, як я.
Няраз груганоў чорны хвалі
Ты бачыла, Вільня мая,
Як лапаталіся ўдалі
Ажно дрыгатала душа...
Ты, бедная родная маці,
У сэрцы тваім боль-туга...
Уцеху калі нам спазнаці?
Калі згіне гора-бяда?...
За ўсе твае мукі нядолі
Люблю Цябе я яшчэ болей...

За радасьць вясеньніх усьмехаў,
Як сонейка блісьне з-за хмар, —
Мінуўшчыны прожытых рэхаў,
Што думы нам веюць на твар, —
За долю-нядолю тваю,
За коратку ўцеху вясны, —
Хоць мачыхай мне была ты, —
Цябе, мая Вільня, люблю!..

---

## Нясканчаная драма.

(*П'еса ў 4-х актах* [a]).

Рэч дзеецца ў Вільні ў часы нямецкай акупацыі.

---

### АКТ І.

(Сцэна мае дзьверы галоўныя і дзьверы ў бакоўку, дзе жыве Костусь. На сцэне ложак без пасьцелі, стол, крэслы, печ, клумкі).

#### ЗЬЯВЫ 1—7-ая.

Сторож з старажыхай прыбіраюць кватэру для новых кватэрантаў і гавораць, што гэта нейкія жулікі, бо за старую кватэру не заплацілі і нават асталіся вінны ў краме. Прыйшоўшы Костусь, на запытаньне аб грошах, адказвае, што будуць заўтра. Тое-ж самае кажа і дамаўласьніку. Прыходзіць Васіль, беларускі пісьменьнік, гарачы адраджэнец, які піша драму з беларускага жыцьця. З ім разам хворая жонка Ядзя з дзецем.

#### ЗЬЯВА 8-ая.

**Васіль.** Ну, што, цётка, ужо прыбрала хату?

**Старажыха.** А няўжож?.. Вось ужо кончыла.

**Васіль.** Вось гэта наша кватэра, Ядзька! Яна... нічога... вясёлая... Невялічкая, але, здаецца, будзе цёплая...

**Ядзька** (*сядае на ўслончыку*). Каб толькі была цёплая!... У нас у бальніцы было цёпла... Каб дзіця не прасьцюдзілася!..

---

*а*) Скарочана для ўжываньня ў школах.

**Васіль.** Нічога... Я дастаў дзьве вязкі дроў... Будзе цёпла...

**Старажыха.** Адну я ўжо спаліла. Гэты пан, што тут будзе з вамі жыць, казаў, каб напаліць у печы...

**Васіль.** А добра, добра... Ну, значыцца, яшчэ адна вязачка асталася... Ну, добра... (*да Ядзькі*): Чаму-ж ты не распранаешся, Ядзя?.. Кладзіся...

**Ядзька.** Чакай... Я адпачыну... замарылася... Так высака!.. На што ты так высака наняў кватэру? Гэта-ж, здаецца, чацьвёрты паверх?

**Васіль.** Трудна было знайсьці іншую... Нічога, Ядзька, неяк будзем жыць... (*да Старажыхі, катарая стаіць і прыглядаецца*). Вы ўсе ўжо зрабілі? Ну, дык можаце сабе ісьці, цётка! Мы тут ужо ўсё самі...

**Старажыха.** Мне, панок, трэба за фатыгу... Я-ж памыла вокны, напаліла ў печы, пачысьціла ўсё, як сьлед, а мой таксама замарыўся— цягаў на гэтакую вышыню вашы рэчы...

**Васіль.** Ну, ведама, ну, ведама... Добра, добра, цётка... Зайдзеце заўтра... але! заўтра раніцай... не! лепш заўтра падвечар... я вам усё заплачу, крыўды ніякае ня будзе... Заўтра, значыцца, добра, цётка?

**Старажыха.** Ну, добра... (*да сябе*). Цётка ды цётка, заўтра ды заўтра... Усё гэта неяк не палюдзку... (*выходзіць*).

## ЗЬЯВА 9-ая

### Тыя-ж без Старажыхі

**Васіль** (*разьвязвае вузел і сьцелець пасьцель*). Ну, вось, ты хацела, каб хутчэй забраць цябе з бальніцы.. Ну, вось ужо і ўва ўласнай хаце... Баюся толькі, ці не зарана ты выпісалася з бальніцы. Яшчэ ты ня зусім здаровая, а тут і дагляду такога ня будзе, як там...

**Ядзька.** Усё роўна, каб толькі ўва ўласнай хаце... Там — у бальніцы голадам мораць... Усё толькі чорны хлеб ды капуста... Ды, апрача таго, баюся я гэтага немца доктара. Яму — каб толькі рэзаць!.. Казаў, што яшчэ будзе рабіць апэрацыю... А я баюся .. я не хачу!.. Ен мяне зарэжа!..

**Васіль.** Ну, вось табе! „Зарэжа!“ Доктар не зарэжа. Ен ведае, што трэба...

**Ядзька.** Добра табе казаць, а каб ты быў на маім месцы, дык інакш загаварыў-бы... Чакай, ня так ты гэта робіш, няўмела.. Патрымай дзіця, я сама пасьцялю пасьцель... (*дае яму дзіця, а сама цяжка ўстае і сьцелець пасьцель*).

**Васіль.** Вось толькі дрэнная справа грошай зусім няма. Як ты ляжала ў бальніцы, я атрымаў за корэктуру [a]) за два месяцы нaперад. Цяпер сам ня ведаю, скуль дастаць. У Костуся я пазычаў, пазычаў бяз ніякае меры, покуль грошы ў яго былі, а цяпер і ён ужо нічога ня мае. Страшэнна нялоўкае палажэньне! Ён, як толькі мае грошы, сам набіваецца, каб браць у яго, а я — што-ж рабіць—бяру...

**Ядзька.** Ён-жа наш кватарант. Тое, што ты ў яго ўзяў, можна-ж парахаваць, як плату за кватэру.

---

a) Лац. — папраўка абмылак пры друкаваньні кніжак.

**Васіль.** Плату за кватэру! Ха-ха-ха-ха! Калі-б так рахаваць, дык ён заплаціў ужо нам за колькі год наперад.

**Ядзька** (*спалохаўшыся*). Няўжо-ж мы гэтак многа ад яго ўзялі?

**Васіль.** Я лік ужо страціў.

**Ядзька.** О, божа мой! божа мой!

**Васіль.** У нас, бач, нейкія асаблівыя адносіны. Нас зьвязвае дружба змалку дзён — успамін дзіцячых гадоў — гэта многа значыць. Цяпер ужо чалавек больш крытычна адносіцца да людзей, ставіць людзям вялікшыя вымогі, ужо цяпер трудна завязаць гэтакую дружбу. А тады — дзеці — мы разам гулялі, разам вучыліся, — і вось душы нашы зьвязаліся між самой на нейкі крэпкі вузел, які ніколі хіба ўжо ані разьвяжацца, ані разарвецца. Мы адзін перад адным ніякіх тайнаў ня маем — ён наперад згадвае кожную маю думку, кожнае маё жаданьне, як я ягонае. І цяпер, хоць жыцьцё душу кожнага з нас выкавала на іншы лад, хоць мы шмат адзін ад аднаго розьнімся і шмат у чым не згаджаемся, — гэты невідавочны вузел з дзіцячых гадоў зьвязвае нас ня з меншай сілай, чымсь калісь. І вось адтуль у нас гэтакія адносіны.

**Ядзька.** Усё-ж такі грошы ад яго браць не выпадае.

**Васіль.** Дык-жаж і я тое самае кажу, але... нічога не парадзіш... Ну, ты кладзіся ўжо. Чаму-ж ты не распранаешся?

**Ядзька.** Тут сьцюдзёна. Я палажу гэтак у вопратцы. Дай мне сюды дзіця (*бярэ дзіця*). Ён ужо ўмее сьмяяцца... во', глянь, як да мяне сьмяецца... (*да дзіцяці*). Што? цешышся, што ізноў вярнуўся да мамы,— эх, ты, малюсенькі мой!.. Вось ляжам тут (*кладзецца*), тут у хаце покуль што халодна, але напалім у печы, будзе цёпла, добра, весела, будзем жыць ува ўласнай хаце, а ня ў гэтай праклятай нямецкай бальніцы... (*да Васіля*). Во', глянь, Васілёк! як ён сьмяецца! ён ужо разумее, што я яму кажу.

**Васіль.** Ну, куды там! (*выймае гадзіньнік і махае ім перад носам дзіцяці*).

**Ядзька.** Далібог, разумее. Ён цешыцца, што мы ўжо ўва ўласнай хаце... (*да дзіцяці*). Во, бачыш, які харошы ў таты гадзіньнік? Во', паслухай, як ён робіць: чык-чык-чык!

**Васіль.** Ну, трэба ўжо распакаваць рэчы. Зваліў я ўсё насьпех, у адну кучу, ня было часу ўлажыць, як сьлед... Усе рукапісы ў кашу перамяшаліся... (*разьвязвае найвялікшы кош, выймае шмат кніжак і папераў і раскладае на стале. Пачынае зьмяркацца*).

**Ядзька.** На што ты забіраў гэтае сьмяцьцё? гэтыя паперкі?

**Васіль** (*паважна, спакойна*). Гэта не сьмяцьцё, Ядзечка! Гэта ўсё патрэбныя рэчы. Што я быў-бы варты бяз гэтага? Спалі гэтыя паперкі — і ты спаліш частку мяне, частку душы маей. — Вось!

## З Ь Я В А 10-ая.

### Тыя-ж і Костусь са Сторожам.

Уваходзіць Костусь са Сторожам, каторы нясе на плячох куфар.

**Костусь** (*да Стоража*). Вось пастаўце тут, калі ласка. Заўтра зайдзеце, дык дастанеце за фатыгу.

**Васіль** (*да Стоража*). Але, але. Я ўжо казаў вашай жонцы: зайдзеце заўтра, заўтра вам будзе заплочана.

**Сторож** (*выходзіць*).

### ЗЬЯВА 11-ая.

**Тые-ж бяз Стора**ʼ**а.**

**Костусь** (*падыходзіць да Ядзькі, цалуе яе ў руку*). Вітаю вас, пані, на вашай новай кватэры... Ну, як-жаж вы?

**Ядзька.** Ох, яшчэ слабая, але дзякаваць богу, што нарэшце выбралася з бальніцы, тут хутчэй папраўлюся.

**Костусь.** А малы?

**Ядзька.** Ён нічога, маладзец, здароў... во' бачыце, які вясёлы! гвалтам хоча выцягнуць ручкі з-пад палёнак — ха-ха — хоча мабыць з вамі прывітацца (*да дзіцяці*). Ну, ня трэба, хавай ручкі, тут халодна, зьмерзьнеш...

**Костусь** (*да Васіля*). Ну, брат, ледзь-ледзь я адваяваў ад упраўляючага апошні наш клумак. Даведаўся гад, што мы з кватэры ўцякаем, прыляцеў там, як фурыя, пачаў крычаць, зрабіў страшэнную авантуру. Ну, у канцы канцоў удалося мне яго супакоіць. Я даў расьпіску, што заўтра ўсё заплоцім.

**Васіль** (*усьмяхаючыся*) Усім мы паабяцалі: заўтра ды заўтра... Але скуль мы заўтра возьмем — вось цікавасьць! Я ўжо ня ведаю, скуль дастаць.

**Костусь.** Я маю добрае прачуцьцё...

**Васіль.** Што думаеш? Пойдзеш — там?...

**Костусь.** Але.

**Васіль.** З чым-жа пойдзеш? Няўжож у цябе яшчэ ёсьць крыху марак?

**Костусь.** Не. Але вось ад каго спадзяюся паратунку — ад гэтага пярсьцёнка. Гэта мой талісман. Ён ня раз ужо ратаваў мяне ў цяжкую часіну... Заўсёды, як закладваў я яго ў лёмбард — гэтыя грошы прыносілі мне шчасьце. Аднак ня люблю я з ім расставацца... Але нічога не парадзіш... Ну, трэба сьпяшацца, каб не зачынілі лёмбард! (*апранаецца*).

**Васіль.** Костусь! Пачакай!.. Ну, а калі будзе гэтак, як учора: усё да апошняга фэніга, а) га?.. Можа лепш устрымайся... Шкада грошай...

**Костусь.** Ха-ха! Мілы мой! Бывае, што ўсё жыцьцё ёсьць толькі адна газардная ігра. І тады кідаеш va banc не якіясь колькі дзясяткаў марак, а душу сваю, бо сам чорт твой партнэр, б) а ён любіць вялікую ігру!..

**Васіль.** Ну, зычу табе...

**Костусь.** Не! толькі бяз гэтага! Ня трэба зычыць шчасьця, бо гэта благі знак, гэта нясе няўдачу... Бывайце! (*выходзіць*).

### ЗЬЯВА 12-ая.

**Тыя-ж бяз Костуся.**

**Васіль** (*сядзіць, курыць папяросу*). Гм! Дзіўны чалавек гэты Костусь! Знаемся змалку дзён, а вось іншы раз ніяк не магу разгадаць яго. Ну, чаго, напрыклад, ён блытаецца тут, у Вільні, замест

---

*а*) Ням. — дробнаа манэта = даўнейшай 1/2 кап. (грошу). *б*) Фр. — супольнік ў гульні.

сядзець ў сваім фальварку? Ну, праўда, там немцы ўсё ўзялі ў свае рукі і рады ніякае з імі не дасі. Ну, усё-ж-ткі на вёсцы лягчэй, чымся тут бяз службы, без работы, праводзячы ночы толькі ў якойсьці шулерні... Сядзеў сабе ў сябе на вёсцы, гаспадарыў, добра было, а вось з таго часу, як прыехаў на наш шлюб, заседзіўся ў Вільні і жыве тут дагэтуль... А скрытны ён, гад, — я чую, ёсьць у яго ў душы нешта гэткае, чаго ён ня хоча казаць... Хоць часта прыходзіцца мне з ім сварыцца, люблю я яго... (*раскладвае свае паперы*). Цёмна ўжо, трэба запаліць сьвечку (*запальвае*). Сягоньня ёсьць настрой, трэба трохі папісаць... Ядзенька! ты заснула?

Ядзька. Не, я слухаю цябе...

(Васіль расказвае Ядзі, што, калі яна ляжала ў бальніцы, ён пачаў пісаць драму, расказвае у надыхненьні аб зьмесьце яе і аб галоўнай думцы. Пытаецца, ці добра будзе).

Ядзька. Нічога... Добра... (*Васіль пачынае пісаць*). Васіль! Дзіця ўначы збудзіцца, будзе плакаць, а ў нас ня будзе нават кусочка сьвечкі, каб запаліць...

Васіль (*злы*). А чорт!.. (*задзьмухвае сьвечку, кідае пяро і сядзіць нейкі час, абапёршы галаву на руках. Пасьля ўстае, апранаецца ў паліто*).

Ядзька. Куды ты йдзеш?

Васіль. Нікуды. Апранаюся, бо сьцюдзена. (*Сядае на куфэрку каля печы і запальвае скручаную папяроску*). (П а ў з а).

Ядзька. Ці ты ўжо зусім ня маеш грошай?

Васіль. Нічагусенькі!.. Наша справа покуль-што дрэнная... Я ўжо страціў галаву... Няма ўжо ніякае ніскуль надзеі што-колечы дастаць... Вось толькі — можа Костусь трохі прынясе...

Ядзька. Куды ён пайшоў?

Васіль. Ну, быццам ня ведаеш!? Туды, дзе заўсёды.

Ядзька. Страціць ён апошнія свае маркі і будзе галадаць разам з намі, як гэта ўжо няраз было... На гэта разьлічаць нельга... А калі-б нават і выйграў — годзі ўжо! не хачу я, каб ты яшчэ браў ад яго грошы! не хачу! Лепш ужо паміраць з голаду — а не хачу!!

Васіль. Гэта ты праўду кажаш, Ядзя, што ўжо ня сьлед браць ад яго грошы. Але... але...

Ядзька. Ах, божа мой! Ці скончыцца калі гэта наша мука? Я — да душы — не разумею, чаму гэта мы такія нешчасьлівыя! Усе неяк устрайваюцца, жывуць, як людзі, у нас толькі ніякага сэнсу нямашака. Усе кажуць, што ты здольны чалавек, ты-ж мог-бы дастаць нейкую добрую службу, а ты сядзіш у гэтай беларускай газэціне, працуеш, як вол, і нават на такое-сякое жыцьцё зарабіць ня можаш... Я думаю, каб ты захацеў, дык-бы ў нас бяды гэтакай ня было.

Васіль. Вось уся справа ў тым, што не хачу! Ды, апроч таго, куды я магу пайсьці на службу? — У іншую, багацейшую газэту? Дык мне там прыйшлося-б кожны дзень чуць розныя лаянкі на беларусаў, а можа і самому пісаць!.. Куды мне ісьці на службу, на якую?.. Э, што тут многа казаць!.. Ніхто мяне ні на якую службу і ня возьме!

Ядзька. Дык як-жаж будзе? Я ўжо ня маю сіл жыць далей так, як дагэтуль... Дык-жа цяпер яшчэ ёсьць дзіця, расходы вялікшыя... Я ўжо не магу паступіць на службу, бо ў хаце работы будзе шмат... Дык як-жа жыць?

**Васіль.** Нічога, Ядзечка, ня сумуй, не маркоцься! Вось ужо вайна канчаецца, з таго боку фронту даходзяць да нас добрыя чуткі... А скора я кончу сваю драму...

**Ядзька.** Э!.. Твая драма нас не накорміць!

**Васіль.** Не кажы так, Ядзька, не кажы!.. Хто ведае!.. Я толькі гэтым жыву, гэтай надзеяй. Скончу драму — будзе слава, будуць грошы — усё! Ох, каб толькі вырвацца з гэтай Вільні! Зачынілі нас немцы тутака, як у клетцы, адарвалі нас ад Усходняй Беларусі,— і рабі, што хочаш!.. Іншы раз—дык проста думаецца перабрацца неяк праз фронт: там — я думаю — кіпіць жыцьцё, там разьвіваецца шырокая беларуская работа!..

**Ядзька** (*падымаецца крыху на падушцы*). Як гэта: праз фронт?— А як-жаж я? А як-жаж мяне кінеш з дзіцянём?

**Васіль.** А вось аб тое й ідзе! Каб ня дзіця — даўно-б я птушкай паляцеў адгэтуль.

**Ядзька.** Ну што-ж! Калі так рвешся „ляцець“, — ляці! Пакінь мяне з дзіцянём, калі ў цябе няма сумленьня, — і ляці. Я ведаю, што сэрца ў цябе няма... Дзеля таго ты мабыць і службы ніякай ня хочаш, што думаеш „ляцець“ ад мяне...

**Васіль.** Эх, Ядзька, як ты мучыш мяне! Дык-жа ня кіну, не! Я-ж гэта не казаў!.. Не! буду тут сядзець пры табе халодны, галодны, не скрануся з месца, не, не!

**Ядзька.** Ах, калі-ж ты эгоіст! а) Ты думаеш заўсёды толькі аб сабе. Не забывайся, што ў горшых муках я жыву... Аба мне дык ты зусім не памятаеш, — а толькі аб сабе...

**Васіль.** Ах, Ядзька, кінь ужо! Годзі! (*са злосьцю*). Буду тут сядзець пры табе, буду тут нянькай, прачкай, спэкулянтам, чыноўнікам, — толькі годзі ўжо гутаркі аб гэтай жудасьці... Хочацца на мамэнт забыцца аб усім, хочацца супачыць душой, хочацца ўцячы ад гэтага гора ў край фантазіі, творчасьці... Хочацца хоць на мамэнт супачыць у сьвеце сонечных вобразаў!.. Ах, каб цяпер мець сьвечку, — пісаць!..

**Ядзька.** Ціха!.. Во' ўжо дзіця разбудзілася, плача. (*да дзіцяці*) Ааа—ціха, ша! сьпі, малюсенькі! (*да Васіля*). Ён ужо пэўне есьці захацеў, ён заўсёды ў гэтую пару есьці хоча... Васіль! Запалі сьвечку і падагрэй малако...

**Васіль** (*запаляе сьвечку, налівае малака в бутэлькі ў сагачок, ставіць у печ і прабуе распаліць агонь*). А каб цябе чорт! Трэскі мокрыя, ня хочуць гарэць!

**Ядзька** (*да дзіцяці працяжна, быццам пяючы*). Ааа, ціха, ша! Ааа! дастанеш малачка, ааа, зараз, зараз, падагрэе татачка... Вось хутка, хутка ўжо сагрэецца малачко... (*калыша дзіця на руках*).

**Васіль** (*седзячы на падлозе перад печкай, раптам пачынае сьмяяцца*).

**Ядзька** (*зьдзівіўшыся*). Чаго ты?

**Васіль.** Ха-ха-ха! Калі-б гэта апісаць у якойсьці повесьці, або паказаць на сцэне — дык людзі сьмяяліся-б, ня верылі-б...

**Ядзька.** Што-ж тут сьмешнага? Што тут дзіўнага?

**Васіль** (*далей сьмяецца нэўрастэнічна*). Ха-ха-ха! Жонка хворая ляжыць на бярлогу з галодным дзіцянём у халоднай хаце, прыяцель

---

а) Лац. — сябелюб.

пайшоў у шулерню, каб дабыць пару марак, а тут вось перад пагасшай печкай той, хто маніцца новы шлях церабіць у заглохшым гушчары — беларускі паэт!.. Ха-ха-ха!..

За сцэнай чуваць, як нехта памалу ідзе па ўсходах і сьвішча якуюсь мэлёдыю.

**Ядзька.** Ціха! нехта, здаецца, ідзе...

**Васіль** (*прыслухоўваецца*). Костусь па ўсходах ідзе... сьвішча... Але што-ж гэта ён так рана? Мусіць прайграўся ўшчэнт?

ЗЬЯВА 13-ая.

**Костусь** прыносіць грошай, якія выйграў, і ўсе разам робяць баль.

ЗЬЯВА 14-ая.

**Тыя-ж і Старажыха** (*уваходзіць*).

**Васіль.** Вось добра... Ну, цётка, бярэцеся за работу! Распалеце вагонь, бо я не патраплю, грэйце малако вось у гэтым саганчыку, а пасьля возьмемся за яешню.. Ну, покуль што, Костусь, вып'ем яшчэ па аднэй чарцы!

**Старажыха.** Я зараз... Як маланкай спаліць...

**Костусь.** Налі!

**Васіль** (*налівае*). Браток!.. Трэба запаліць яшчэ адну сьвечку... Добра? — Хай будзе сьветла, ясна, весела... (*запальвае сьвечку*). Вось паставім адну тутака каля Ядзькі... Або не! Давай, брат, яшчэ адну запалім, паставім яе вось тут на стале... Далоў цемру! — Хай жыве сьвятло!.. І яшчэ адну... вось тут!..

**Ядзька.** Ды што ты якісь шабас тут устрайваеш?.. Пан Костусь купіў для сябе сьвечак, а ты хочаш спаліць усе ў адзін вечар...

**Васіль.** Ах, праўда! Выбачай, браток, што я так...

**Костусь.** Ды палі, брат, палі колькі хочаш!

**Васіль.** Костусь! У мяне да цябе адна просьба; які ў цябе настрой? Ці хочаш, каб я табе прачытаў кусочак сваей драмы?

**Костусь.** Цяпер?

**Васіль.** Але,—вось пакуль будзе яешня... Будзем піць, а я буду табе чытаць...

**Костусь.** Ну, чытай.

**Васіль.** Вось перш-на-перш я табе скажу, як выглядае сцэна... Вялікі, разумееш, пакой, з вялікімі шклянымі вокнамі на апошнім пляне... За вокнамі рэфлектар; яркі чырвоны сьвет падае праз вокны на сцэну... Відаць удалёчку возера... Возера шуміць...

**Старажыха.** Панічка! Малако ўжо падагрэлася... Куды яго паставіць?

**Ядзька.** Давайце сюды... Васіль! Хадзі сюды, памажы мне пераліць малако ў бутэльку...

**Васіль** (*кідае сшыток са злосьцю на падлогу*). Ах, божа мой! Заўсёды мне нешта перашкодзіць!!...

Заслона.

---

## АКТ II.

### ЗЬЯВА 1 — 3-ая.

Прыходзіць **Паўлінка**, прыяцелька **Ядзі**, і прыносіць старое зімовае пальто. Кажа, каб кінула Васіля, які ёй здаецца вар'ятам за тое, што займаецца беларускай справай, якая яму нічога ня дасьць. Кажа, што калі ён кіне гэтым займацца, то яе муж можа знайсьці яму пасаду Апроч таго, расказала, што на адным вечары, куды быў запрошаны Васіль, як прадстаўнік беларусаў, стаўся скандал. Нейкі пан Пішэпёнткоўскі сказаў, што беларуская справа — рэч нячыстая. Васіль кінуўся на гэтага пана і пабіў. За гэта цяпер Васіля абходзяць Муж Паўлінкі дакляруе даць пасаду, калі Васіль ня будзе займацца беларускай справай.

Разам з тым Паўлінка прапануе аддаць дзіця ў прытулак.

### ЗЬЯВА 4-ая.

**Ядзька** (*адна*), пасьля **Васіль**.

**Ядзька.** Гм! Дзіўны чалавек. Прасунуў галаву праз дзьверы на адзін мамэнт, каб узяць гарбаты, а пасьпеў ужо наплесьці рознай філязофіі цэлую кучу... Зусім такі самы з глузду зьехаўшы, як мой Васіль... Мусіць ад учарашняй гарэлкі яшчэ не працьвярозіўся... [a])

Уваходзіць Васіль з хлебам і бутэлькай з малаком.

**Ядзька.** А! ты купіў хлеба і малака?

**Васіль.** Але...— Я цяпер спаткаўся на вуліцы з тваей Паўлінай. Ці яна ў нас была?

**Ядзька.** Але, і прынясла мне падарунак... Глянь, якое харошае паліто!

**Васіль** (*аглядае паліто*). Гм! Паліто важнецкае! Гэта добра... Тую кацавэйку, што я для цябе пазычыў, можна ўжо будзе аддаць, бо баба лезе мне ў вочы, каб я хутчэй аднёс. Я-ж узяў толькі на пару дзён.

**Ядзька.** Ну і аддай! Сягоньня яшчэ аддай!.. Ах, каб ты ведаў, якая Паўліна добрая! Як яна шчыра хоча нам дапамагчы! Яна казала, што ёсьць для цябе служба.. Трэба толькі, каб ты зайшоў да яе мужа, а ён ужо цябе ўстроіць...

**Васіль** (*скарпаўся*). Не пайду я да гэтага дурня!

**Ядзька** (*пляснуўшы рукамі*). Вось маеш табе! Для цябе ўсе дурні, толькі ты адзін разумны!.. Людзі самі прыходзяць да цябе з добрым сэрцам, а ты толькі—дурні ды дурні. Бач, адзін разумны які!..

**Васіль.** Ды, апроч таго, ня маю часу; увечары раблю карэкту і пішу, а раніцай я заняты ў беларускім камітэце. Там шмат работы, бо рук да працы няма. Я сягоньня абяцаў, што кожны дзень буду прыходзіць памагаць.

**Ядзька** (*злая*). Вось! Ты заўсёды гэтак! Там, дзе можна зарабіць грошы, дык там ты на работу ня пойдзеш, а ў якіясь свае дурныя камітэты ахвотна ходзіш дарма.

---

*a*) Гаворка ідзе аб Костусі.

**Васіль** (*строга*). Ядзька! Ня дуры галавы, не твая справа! Я ведаю, што раблю, а ты, калі ласка, ня сунь свайго носу...

**Ядзька.** Як гэта: ня сунь свайго носу?!.. Ад Костуся стольki напазычаліся, што сорамна ўжо глянуць яму ў вочы, у хаце голад, холад, для дзіцяці няма за што купіць малака, людзі чужыя хочуць табе памагчы, даюць службу, а ты адкідаеш іхнюю помач?!

**Васіль.** Малако ёсьць, я прынёс...

**Ядзька.** Ну, дык добра, што сягоньня ёсьць, а што будзе заўтра, а што пазаўтра? Не заўсёды-ж гэтакімі жабракамі жыць, як цяпер! Усюды навокал даўгі, нельга на вуліцу паказацца, бо крамніцы за палу хапаюць, каб аддаць грошы, (*цішэй*) у сваей кватэры — у Костуся і то чорт ведае колькі напазычаліся... А тут якраз Паўліна, як з неба звалілася... „Няхай — кажа — прыйдзе заўтра да майго мужа, дык дастане добрую службу",—а ён ня хоча!.. (*іронічна*), „Беларускія справы"! „Часу ня маю!"... Нябось, цябе твае гэтыя беларускія справы не накормяць!

**Васіль.** І ня трэба.

**Ядзка.** Табе мо' й ня трэба, а дзіцяці даць есьці трэба... Слухай: я не разумею, ці ты вар'ят, ці ты гэтакі... подлы чалавек!

**Васіль** (*усадзіўшы рукі ў кішэнь, падыходзіць да яе*). Скажы ты мне: знала ты мяне перад шлюбам, ці не? Ведала ты, які я чалавек, ці не? Ведала? Ну, дык чаго-ж выходзіла за мяне замуж?.. Гэтакім „вар'ятам" я заўсёды быў, такім самым я і цяпер, і гэтакім ужо здохну. Мяне ўжо не пераробіш!

**Ядзька.** А чорт цябе хіба пераробіць! Я калісь думала, што з часам ты набярэш розуму і ня будзеш гэтакі здурэўшы. Кожны, як ажэніцца, дык пасталее.

**Васіль.** А я думаў, што ты будзеш добрай маей прыяцелькай, вернай таварышкай, спагадніцай маей у змаганьні, памочніцай у рабоце!..

**Ядзька.** Чаго-ж ты хочаш? Каб я разам з табой пісала твае дурныя драмы? Не патраплю я пісаць драмы!

**Васіль.** І ня трэба... Але я хачу, каб твая душа адклікнулася на тое, што для мяне самае важнае, што для майго жыцьця так патрэбна, як паветра...

**Ядзька.** Ад мяне ты гэта вымагаеш, а сам чаму ты ня дбаеш аба мне? Я працую горш кухаркі якойсь, я сама мыю падлогу, сама мыю бялізну, гатую абед, шкарпэткі табе латаю, ніякай працы ня цураюся — во' глянь, якія ў мяне рукі парабіліся! — а цяпер, калі ёсьць магчымасьць зарабіць грошы і жыць ляпей, — ты ня хочаш! Усё толькі якіясь фанабэрыі: таго ён ня хоча, гэта яму не выпадае... А за бараду ў чужым доме людзей тармашыць — гэта дык выпадае?

**Васіль.** А ты скуль-жа аб гэтым ведаеш?

**Ядзька.** Вось ведаю. Ты мне нічога не казаў, а я ведаю!.. Але! на гэтакія штукі дык ты майстар!...

**Васіль** (*успамін ад гэтым здарэньні крыху разьвесяляе яго*). Але! гэта было лоўка!.. Добрая сцэна!.. А, бо-ж раззлаваў мяне гэты гад, што ўжо неўмагату было... Ха-ха!.. Бо ёсьць людзі, бачыш, якіх не пераканаеш доказамі слова, але ўдарыўшы палкай па галаве або вытузаўшы за бараду... Тады гэтакі крэпкалобы тып думае сабе:

„о, мусі гэта справядлівая справа, калі за яе чалавек так крэпка б'ецца!“ Ха-ха!..

**Ядзька.** Але, сьмейся, сьмейся! А вось праз гэтакія твае штукі людзі цябе й не паважаюць.. Ведама, скандаліст! Хто-ж такога будзе паважаць? Кажуць, што ты быў тады п'яны...

**Васіль.** Што?! О, гэта брахня!.. Ага! вось, значыцца, як подлыя чалавечкі патрапяць апаганіць свайго працаўніка! П'яны, значыцца тое самае, што вар'ят, значыцца, такога чалавека можна апляваць, абсьмяяць, утаптаць у балота, у гразь. — Ну, годзі ўжо аб гэтай подласьці, *кіньма ўжо сварыцца!..* Шкада часу!.. Я з іншай мэтай забег цяпер да хаты... Да друкарні яшчэ рана (*глядзіць на гадзіньнік*), маю час, трошкі папішу... (*раскладвае паперы*). Усё трэба перарабіць, усё ад самага пачатку, усё ня так, усё заслаба, — трэба, каб было моцна, каб як кіём па галаве крэпкалобым людзям! (*сядае пры стале і піша*).

**Ядзька** (*ідзе да печы, выймае гаршчок і, н'чога ня кажучы, ставіць на стале перад Васілём; пасьля, ня гледзячы на яго, адыходзіць ізноў і сядае на ложку*).

**Васіль** (*пабачыўшы гаршчок*). А! каша!.. Добра! дзякую! няхай пастаіць! я зараз.

**Ядзька.** Як пастаіць, дык астыне, — і так яна ўжо доўга настаялася. Зьясі цяпер, будзе смачней...

**Васіль.** Ну, добра... (*есьць*).

**Ядзька.** Казала мне Паўлінка, што можна дзіця памясьціць у прытулак. Кажа, што яму там будзе добра...

**Васіль.** Ага... у прытулак, кажаш? Гм... Ну, што-ж... (*Паўза*).

**Ядзька.** Ну, чаму-ж нічога ня кажаш? Як-жа табе гэта здаецца?

**Васіль.** Гм... А ты што аб гэтым думаеш?

**Ядзька.** Я думаю, што калі ўзапраўды там добра, дык можна папрабаваць. Мне там можна кожны дзень прыходзіць паглядзець. А калі пабачым, што там дрэнна, дык заўсёды можна будзе дзіця ўзяць назад.

**Васіль** (*гэты праэкт усьцешыў яго, але ён не паказвае свае радасьці*). Але, але... Гэта добрая думка... Калі будзе дрэнна, дык-жа можна ўзяць назад... А нам будзе шмат лягчэй, калі дзіця будзе ня ў нас, а... ў добрых руках.

**Ядзька.** Казала Паўліна, што трэба ахрысьціць. Няхрышчонае ня прыймаюць.

**Васіль.** Але... але... Трэба ўжо ахрысьціць. Пара ўжо...

**Ядзька.** Якое дамо імя?

**Васіль.** Імя? Пачакай, трэба падумаць, гэта важная рэч... Чакай, зараз... (*ходзіць па сцэне*). Зараз... зараз... О, ужо маю!—Юры! Гэта імя героя мае драмы... Няхай ён будзе Юры на памятку таго, што радзіўся ў той час, як я пісаў гэту сваю драму. Вось ахрысьцім яго — Юры, Юрка! добра?

**Ядзька.** Э, не! Мне гэтае імя не да спадобы. Юрка— гэта неяк брыдка. Вось, каб Альфонс — гэта вельмі прыгожае імя.

**Васіль.** Фу, не! Нейкае чужаземнае, гішпанскае імя.

**Ядзька.** Але, табе заўсёды не падабаецца тое, што падабаецца мне!

**Васіль.** Не, Юры — харошае імя. Юры — сьвяты мой, што ляціць на кані і рагацінай коле гада цемры, як бог Ярыла, сын сонца, які адчыняе браму неба і на белым кані на зямлю ляціць, каб збудзіць вясну. (*Падыходзіць да калыскі, весела*). Юрка-Ярыла! уставай, брат! будзем калоць рагацінай паганага гада цемры, хвацім яго за бараду, як я Пшэпёнткоўскага, і кінем яго ў цёмную пропасьць [a]) бяз дна, хай ляціць гэтак да сканчэньня вякоў! Юрка! Хай жыве сонца! вясна! жыцьцё!..

**Ядзька** (*так сама павесялеўшы*). Ну, кінь ты ўжо крычаць, а то дзіця напалохаеш!

**Васіль.** Не, ён не баіцца... Ён глядзіць на мяне і сьмяецца. Але, сьмейся, брат! Жыцьцё дана нам для сьмеху і радасьці! Сьмейся, як богі шчасьлівыя сьмяяліся!

**Ядзька** (*стоячы поруч з Васілём пры калысцы, да дзіцяці*). Сьмяешся з свайго звар'яцеўшага бацькі? Сьмейся, бо твой бацька вялікшы за цябе, а такі самы дурненькі, як ты... Ах, ты, маленькі мой, бедненькі! Альфонсік мой!

**Васіль** Не Альфонсік, а Юрка!

**Ядзька**. Не, ня Юрка, а Альфонсік!

**Васіль**. Не! Юрка!

**Ядзька**. Не! Альфонсік!

**Васіль** (*знэрваваўшыся*). Ядзька! Чаго ты упіраешся з сваім Альфонсікам? Чаму ты ня хочаш уступіць мне?

**Ядзька.** А ты чаму мне ня хочаш уступіць?

**Васіль.** Чакай! Каб было справядліва, зробім гэтак... (*выцягвае з кішані хустачку і завязвае вузялок*). Вось, няхай лёс рассудзіць! Вузялок — гэта Альфонсік, а без вузелка Юрка. Калі выцягнеш вузялок, ну дык няхай тады будзе па твойму: Альфонсік. Добра? — Ну, маеш, цягні!

**Ядзька**. Добра. (*Памалу, асьцярожна цягне, выцягвае вузялок*). А вось! вузялок! (*з трыумфам*): Альфонсік! Альфонсік! (*цалуе дзіця*). Ну, чаго-ж ты пачаў плакаць? Есткі хочаш?

**Васіль.** Ён плача, бо ня хоча называцца Альфонсам.

**Ядзька.** Васіль! У печы грэецца малако. Дай мне сюды бутэльку.

**Васіль** (*выймае з печы рондэльчык, у каторым грэецца бутэлька з малаком і соскай. Дае бутэльку Ядзьцы. Яна корміць дзіця*). Ну, ты супакой Альфонсіка, а я варочаюся да свайго Юркі. (*Ідзе да стала і бярэцца за рукапісы*).

**Ядзька** (*да дзіцяці*). Ну, што? ня хочаш малачка? Дык чаго-ж ты плачаш, плакса гэтакі! (*калыша дзіця*). Ааа, ціха, сьпі! аа, маленькі! Сьпі, сьпі, сьпі, сынок! Вось так, ціха, ша! Мама пойдзе ў прытулак паглядзець, ці там добра. Калі там будзе добра, дык застанёмся там, а калі блага, дык вернемся да хаты... (*да Васіля*). Ты нікуды цяпер ня пойдзеш?

**Васіль.** Не! Пасяджу яшчэ крыху ў хаце. А што?

**Ядзька.** Я хачу схадзіць да гэтай пані Ягодзінскай, аб каторай мне казала Паўлінка. Даведаюся аб прытулку, а ты пасядзі тут і, як дзіця пачне плакаць, дай яму бутэльку з малаком. (*Аддае яму бутэль-*

---

a) Лепей — прорву.

*ку*). Вось маеш, пастаў ізноў у печы, каб было цёплае. (*Васіль бярэ бутэльку і ставіць у печ*). Ці мароз сягоньня вялікі?

**Васіль.** А так... нічога сабе. Шчыплецца за нос.

**Ядзька** (*апранаецца і выходзіць*). Я мабыць хутка вярнуся. Доўга там не засяджуся.

ЗЬЯВА 5-ая.

**Васіль** (*адзін*).

**Васіль** (*нейкі час піша, пасьля чытае з патосам*):

Вы бачыце? Народ ужо ня сьпіць,
Да новага жыцьця ён косьці распрастаў,
Няволі кайданы ўжо разьбіваць пачаў,
Бо так, як іншыя, свабодна хоча жыць...

(*кідае пяро і рукапіс*). Не! гэта заслаба, чорт!.. Ня так! Я чую, што ня гэтак, а вось так, як трэба, не патраплю... „Няволі ланцугі ўжо разьбіваць пачаў“... — ну што з гэтага? Гэта ўсё ўжо старое, ужо ўсім надаела! Трэба новых слоў, крэпкіх, як удар молата па кавалу, трэба каб кожнае слова будзіла магутны водгук, тварыла новае жыцьцё!.. Э, чорт, сягоньня неяк ня клеіцца (*устае і падыходзіць да калыскі*). Але, браток! Але, Юрачка! Як вырасьцеш, будзеш мо' сьмяяцца з бацькоўскіх твораў, яны пакажуцца табе наіўнымі ды слабымі, але, сынок, выбачай, мы людзі маленькія, мы толькі першыя ластаўкі нашага расцьвету, мы, як той гной, на якім закрасуецца з часам багатае жыта...

ЗЬЯВА 6-ая.

**Васіль і Костусь** гутараць аб беларускай справе. Костусь ня верыць у яе і нападае на Васіля, што ён прыстаў да яе. За гэта паўстае вострая спрэчка.

**Васіль.** Стой, чакай, браток! Што скажа сьвету наш збудзіўшыся ад векавога сну народ, гэтага ня ведаеш ані ты, ані я... Я веру ў адраджэньне свайго народу, як сярэднявяковыя рыцары, ішоўшыя ў крыжавы паход, верылі ў справядлівась свае справы. Я веру — а вера робіць цуды. Народ наш праз шмат гадоў аддаваў свае лепшыя сілы на службу чужынцам, узбагачваючы гэтак чужыя культуры, але, калі ён пачне жыць сам для сябе, тады ў хуткім часе багата закрасуецца наша культура... Быў час, калі беларускіх адраджэнцаў была толькі малюсенькая жменька, але яны верылі ў сваю справу і стаўся цуд!.. Цяпер — грамада!.. Але чаго-ж ты ізноў сьмяешся? Усялякія новыя клічы кідаюць у народ ня масы, а паадзінокія людзі,— масы толькі пасьля йдуць за імі. Але дзеля гэтага трэба мець веру ў сваю ідэю — і ўскалыхнеш народ!

**Костусь.** Дзіця ты! Выгадаванае ў гарадзкіх сьценах дзіця! Ты ня ведаеш народу, ніколі ты ня быў на вёсцы. Ідзі на вёску, глянь! Папробуй там казаць аб Беларусі, аб бацькаўшчыне — усе падумаюць, што ты з глузду зьехаў. І ніколі не даб'ешся там нацыянальнай сьвядомасьці, бо калі хто каталік, дык скажа табе: я „поль-

скі“, а калі праваслаўны — дык: я „рускі“. Нацыянальныя паняцьці ў галаве селяніна пераблуталіся, — ён ведае толькі адно, што ён — „тутэйшы“.

**Васіль.** Але, вось-жа гэтая яго „тутэйшасьць“ і давядзе яго да нацыянальнай сьвядомасьці, бо ён, у канцы канцоў, зразумее, што і польскі пан, і расейскі чыноўнік — людзі тут чужыя, а ён — гэты тутэйшы беларускі мужык — гаспадар свае зямлі.

**Костусь.** Нічога гэтага ня будзе! Адзін захоча зрабіцца падобным да пана, другі да чыноўніка, бо яны тут прадстаўнікі вышэйшай культуры, і аддасьць душу сваю ў вечны палон —адзін аднаму, другі другому. Нічога на гэта не парадзіш.

**Васіль.** Вось-жа ўся штука ў тым, каб ня даць душы ў палон!

**Костусь.** Вы гэта патрапіце? Хэ-хэ!

**Васіль.** Мы ў гэта верым!

**Костусь.** Скуль сілы на гэта?

**Васіль.** Сіла — наша вера. Вера такіх, як Багдзевіч, як я, як іншыя. Гэта вялікая вера, што горы з месца кратае..

**Костусь.** Ах, ізноў дэклямацыя!.. Згадзіся-ж ты са мной, што гэта толькі пустыя словы, фантазыя... Ну, але я цябе разумею,— гэтая твая „вера“—гэта ёсьць патрэбны для твайго жыцьця наркотын [a]). Адзін п'е гарэлку, іншы курыць опіюм, трэці нюхае кокаіну, а ты — хэ-хэ-хэ — маеш сваю „веру“. І тая толькі розьніца між п'яніцай ці кокаіністым і табой, што тыя не вымагаюць для сябе пашаны або ўдзячнасьці ад патомства, а ты хочаш, каб табе—хэ-хэ—паставілі памятнік... Але нашто? Ці так, ці сяк — памрэш і ня будзеш мець магчымасьці пахіліць галаву перад сваім рэзьбяным патрэтам,

**Васіль** (*знэрваваўшыся крыху*). А ты ня можаш устрымаць свае нэрвы і злосна пачынаеш кусацца?

**Костусь.** Не, я ня кусаюся, але толькі кажу, што думаю... Ты добра ведаеш, што ты для іншай багацейшай культуры, дзе былі ўжо свае Шэксьпіры, Мольеры, Кальдэроны, або Міцкевічы ці Пушкіны—мала мог-бы зрабіць і загінуў-бы ў моры забыцьця, а тут, для беларусаў, ты будзеш „вялікі слаўны поэт“ ха-ха!... Вось ключ усей справы! Вось дзеля чаго ты ляціш з рагацінай на крыльлі ветранога млына.

Урэшце яны зусім пасварыліся і нават дайшло да таго, што Васіль, ня гледзячы на тое, што ня меў ні гроша, патрэбаваў разрахунку.

### ЗЬЯВА 7-ая.

**Васіль** (*адзін*).

**Васіль.** О, божа мой! Скуль узяць грошы, каб аддаць яму?! О, божа мой, галава трашчыць. Скуль узяць?!..

### ЗЬЯВА 8-ая.

**Васіль і Ядзька** (*уваходзіць*).

**Ядзька.** Ну, я ўжо ўсё устроіла. Заўтра можна будзе аддаць дзіця ў прытулак. Там вельмі добра...

[a]) Наагул — нешта такое, што выклікае страту сьвядомасьці.

**Васіль.** Ведаеш, я толькі што пасварыўся з Костусем...

**Ядзька.** Ну, гэта не пяршыня!

**Васіль.** Трэба канешне аддаць яму ўсё, што мы вінаваты! О, божа мой! скуль узяць?!

**Ядзька.** А адкуль-жаж мы возьмем гэталькі грошай?.. Колькі гэта будзе?

**Васіль.** Я сам добра ня ведаю. Шмат!

**Ядзька.** Э, ня дуры галавы! Гэталькі разоў ты ўжо сварыўся з ім і пасьля была ізноў згода. Гэтак сама будзе і цяпер.

**Васіль.** Не, цяпер зусім што іншае, цяпер інакшая справа. Я не магу болей з ім жыць. Ён ядам сваім атручвае маю душу, ён адбірае ад мяне маю веру — я даўжэй не магу!..

**Ядзька.** Якую веру?

**Васіль** (*глянуўшы на яе паліто*). Ах, Ядзечка! Ведаеш што? Толькі ты, калі ласка, ня гневайся на мяне... Трэба яму аддаць усё, усё да капейкі!.. У мяне ёсьць добры праект... Толькі ты, Ядзенька, ня гневайся...

**Ядзька.** Ну што? Кажы!

**Васіль.** Я прадам тваё паліто. За яго многа дадуць. Я яму кіну ў твар усе грошы, я не хачу быць у матар'яльнай ад яго залежнасьці...

**Ядзька.** Што?! Прадаць паліто?! О, выбачай! Дудкі! Хочаш мусі, каб я йзноў хадзіла абарваная, як жабрачка? Не, гэтага ніколі ня будзе! Паўлінка мне дала паліто і я табе яго не аддам, каб ты ня ведаю што! Э, разумны які! — На службу, якую яму людзі добрыя даюць,ісьці ня хоча, а карыстацца чужым дабром, дык ласы. Каб ты меў алей у галаве, працаваў, як усе іншыя людзі, дык-бы мы і ў Костуся гэталькі не напазычаліся! А цяпер раптам захацелася прадаваць маё паліто! Хэ, бачыш яго!

**Васіль.** Ах, якая ты подлая, Ядзька!... Дык слухай-жа: сягоньня, (*апранаецца*) вось зараз-жа іду да мужа Паўлінкі і бяру гэту праклятую службу. Усё зраблю, чаго ты хацела, за што мяне штодня, як тупая піла, пілавала. Душу чорту, калі захочаш, аддам, але годзі ўжо гэтых вечных закідаў, гэтага бязупыннага пілаваньня нейкай службай. Вось-жа йду, буду рабіць, як ты хацела, але тады ўжо — годзі, маўчы!

**Ядзька.** І добра зробіш. Як будзеш сыты, дык і ляпей будзе пісацца гэтая твая драма.

**Васіль.** Не! Драма ўжо ніколі ня будзе напісана, нічога ўжо з гэтага ня будзе, калі й ты мяне яшчэ грызеш, дык прападзі ўсё! Усё ў печ, усё! усё! (*кідае свае рукапісы ў печ і падпальвае*). Хай усё гарыць, хай усё прападае, як прападае маё жыцьцё!..: Усё далоў! Цяпер я буду сыты працавіты чалавек—і добры муж. (*Няпрытомна*). Во'-во'! Гарыць ужо! гарыць! Во' — бачыш? Гэта твая работа!—гарыць! Ах, подлая ты! што ты нарабіла?

**Ядзька.** Во' — яшчэ чаго! Няўжо-ж гэта я зраб ла? Ты-ж сам кінуў усё ў печ, я табе не казала.

**Васіль** (*глядзіць са сьлязьмі ў ачох на вагонь*). О, божа мой! што я зрабіў? што я зрабіў? (*хапаецца за галаву і плача*).

З а с л о н а.

---

## АКТ III.

### ЗЬЯВА 1-ая.

На сцэне сядзіць **Костусь** і акомпанюе сабе на **гітары**. Каля яго спакакаваныя рэчы. Ён пяе:

Ня чурайся, дзяўчынка, галубка, мяне,
Пажалей, прыгалуб бедака-сірату.
Збудзі сэрца, збудзі, хай навек не засьне,
Дабудзь песьню з душы, разгані цемнату.

Ня было мне пацех ад людзей, ад жыцьця,
Не заглянула сонца у хату маю, —
Віхры гналі-гулі без канца, бяз пуцьця,
Ажно долю паганую кляў я сваю [a]).

(*Нехта стукае ў дзьверы*).

**Костусь.** Калі ласка.

### ЗЬЯВА 2-ая.

**Костусь і Багдзевіч** (*уваходзіць*).

**Багдзевіч.** Добры дзень, паночку!

**Костусь.** Добры дзень!

**Багдзевіч.** Што-ж гэта вы з чэмаданчыкам? Можа едзеце да сябе на вёску?

**Костусь.** Не. Перабіраюся на новую кватэру. Чакаю толькі, каб нехта прышоў, бо няма як зрабіць з ключом... А можа хутка й на вёску паеду. Нуда нейкая села на сэрца.

**Багдзевіч.** Нуда? Багатыя людзі толькі маюць гэтакі збытак у жыцьці, як нуда. Мы, людзі бедныя, мы гэтакіх роскашаў ня ведаем.

**Костусь.** Людзі, каторых увесь адзіны скарб толькі нуда, можа бяднейшыя за вас.

**Багдзевіч.** Быць можа... І гэта праўда. Не зашмат багацьця, калі асталася адна толькі нуда... (*Зьмяніўшы тон*). Калі, панок, паедзеце да сябе ў маёнтак [б]), дык скажэце мне, калі ласка... Добра?

**Костусь.** А, вы можа хацелі-б паглядзець гэтыя паперы?

**Багдзевіч.** Але, але. Калі дазволіце, дык паедзем разам. Для вас гэтыя паперы глупства, старое непатрэбнае сьмяцьцё, страва для пацукоў, а для нас гэта мае вялікую вартасьць, для нас гэта можа скарб. Шаснаццаты век! гм! гм!... Апрача таго, мы думаем наладзіць там блізка вас беларускую школу. Калі-б вы захацелі—маглі-б нам у гэтай справе памагчы.

**Костусь.** Пане Багдзевіч! Вы-ж добра ведаеце, што я да гэтай работы няздатны.

**Багдзевіч.** Ашукваеце самі сябе, пане Костусь! Калі-б вы толькі захацелі, шмат-бы маглі зрабіць карыснай работы.

**Костусь.** Хэ-хэ-хэ, божа мой! Чаго вы ўсе ад мяне хочаце? Вось-жа аб тое й ідзе, што я ня маю веры ў карыснасьць гэтай ра-

---

а) Словы Я. Купалы. б) Пол. — двор.

боты. Можа-б я й хацеў мець гэтую веру, так, як вы, але я яе ня маю. Дайце мне раней веру — вось што! Але кіньма лепш. Два дні назад я гутарыў аб гэтай справе з Васілём... І цяпер я пакідаю іхнюю кватэру — вось фінал [a] гэтай гутаркі! Хэ-хэ'..

**Багдзевіч.** Ну, глупства! Васілёк — гарачы хлопец, палаяўся мусі трохі з вамі. Ня трэба на яго за гэта злавацца. Але дзе-ж ён? Ня ведаеце, ці скора вернецца, бо маю да яго важную справу?

**Костусь.** Ён хутка прыдзе са службы... А вы можа яшчэ нічога ня ведаеце? Ён дастаў пасаду ў хлебным бюро... А дзень перад тым спаліў усе свае рукапісы.

**Багдзевіч.** Што!? Спаліў? Чаму!?

**Костусь.** Спаліў усё. Як гэта здарылася — ня ведаю, я пры гэтым ня быў... Два дні ўжо, як маўчыць і ні са мной, ні з жонкай сваей не гаворыць ні слова...

**Багдзевіч.** Усё спаліў!? Не разумею, што-ж гэта... Значыцца й сваю драму?

**Костусь.** І драму.

**Багдзевіч.** Ах, вар'ят! вар'ят! Ён чытаў мне першы акт, такая арыгінальная рэч'.. Ну, я-ж яму за гэта задам фэфэру! Ах, шалёны хлопец'.. (*разглядзеўшыся па хаце*). Ну, а дзе-ж іхняе дзіця? Ня відаць нешта...

**Костусь.** Аддалі ў прытулак. А на другі дзень захварэла тамака. Жонка Васіля цяпер цалюсенькія дні сядзіць у прытулку пры дзіцяці.

**Багдзевіч.** Эх, між намі кажучы, дык толькі лішнія клопаты зваліліся ім на галаву праз гэтае дзіцянё! Цяпер такія цяжкія часы, Васіль б'ецца, як рыба аб лёд, каб сяк-так пракарміцца, а тут вось яшчэ: новая бяда!

**Костусь.** Наагул усё іхняе жыцьцё склеілася ня так, як трэба.. (*Чуваць за сцэнай крок*). Ну, вось нехта ідзе, пэўна ён; трэба мне ўжо ехаць: чэмаданчык у руку, гітару пад паху — і, значыцца, на новую кватэру!

**Багдзевіч.** Можа крыху ўстрымаецеся? Тое, што я зараз скажу, можа й вас, „бязьвернага“, крыху зацікавіць.

### ЗЬЯВА 3-ая.

Прыходзіць **Васіль.** Багдзевіч сварыць яго за спаленую драму. Разам з тым перадае вестку, што ў Менску адбыўся Ўсебеларускі Кангрэс, які абвясьціў незалежнасьць Беларусі і што для навязаньня сувязі з Менскам яму, Васілю, неабходна перайсьці фронт. Васіль згаджаецца.

### ЗЬЯВА 4-ая.

**Кастусь** мірыцца з **Васілём** і паддзержвае яго жаданьне йсьці праз фронт; абсуджаюць плян. Але **Васілю** шкада спаленай драмы.

---

*a*) Лац. — канец.

### ЗЬЯВА 5-ая.

**Васіль** (*адзін. Сядае, закрывае вочы рукамі; пасьля гаворыць*). Памятаю .. усё памятаю! Зьява за зьявай праходзяць перад маімі вачыма... Вось я на гэтым затрымаўся:

Паклікала мяне тут нашых душ туга,
Паклікаў тут мяне сардэчны ваш боль,
І я ляцеў да вас, сьпяшаўся, як мага.
На гарфяных струнах іграе боль Эоль,
А я хачу крануць струны няшчасных душ,
Хачу, каб кожны з вас харошы быў і дуж,
Каб сьмела запяяў гімн радасны жыцьця.

Гэта добра сказана: „каб сьмела запяяў гімн радасны жыцьця!" (*Сядае, шпарка піша, пасьля раптам кідае пяро*).

Менск! Менск! Ерузалім ты мой! Ці ты каменьнямі б'еш сваіх прарокаў, ці спатыкаеш іх з расцьвіўшымі галінамі?.. Ерузалім ты мой! бачу цябе!.. (*як у экстазе*). Горад шуміць... вуліцы заліты хвалямі сьвету... грыміць музыка...

Бачу! бачу!!.. рэфлектары й рампы кідаюць яркі сьвет на сцэну. У тэатральнай залі цёмна, ціша... Дых ува ўсіх грудзёх устрымаўся: чакаюць разьвязкі... І вось фінал! Заслона паляцела ўніз, тысячы далоняў пачалі пляскаць, сарвалася нейкае выцьцё, як шум бурлівага мора — гэта з тысячных вуснаў ляціць кліч: аўтар!.. аўтар!

Чую!.. чую!.. а выцьцё натоўпу расьце: аўтар, аўтар!..

### ЗЬЯВА 6-ая.

**Ядзя**, якая прышла, таксама згаджаецца, што **Васіль** мусіць ісьці. Разам з тым перадае вестку, што дзіця памярло ў прытулку.

---

## АКТ IV.

### ЗЬЯВА 1—2-ая.

**Васіль, Костусь і Ядзя** абгаварваюць пляны на будучыню ў зьвязку з падарожжам Васіля. Васіль выходзіць.

### ЗЬЯВА 3-ая.

Ідзе гутарка між **Ядзяй і Костусем**, з якое відно, што Костусь кахае Ядзю даўно і што гэтым трэба тлумачыць яго прыязьнь. Але Ядзя не падзяляе пачуцьцяў **Костуся. Костусь** выходзіць, але ў Ядзі раптам робіцца пералом і яна кліча Костуся.

**Костусь** (*уваходзіць пасьля паўзы з вяроўкай ў руцэ*). Вы мяне клікалі? Чаго вы спалохаліся?.. Вы думалі, што ўжо я... А калі-б нават і так, дык што?.. Так было-б лепей... Ах, праўда! Вы спалохаліся, што тут у вашай хаце, тут, за сьцяною, будзе труп... Але супакойцеся, пані! Гэта толькі ў тэатры драматычныя гэроі гэтак лёгка робяць самагубства. Узапраўды бывае інакш. Расстаюцца з жыцьцём—

або людзі ненармальныя з атрофіраваным інстынктам жыцьця, або людзі, каторыя надта шмат страцілі. У мяне-ж невялічкая ўтрата, наадварот... Надзеі, каб вы палюбілі мяне, я мала меў... —гэта, што было, гэта нейкая п'янасьць, ваша прысутнасьць тут каля мяне закружыла мне ў галаве. Я складваю свае рэчы і адыходжу адсюль багацейшы, чымся прыйшоў. Зьяўленьне ваше на маім шляху было неспадзяваным прасьветам, які часам зазьзяе спаміж пакрыўшых небасхіл восенных хмар. Я, як дзіця, або дурны, і плакаў і сьмяяўся, лавіўшы рукамі гэты сонечны прамень... Але хмары йзноў згусьціліся, ізноў лягла на душу шэрая туга, ізноў вецер зашумеў між сухімі галінамі, абмываючы іх сьлязьмі дажджу... — За мінуту сонечнага прабліску ў хмарным маім жыцьці - дзякую вам! Успамін аб вас будзе для мяне заўсёды найдаражэйшым кляйнотам. Пройдуць гады, і я, капаючыся ў пражытых хвілінах, знайду гэты ўспамін, набожна пацалую яго і зноў схаваю глыбока-глыбока, на самае дно душы маей, каб ніхто ня сьмеў бачыць маё багацьце, каб ніхто ня ўкраў мой скарб — мой успамін аб вас... Але не! Ніхто не ўкрадзе! З памяцьцю аб вас я — падарожны — пайду далей па сваім шляху, хаваючы ў душы пазычаны з неба ясны прамень — успамін. І толькі там, дзе ўжо будзе канец мае падарожжы, дух мой сядзе на кургане і аддасьць небу пазычаны прамень...

Вось і ўся казка! — Васіль пайшоў ад вас з сваей „няскончанай драмай“, а я — адыхожу ад вас з драмай скончанай. Я ўжо паставіў пункт... За шалёную мінуту, калі з маіх вуснаў вырваліся гарачыя словы каханьня, — яшчэ раз прашу вас: выбачайце... (*ідзе ў свой пакой*).

**Ядзька** (*слухала яго праз увесь час, як загіпнатызованая. Пабачыўшы, што ён хоча йсьці, устрымоўвае яго клічам*): Пане Костусь!

**Костусь** (*устрымоўваецца*). Што?

**Ядзька** (*глядзіць на яго, але нічога ня кажа*).

**Костусь**. Мне здавалася, што вы мяне клікалі.

**Ядзька** (*бярэ за руку і апускае вочы*). Драма яшчэ ня скончана...

З а с л о н а.

Канец.



# УВАГІ:

Ніжэй паданыя словы, будучы вельмі папулярнымі ў беларускай мове, з боку фонэтычнага і морфолёгічнага аднак выклікаюць спрэчку што да прыналежнасьці іх да мовы, а таму патрабуюць асаблівага аб'ясьненьня. Аб'ясьненьні гэтыя, пэўна-ж, ня вырашаць лёсу паданых слоў у мове, бо жыцьцё сільнейшае за стаўленыя яму правілы і па свайму вырашыць гэты лёс. Словы і аб'ясьненьні падаюцца, як дыскусыйны матар'ял для знаўцаў беларускае мовы, бо дасюль гэтыя словы ўжываліся ў беларускай літэратурнай мове бяз ніякіх засьцярэжаньняў. Некаторыя з паданых слоў уведзены тут з іншых прычын.

Словы паданы ў парадку, у якім яны ўжыты ў папярэднім тэксьце. З увагі на брак пад рукой падхадзячых матэрыялаў для азначэньня крыніц справак, аб'ясьненьні падаюцца ў форме папулярнай Усе гэтыя аб'ясьненьні будуць прыложаны і да наступных выпускаў з далучэньнем, пэўна-ж, новых слоў.

1) **трымаць і дзяржаць** — ужываюцца поруч. Добра было-б прыняць якоесь адно. Лепей было-б — апошняе, ад караня якога можна ўтварыць болей тэрмінаў, напр., дзяржава. Д з я р ж а ц ь — ужываецца значнаю большасьцю славянскіх народаў.

2) **моц**, мацней і г. д. — з фанэтычнага боку не беларускае, заходнеславянскае. Утварылася з праслявянскага — м о г т $+j$. Праславянскія злучэньні — *т*$+j$, *гт*$+j$, *кт*$+j$ — у беларускай мове далі — *ч*. У слове з даным каранём маем — немач. Іншыя словы — ноч (*нокт$+$j), печ (*пект$+$j), сьвечка (*свѣт$+$j$+$-ка) і г. д. Слова — моц — не знаходзіць сталага сыноніму ў беларускай мове. У паасобных выпадках з ім сходзіцца — сіла, дуж(ы), магутнасьць, крэпкасьць (у Насовіча) і інш.

3) **надта, натта** — выглядае на полёнізм — n a d t o. Пры другой ступені прыраўнаньня — беларусы ўжываюць „н а д" таксама, але больш усяго — „з а". Слова — надта — лёгка замяняецца ў беларускай мове словам — в е л ь м і.

4) **жагнаць і благаслаўляць** — абодва чужыя. Першае — ад нямецкага — Segnen, другое — старабаўгарскае. З увагі на тое, што першы складнік другога слова — б л а г а — мае ў беларускай мове зусім працілежнае значэньне, чым у баўгарскай (таксама ў іншых паўднёваславянскіх і чэскай), беларусы ўжываюць — б а г а с л а в і ц ь, якое фактычна замяняе свой орыгінал толькі з неабходнасьці і ўжываецца хіба толькі з чуцьця славянскай солідарнасьці.

5) **енк** — фактычна, польскае — jęk; немагчымае ў беларускай мове, якая юсаў (насовак) ня мае. Мела-б быць — юк, як... У беларускай мове амаль з тым-жа значэньнем ужываецца — стогн, але з адценкам — жалобны стогн (Насовіч). Енк, аднак, вельмі папулярнае ў народзе, як нападабляючае гукі.

6) **слуп**, аслупець і г. д. — фонэтычна заходнеславянізм. Паходзіць ад праслав. — *с т ъ л б (п) ъ. Прасл. *ъл $+$ зычны — у беларускай мове даюць — о ў, напр. — доўгі, коўтаць і г. д. Тады данае слова пабеларуску правільна мусіць быць — стоўб(п). Так у многіх мясцовасьцях і ўжываецца; маем мястэчка — Стоўпцы. Тады — стоўп, стаўпа...

7) **быдла** — трэба лічыць за полёнізм з увагі на канчатковае злучэньне — дл, як падобна-ж у — wiodłem, szedłem і г. д. У беларускай мове тут — чыстае л. Калі глядзець, што карэнь слова — быт — (да-быт-ак), то пераход глухога — т — у звонкае — д — перад звонкім — л — мог стацца і ў беларускай мове, але маем вельмі шмат слоў з роўным значэньнем, што бяз спорнага слова (быдла) можна зусім абыйсьціся. Маем — дабытак, статак, жывёла, гаўяда, скаціна і інш.

8) **тлумачыць** — падобнага паходжаньня, як і слуп. У старых беларускіх актах — толмачить, толмачъ, тады правільна было-б — таўмачыць, таўмач, але апошнія ў беларускай мове мала ўжываюцца.

9) **Владзімі(е)р** — трэба ўважаць за старабаўгарызм, перайшоўшы праз царкву, як і адведзеныя адсюль — Ладзімер, Ладымер, Ладзік і інш. Пабеларуску трэба было-б — Валадзімі(е)р, (поўнагалосьсе), як ужываецца і ў украінскай мове (Володимир)

10) **натхненьне** — з каранём — тх, — фактычна — д (о) ы х. — Першы — польскі. У апошні час дзе хто ў беларускай мове пачаў ужываць — надыхненьне, якое зусім выходзіць з духу беларускае мовы.

11) **скарга** — з увагі на злучэньне — ар — трэба ўважаць за полёнізм, як — targ, гарды. У беларускай мове тут — ор. Слова — скарга — лёгка замяняецца іншым — жальба

12) **пагарда** — таксама. Хіба лепей ўжываць — пагорда, пагордлівы? У Насовіча — погорженіе, тады — пагорджаньне, пагарджэньне; блізкае сюды слова — грэблівасьць

13) **цуд**, цудны і інш. — заходнеславянізм, полёнізм. Паходзіць ад праславянскага — *tjud — Так славяне называлі суседні, усходні ад сябе народ, найхутчэй фінаў (у велікарусаў — „чюдь белоглазая"). Адсюль утворана — а) штюдь (старабаўгарскае — вялікан, асілак); б) чуда (у палякоў — cud); в) чужы, чюдь (фінскае плямя). Цяпер у беларускай мове маем, апроч слоў ад караня — чуж —: чудны, чудзіць, чудак... Тады правільна — чуда. Ужываецца яшчэ — дзіва.

14) **аповесьць**, апавядаць — выглядае на полёнізм з лексычнага боку: powiadać і г. д. У беларусаў адназначныя словы творацца з каранём — каз. — Тады лепш — расказ, расказваць.

15) **пяшчотны** — замяняе прывіванае аднойчы слова з гэтым значэньнем — кволы (рас — нежный). Трэба прызнаць, што другое слова (кволы) ня зусім замяняе рас. — нежный; яно мае асаблівы адценак — слабы, ломкі, вялы... Першае — адказвае больш. Тут маем і — пястун (неженка), пясьціць і г. д.

16) **абяцаць** — Заходнеславянізм, полёнізм. Праслав. — *обѣт + j + ать(и) У нас мела-б быць — абячаць. Але так зусім ня ўжываецца. Ёсьць — даклярываць, прыракаць.

17) **упарты** — полёнізм, падобна, як пагарда і інш. Лепей — упорны, упорлівы.

18) **воблака** — у некаторых мясцовасьцях мае форму — вобалака, што зусім згаджаецца з законамі мовы.

19) **Вільготны** — фонэт. польскае. У некаторых мясцовасьцях ужываюць — волгкі, воўгкі; у Насовіча — волкі(й), волко, волковатый, волкость. Усё — згодна з законамі беларускае мовы, мусіла-б толькі — л — перайсьці ў — ў —. Ужыванае ў расейскай літэратуры — влажны — пэўна старабаўгарызм.



І. Д.

